АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

---

А. ФЯДОСІК

# АНТЫРЭЛІГІЙНЫЯ МАТЫВЫ Ў БЕЛАРУСКІМ ФАЛЬКЛОРЫ




ВЫДАВЕЦТВА АКАДЭМІІ НАВУК БССР
МІНСК 1963

У рабоце аналізуюцца антырэлігійныя і антыклерыкальныя творы беларускага народа, створаныя ў розныя гістарычныя эпохі.

У ёй паказваецца, што ўжо ў дакастрычніцкі перыяд у гушчы працоўных мас узнікалі і распаўсюджваліся творы, накіраваныя супраць царквы, духавенства і рэлігіі. У кнізе вызначаюцца таксама ідэйна-мастацкія змены ў беларускім антырэлігійным фальклоры савецкага часу.

Кніга разлічана на шырокія колы чытачоў.


Рэдактары
акадэмік АН БССР П. Ф. ГЛЕБКА,
кандыдаты навук
У. М. ІВАНОЎ і К. П. КАБАШНІКАЎ

## УВОДЗІНЫ

Праграма Камуністычнай партыі Савецкага Саюза ўдзяляе вялікую ўвагу выхаванню народных мас у камуністычным духу, барацьбе з перажыткамі мінулага ў свядомасці людзей, змаганню за пераадоленне рэлігійных забабонаў. «Неабходна сістэматычна весці шырокую навукова-атэістычную прапаганду, цярпліва растлумачваць памылковасць рэлігійных вераванняў, якія ўзніклі ў мінулым на глебе прыгнечанасці людзей стыхійнымі сіламі прыроды і сацыяльным прыгнётам, з-за няведання сапраўдных прычын прыродных і грамадскіх з'яў»[1],—абвяшчае гэты важнейшы гістарычны дакумент. У Пастанове чэрвеньскага Пленума ЦК КПСС падкрэсліваецца, што трэба весці настойлівую барацьбу супраць рэлігійных перажыткаў, шырэй разгарнуць навукова-атэістычную работу.

Важным сродкам ідэйнай барацьбы з рэлігіяй з'яўляецца народная творчасць, якая ярка адлюстравала развіццё атэістычных настрояў працоўных мас.

Заснавальнікі марксізма-ленінізма падкрэслівалі вялікае гістарычна-пазнавальнае, эстэтычнае і прапагандысцкае значэнне фальклору. К. Маркс адзначаў, што рускія народныя прыказкі «адлюстроўваюць па-сялянскі правільна адносіны рацыянальнай агрыкультуры да рэлігіі»[2].

У. І. Ленін у гутарцы з Бонч-Бруевічам гаварыў, што на фальклорным матэрыяле «можна было б напісаць цудоўнае даследаванне аб спадзяваннях і чаканнях народных. ... Гэта сапраўдная народная творчасць, такая патрэбная і важная для вывучэння народнай псіхалогіі ў нашы дні»[3].

[1] Праграма Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Мінск, 1961, стар. 123.

[2] «Вопросы философии», 1948, № 1.

[3] В. И. Ленин о литературе и искусстве. М., 1957, стар. 610.

У вуснапаэтычных творах беларускі народ выказаў сваё крытычнае стаўленне да рэлігіі, раскрыў эксплуататарскую сутнасць царквы, высмеяў духавенства. Узмацненне крытыкі рэлігіі ў беларускім фальклоры цесна звязана з ростам рэвалюцыйнага вызваленчага руху працоўных. «Патрабаванне адмаўлення ад ілюзій аб сваім становішчы ёсць *патрабаванне адмаўлення ад такога становішча, якое мае патрэбу ў ілюзіях.* Крытыка рэлігіі ёсць, такім чынам, *у зародку крытыка той юдалі плачу, свяшчэнным арэолам якой* з'яўляецца рэлігія»[1],— пісаў К. Маркс.

Антырэлігійныя ідэі распаўсюджваюцца сярод беларускага народа з даўніх часоў. Яны заўсёды супрацьстаялі цемрашальскаму ўплыву царквы.

За распаўсюджанне антырэлігійных поглядаў людзей судзілі і жорстка каралі. Каталіцкія царкоўнікі па-зверску расправіліся з беларускім прагрэсіўным дзеячам і атэістам XVII стагоддзя Казімірам Лышчынскім, які ў сваім трактаце «Аб неіснаванні бога» выступаў супраць веры ва ўсемагутнага тварца і сцвярджаў, што «чалавек — творца бога», але яго атэістычныя ідэі знайшлі водгук у асяроддзі перадавых людзей Беларусі [2].

Аб адмоўных адносінах значнай часткі беларускіх працоўных да царквы і рэлігіі сведчаць таксама іншыя архіўныя дакументы і матэрыялы дарэвалюцыйных газет. Так, у скарзе старасты Вяляціцкай царквы Пінскага павета (снежань 1881 г.) гаворыцца, што ў рэлігійныя святы «храм божы заўсёды застаецца без хвалы яго і ўсявышняга тварца»[3], таму што сяляне ў гэты час знаходзяць для сябе больш важныя справы. Свяшчэннік А. Шостак адзначае, што ў царкоўных прыходах Віцебскага павета «народ зусім не ходзіць у царкву».

Падобныя матэрыялы гавораць аб тым, што атэістычныя ідэі і настроі, выражаныя ў народнай паэзіі, мелі глыбокую рэальную аснову, раслі і пашыраліся з развіццём грамадства.

«... Шматвяковая творчасць мас,— гаварыў У. І. Ленін у гутарцы з Бонч-Бруевічам,— адлюстроўвае іх светасузіранне ў розныя эпохі»[4].

---

[1] К. Маркс и Ф. Энгельс. О религии. Госполитиздат, 1955, стар. 30.
[2] «Маладосць», 1961, № 7.
[3] Дзяржаўны архіў Мінскай вобл., ф. 136, спр. 35769.
[4] «Советская этнография», 1954, № 4.

Некаторыя этнографы і фальклярысты XIX стагоддзя вызначалі адносіны беларускага народа да рэлігіі як абыякавыя, безуважныя. П. В. Шэйн змясціў, напрыклад, наступную заўвагу свайго карэспандэнта з Каралеўскай воласці Віцебскага павета аб стаўленні беларускіх сялян да рэлігіі: «Адносіны тутэйшага беларуса да рэлігіі вельмі цяжка вызначыць; праўдзівей за ўсё сказаць, што яна зусім яго не цікавіць. У царкву беларусы ходзяць толькі для правядзення часу, хрысцяць дзяцей, вянчаюцца ў царкве толькі таму, што без гэтага нельга, але ўнутраны, духоўны бок рэлігіі, здаецца, іх зусім не цікавіць»[1]. Аналагічны вывад зрабіў таксама І. А. Сербаў[2].

Вынікаючая з гэтых заўваг характарыстыка беларускага народа супадае з характарыстыкай рускага народа, аб абыякавых адносінах якога да рэлігіі неаднаразова пісалі рэвалюцыйныя дэмакраты. А. І. Герцэн, напрыклад, адзначаў, што рускі селянін забабонны, але абыякавы да афіцыйнай рэлігіі. Пацвярджэнне гэтаму ён знаходзіў у фальклоры: «Многія прыказкі сведчаць аб абыякавых адносінах рускіх у справе рэлігіі»: «Гром не грянет, мужик не перекрестится»; «Надейся на бога, да сам не плошай»[3].

Абыякавасць да афіцыйнай рэлігіі — гэта яшчэ не атэізм, які засноўваецца на адмаўленні веры ў існаванне ўсякіх звышнатуральных сіл. Але ўжо такія адносіны да рэлігіі з'явіліся вынікам таго, што рэлігійны фанатызм не меў глыбокіх карэнняў у гушчы працоўных мас, як гэта сцвярджалі многія дарэвалюцыйныя даследчыкі беларускага краю (І. Эрэміч[4], Р. С. Папоў[5] і інш.). Вуснапаэтычная творчасць беларускага народа, у якой антырэлігійныя настроі працоўных знайшлі глыбокае адлюстраванне, з'яўляецца яркім пацвярджэннем правільнасці вывадаў не толькі аб абыякавым, але і аб крытычна-адмоўным стаўленні да рэлігіі значнай часткі беларусаў.

Тым не менш было б няправільна лічыць, што атэізм быў пануючым у светапоглядзе беларускага народа дака-

---

[1] П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. III, СПб, 1902, стар. 13.

[2] Гл.: И. А. Сербов. Поездки по Полесью 1911 и 1912 гг. Вильна, 1917, стар. 33.

[3] А. И. Герцен. Полн. собр. соч. под ред. Лемке, т. VI. М., 1919, стар. 352.

[4] И. Эремич. Очерки белорусского Полесья. Вильна, 1868, стар. 30—33.

[5] Р. С. Попов. Белоруссия и белорусы. М., 1879, стар. 23—24.

стрычніцкага часу. У. І. Ленін у 1902 годзе адзначаў «велізарнае пашырэнне ў народных масах рэлігійных «заблуджэнняў»[1].

Пранікненне рэлігійнага дурману ў свядомасць працоўных знаходзіла сабе спрыяльныя ўмовы на глебе сацыяльнай прыгнечанасці і пераважнай непісьменнасці беларускага народа. Паводле статыстычных даных, у 1913 годзе 82% беларускага насельніцтва з'яўлялася непісьменным. У дарэвалюцыйны час друкавалася вельмі мала кніг на роднай мове, у Беларусі не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы[2], працавала вельмі мала школ і бібліятэк. Затое для адурманьвання народных мас «дзейнічала... каля 10 тысяч корчмаў і піўных, 3 тысячы цэркваў, 113 касцёлаў, 704 сінагогі, звыш 300 малітоўных дамоў»[3].

Матэрыялістычны і атэістычны светапогляд у народзе асабліва замацоўваўся ў гады рэвалюцыйнай барацьбы працоўных мас за вызваленне ад эканамічнага і духоўнага прыгнёту. Выступленне супраць эксплуататарскага ладу з'яўлялася выступленнем супраць рэлігіі, якая асвячала вечнасць і непарушнасць гэтага ладу.

Умовы для поўнага вызвалення працоўных ад рэлігійнага дурману стварыла Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, якая канчаткова падарвала сацыяльныя карэнні рэлігіі.

Перамога матэрыялістычнага, навукова-атэістычнага светапогляду ў свядомасці савецкага народа на аснове тых вялікіх сацыяльна-эканамічных змен, якія адбыліся ў нашай краіне,— яркае пацвярджэнне правільнасці марксісцка-ленінскага вучэння аб тым, што ліквідацыя сацыяльных карэнняў рэлігіі асуджае яе на паступовае адміранне.

Аднак рэлігійныя перажыткі разам з іншымі перажыткамі капіталізму ў свядомасці часткі савецкіх людзей захаваліся яшчэ і да цяперашняга часу. На пераадоленне іх накіравана вялікая ідэйна-выхаваўчая работа Камуністычнай партыі і савецкай грамадскасці. Антырэлігійныя народна-паэтычныя творы — творы, складзеныя самімі працоўнымі і таму блізкія і зразумелыя ім,— з вялікім поспехам могуць быць выкарыстаны ў ідэйнай барацьбе супраць рэлігіі.

---

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 5. М., 1950, стар. 311.

[2] Народное хозяйство СССР в 1958 году. Статистический ежегодник. М., 1959, стар. 831.

[3] «Камуніст Беларусі», 1957, № 10.

# РАСКРЫЦЦЁ ЭКСПЛУАТАТАРСКАЙ СУТНАСЦІ АФІЦЫЙНАЙ ЦАРКВЫ І ДУХАВЕНСТВА Ў БЕЛАРУСКІМ ДАРЭВАЛЮЦЫЙНЫМ ФАЛЬКЛОРЫ

## Выкрыццё праваслаўнай царквы і духавенства

Крытыка праваслаўнага духавенства займае значнае месца ў дарэвалюцыйных беларускіх народных творах. Абумоўліваецца гэта перш за ўсё тым, што царкоўнікі былі такімі ж жорсткімі эксплуататарамі, як памешчыкі і капіталісты. Да скасавання прыгоннага права ў 1861 годзе і асабліва да секулярызацыі царкоўных і манастырскіх зямель у 1764 годзе, царква, манастыры і асобныя свяшчэннаслужыцелі былі буйнымі землеўладальнікамі, на якіх працавала многа прыгонных сялян. Гістарычныя дакументы XIV—XVI стагоддзяў сведчаць аб «шчодрасці» некаторых князёў і княгінь, якія даравалі манастырам і цэрквам цэлыя вёскі і сёлы з людзьмі, зямлёй і прыбыткамі [1]. Рад дакументаў сведчыць аб куплі прыгонных сялян царкоўнікамі. З купчай крэпасці ад 6 чэрвеня 1824 года можам даведацца, напрыклад, аб куплі папом Цытовічам сялянкі Мар'і Гаўрылавай за 125 рублёў [2].

Цяжка нават уявіць, якія здзекі цярпелі сяляне царкоўных і манастырскіх вотчын. Царкоўныя феадалы бессаромна прымушалі сваіх «братоў у хрысце» аддаваць усе сілы на карысць «божых служак».

Нават адданы служка царквы мітрапаліт Макарый у сваёй кнізе «История русской церкви» вымушан быў прызнаць, што сялянам царкоўных і манастырскіх вотчын жылося яшчэ горш, чым прыгонным сялянам памешчыкаў:

---

[1] Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах, т. I. Мінск, 1936, стар. 92—101.

[2] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі, т. II. Мінск, 1940, стар. 245.

«Сяляне царкоўных вотчын, мітрапаліцкіх і іншых адбывалі, падобна сялянам іншых зямель, усе дзяржаўныя падаткі і павіннасці і пры гэтым не толькі не карысталіся якімі-небудзь ільготамі, наадварот, абкладзены былі нават больш, чым іншыя сяляне... З царкоўных зямель павінны былі збіраць падаткаў больш супраць іншых зямель, у прапорцыі 4 : 3».

Жорсткі прыгнёт, якому падвяргаліся прыгонныя сяляне манастырскіх вотчын, знайшоў адбітак у беларускай народнай прыказцы: «Манастыршчына горш за паншчыну».

Такім жа цяжкім было становішча прыгонных сялян, якія знаходзіліся пад уладай папоў. Не вытрымаўшы здзекаў папа Карбоўскага, сяляне вёскі Стайкі ў сваёй скарзе магілёўскаму епіскапу пісалі: «Протаіерэй Пётр Карбоўскі, пад уладай якога мы знаходзімся, распараджаецца над намі па сваёй волі, выкарыстоўвае нас на прыгоне без разліку, знясільвае дарэшты, карае жорстка і часам нават уласнаручна...» Здзекі папа Карбоўскага давялі да таго, што сяляне, паводле іх слоў, «засталіся без уласнай жывёлы, а разам з тым і самі... без ежы» [1].

Царква імкнулася апраўдаць «законнасць» існавання прыгоннага права. Мітрапаліт Філарэт у «свяшчэнным пісанні» знаходзіў пацвярджэнне «справядлівасці» прыгоннага стану сялян, а ў час падрыхтоўкі да скасавання прыгоннага права выступаў супраць вызвалення сялян з зямлёй. Ён выказаўся нават за захаванне цялесных пакаранняў, кажучы, што «христианство не осудит сей строгости» [2]. Папы імкнуліся пераканаць сялян, што паднявольнае становішча суджана ім богам і толькі бог зможа яго палепшыць. Але сяляне бачылі: «Да бога высока, а да цара далёка» і паступова ўпэўніваліся, што не ад бога і не ад цара трэба чакаць паляпшэння свайго становішча і што ніякія малітвы да ўсявышняга не дапамогуць у іх цяжкім жыцці: «Маліся, хоць ты засіліся, а на папа працаваць трэба» (Белар.); «Бог не бачыць з неба, што на падаткі грошы трэба» (Федар.).

Пратэст супраць свавольства папоў і памешчыкаў адлю-

---

[1] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі, т. II, стар. 189—190.

[2] А. М. Самсонов. Антифеодальные народные восстания в России и церковь. М., 1955, стар. 168—169.

строўвае і песня «Па начам я ўсё не спала»[1]. У ёй расказваецца аб цяжкім горы жанчыны-маці, якая выгадавала дачку, а яе павялі ў панскі двор пад благаславенне папоў:

Папы бачаць, маці плачаць.
Яны слёз нашых не знаюць
І паноў благаслаўляюць,
Каб яны людзей травілі,
Нашых дзетак загубілі.

Інтарэсы эксплуататараў для папоў важней за ўсё, імем бога благаслаўляюць яны здзекі памешчыкаў над прыгоннымі.

І пасля секулярызацыі манастырска-царкоўных зямель і нават пасля адмены прыгоннага права царква, манастыры і духавенства засталіся буйнымі землеўладальнікамі. У 1905 годзе царква і манастыры, якія знаходзіліся ў беларускіх губернях, карысталіся 172 660 дзесяцінамі зямлі[2]. Апрача гэтага, духавенства Беларусі мела 298 землеўладанняў з агульнай колькасцю 22 412 дзесяцін. Апрацоўвалі гэту зямлю, зразумела, не архірэі, благачынныя і іншыя служкі культу, а сяляне-беднякі. Пасля зямельнаї рэформы 1861 года працоўныя хутка ўпэўніліся, што маніфест цара аб вызваленні сялян ад прыгону — ашуканства. Сярод беларускіх сялян, асабліва ў 1905 годзе, была шырока распаўсюджана песня «Адпусцілі сялян на свабоду»[3], у якой раскрывалася сапраўднае становішча парэформеннай вёскі і паказваўся ўдзел папоў у рабаванні працоўных:

Прыціскае нас земскі начальнік
І ураднік дыхнуць не дае,
Поп пужае нас адам крамешным
І за трэбы тры скуры дзярэ.

Адным з асноўных даходаў царкоўнікаў была плата за розныя рэлігійныя адправы. Нямала прыбытку мелі свяшчэннаслужыцелі ад іншых збораў з паствы, ад гандлю рознымі культавымі рэчамі, асабліва свечкамі. Не шкадавала сродкаў для духоўных пастыраў таксама царская казна. Духавенства, асабліва вышэйшае, належала да адных з самых багатых слаёў насельніцтва. Даходы пецярбургскага мітрапаліта дасягалі, напрыклад, 259 тысяч рублёў у год,

[1] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі. Мінск, 1939, стар. 119.
[2] Документы и материалы по истории Белоруссии, т. III. Минск, 1953, стар. 171, 173.
[3] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 121.

мітрапалітаў маскоўскага і кіеўскага больш чым па 80 тысяч, а архіепіскапа наўгародскага — звыш 307 тысяч рублёў[1]! Гэтыя велізарныя сумы нажываліся за кошт працоўных, якія жылі ў голадзе і галечы. Хрысціянская царква крывадушна вучыла парафіян, што чым цяжэй і бядней будзе чалавек жыць на гэтым свеце, тым лягчэй яму будзе папасці ў царства нябеснае. Але самі царкоўнікі не адмаўляліся ад багаццяў і райскага жыцця на зямлі.

Праваслаўная рэлігія ў царскай Расіі была афіцыйнай, неад'емнай ад дзяржавы і займала прывілеяванае становішча. На чале царквы яшчэ з часоў Пятра I стаяў сам цар. Яна была па сутнасці дзяржаўнай установай, а духавенства — чыноўнікамі, якія складалі асобае саслоўе. Асобы духоўнага звання вызваляліся ад воінскай павіннасці, сіроты з духоўнага саслоўя прымаліся ў духоўныя семінарыі і вучылішчы на казённы кошт і г. д.[2]

Царскія законы ахоўвалі веру і царкву ад крытыкі «багазневажальнікаў». Артыкул 73-і другой главы крымінальнага ўлажэння за «ганьбу на бога, на прачыстую ўладычыцу багародзіцу, на бясплотныя сілы нябесныя або на святых угоднікаў божых, за ганьбаванне дзеяннем або за абразу святых таінстваў, святога крыжа, святых мошчаў» і г. д. прадугледжваў пакаранне катаргаю ці ссылкаю на пасяленне.

Праваслаўнае духавенства добра разумела, што прывілеі яно можа мець толькі пры эксплуататарскім ладзе. Няма нічога дзіўнага ў тым, што царкоўнікі так заўзята абаранялі інтарэсы пануючых класаў. Як падкрэсліваў М. Г. Чарнышэўскі, «духоўнае саслоўе... заўсёды было па духу сваіх рэлігійных настаўленняў народу — слугою існуючага парадку, уладатрымальнікаў»[3]. Па сутнасці духавенства абараняла перш за ўсё свае асабістыя інтарэсы і каб дасягнуць поспехаў у аслабленні росту палітычнай свядомасці працоўных, яно не грэбавала ніякімі сродкамі. Ленін адзначаў, што прыгнятаючыя класы, каб захаваць сваё панаванне, маюць патрэбу ў функцыі ката і папа. «Кат павінен падаўляць пратэст і абурэнне прыгнечаных. Поп павінен суцяшаць прыгнечаных, маляваць ім перспектывы (гэта

---

[1] Ем. Ярославский. О религии. М., 1957, стар. 203.
[2] Н. Лукин. Революция и церковь. М.—Л., 1925, стар. 6—18.
[3] Н. Г. Чернышевский. Сб. статей, документов и воспоминаний, Изд-во политкаторжан, 1928, стар. 39.

асабліва зручна рабіць без парукі за «ажыццявімасць» такіх перспектыў...) змякчэння няшчасцяў і ахвяр пры захаванні класавага панавання, а тым самым прымірадь іх з гэтым панаваннем, адвучваць іх ад рэвалюцыйных дзеянняў, падрываць іх рэвалюцыйны настрой, разбураць іх рэвалюцыйную рашучасць» [1].

Вось якое прадпісанне даваў у 1861 годзе обер-пракурор Сінода граф Талстой:

«Паўсядзённы абавязак свяшчэннікаў ёсць, між іншым, навучаць прыхаджан, каб яны захоўвалі вернасць гасудару і падпарадкаванню начальству ад яго пастаўленаму, каб няўхільна і добрасумленна выконвалі законныя павіннасці і плацілі пэўныя падаткі і накладзеныя або ўмоўленыя аброкі...» [2]

З аналагічнымі патрабаваннямі звярталіся да свяшчэннікаў і прадстаўнікі вышэйшага духавенства. Свяшчэннаслужыцелі ў адказ на падобныя патрабаванні ўзмацнялі прапаведніцкую работу. Яны чыталі пропаведзі ў час царкоўных богаслужэнняў, але гэтага ім здавалася мала. Страх перад нарастаючым рэвалюцыйным рухам штурхаў іх на адшуканне іншых форм адурманьвання працоўных мас. У 1902 годзе ў Маскве была арганізавана камісія па рэлігійнай «асвеце» рабочых з мэтай адцягнуць іх увагу ад рэвалюцыйнай барацьбы. У час маральна-рэлігійных гутарак, правядзенне якіх арганізоўвала камісія, прапаведваліся контррэвалюцыйныя ідэі.

Маральна-рэлігійныя гутаркі, накіраваныя супраць рэвалюцыі, праводзіліся таксама ў Гродна і іншых гарадах Беларусі [3]. Царкоўнікі імкнуліся пераканаць працоўных, што існуючы лад — ад бога і выступаць супраць эксплуататараў грэх. Яны заклікалі веруючых да пакорлівасці і цярплівасці: «Будзьце пакорлівыя ўсякаму чалавечаму начальству, для госпада: ці цару як вярхоўнай уладзе, ці правіцелям, як ад яго пасылаемым... бо такая ёсць воля божая» (Біблія. Першае пасланне Пятра II). Розныя культавыя адправы таксама выкарыстоўваліся ў інтарэсах існуючага ладу. Напрыклад, царскі ўказ патрабаваў ад свяшчэннікаў: «Калі хто пры споведзі аб'явіць духоўнаму айцу свайму якое-небудзь нязробленае, але задуманае яшчэ зладзейства, найбольш жа здраду ці бунт на гасудара або на

---

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 21, стар. 206.
[2] Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі, т. II, стар. 393.
[3] Б. Кандидов. Церковь и 1905 г. Изд. «Атеист», стар. 20.

дзяржаву, ці злую выдумку на гонар або на здароўе гасударава і на фамілію яго вялікасці, і, аб'яўляючы пра такое задуманае зло, не выкажа раскаяння і не адкладзе свайго намеру» [1],— то аб гэтым трэба паведаміць адпаведнаму начальству. Гэты ўказ захоўваў сваю сілу да звяржэння самадзяржаўя.

Вядома многа фактаў, калі пасля споведзей, у час якіх даверлівыя людзі выказвалі свае сімпатыі да рэвалюцыянераў або паведамлялі сакрэтныя звесткі, па даносу папа праводзіліся жорсткія расправы. Так, былы ленінградскі мітрапаліт М. Ф. Платонаў, які пераканаўся ў ілжывасці рэлігіі і парваў з ёю, у сваіх запісках прыводзіць прыклад, калі свяшчэннік у час спавядання гімназістак даведаўся аб прыхільнасці адной з іх да сацыял-дэмакратычнай партыі і выдаў яе. Дзяўчыну згнаілі ў турме. Гэта сведчыць аб тым, што для духоўных айцоў царскія патрабаванні былі вышэй «божых» запаведзей [2].

Імем божым духавенства благаслаўляла царызм на крывавыя расправы над паўстаўшым народам, благаслаўляла на чарнасоценныя пагромы, каб адцягнуць увагу працоўных ад рэвалюцыйнай барацьбы.

Але перадавыя працоўныя зразумелі эксплуататарскую і рэакцыйную ролю царкоўнікаў. У песні «Горка, доля ты батрацкая...» народ заклікае да барацьбы з панамі і духавенствам:

Горка, доля ты батрацкая,
Гарапашная, жабрацкая,
Праца цяжкая, сіберная.
На прыбыткі ды на панскія,
На папоўскія, дваранскія,
Гэй. збірайся, хлопцы жвавыя,
На расправы на крывавыя,
На расправы — пажарышчамі,
Ад маёнткаў — папялішчамі [3].

Аднак у беларускім фальклоры знайшла адбітак і класавая абмежаванасць сялян: «З аднаго боку, вякі прыгоннага гнёту і дзесяцігоддзі фарсіраванага парэформеннага разарэння накапілі горы нянавісці, злобы і адчайнай рашымасці» [4] ў сялянства, а з другога боку, многія сяляне не-

---

[1] Цыт. па кн.: Б. Кандидов. Церковь и 1905 г., стар. 10.
[2] Н. Лукин. Революция и церковь, стар. 4.
[3] Беларускія народныя і рэвалюцыйныя песні. Мінск, 1938, стар. 160.
[4] У. І. Ленін. Творы, т. 15, стар. 185.

свядома адносіліся да пытанняў рэвалюцыйнай барацьбы. «У нашай рэвалюцыі меншая частка сялянства сапраўды змагалася, хоць колькі-небудзь арганізуючыся для гэтай мэты, і зусім невялікая частка ўзнімалася са зброяй у руках на знішчэнне сваіх ворагаў, на знішчэнне царскіх слуг і памешчыцкіх абаронцаў. Большая частка сялянства плакала і малілася, рэзанёрствавала і марыла, пісала прашэнні і пасылала «хадаталяў...» [1]

* * *

Шлях беларускага народа да атэізму быў вельмі складаны. З развіццём свядомасці працоўных расла колькасць твораў, у якіх крытыка рэлігіі і духавенства станавілася ўсё больш вострай і паслядоўнай. Антырэлігійныя творы паявіліся таксама як выражэнне нянавісці, якая стагоддзямі збіралася ў сялян да «святых» айцоў за іх крывадушныя пропаведзі аб пакорлівасці і цярплівасці, аб прымірэнні з цяжкім становішчам, з нясцерпным прыгнётам.

У шматлікіх вуснапаэтычных народных творах намаляваны яркія сатырычныя вобразы дыякана, папа, архірэя і іншых царкоўных служак. Крытыка прапаведнікаў хрысціянскай рэлігіі — крытыка самой рэлігіі ў большай ці меншай ступені ў залежнасці ад ідэйнага зместу твораў.

Сярод антыклерыкальных твораў асабліва многа казак, песень, прыказак і прымавак, у якіх высмейваецца поп. Смех з папа — сатырычны смех, а пад сатыраю, як пісаў В. Р. Бялінскі, мы павінны «разумець не нявіннае выскалянне вясёленькіх дасціпнікаў, а громы абурэння, гразу духа...» [2] Іменна «громы абурэння» гучаць у беларускіх антыпапоўскіх народных творах як выражэнне накопленай за стагоддзі злосці ад нясцерпнага эканамічнага і духоўнага ўціску з боку паноў, папоў, капіталістаў, цара. Сатыра на папа мае рэзкі сацыяльны характар. У асобах папоў працоўны народ бачыў перш за ўсё эксплуатататараў, якія, па словах У. І. Леніна, «прапаведуюць сялянам несцяжанне ды ўстрыманне, а самі набралі сабе праўдай і няпраўдай велізарную колькасць зямлі»[3].

Яркае адлюстраванне ў беларускіх антыклерыкальных народных творах знайшлі антаганістычныя адносіны паміж

---

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 15, стар. 186.
[2] В. Г. Белинский. Избр. соч. М.—Л., 1949, стар. 211.
[3] У. І. Ленін. Творы, т. VI, стар. 345.

папом і яго батраком. Казкі «Папоўскі парабак» [1], «Поп і работнік» [2] і многія іншыя даюць яркія мастацкія малюнкі жорсткай эксплуатацыі, якой падвяргаліся сяляне-батракі з боку папоў. У казцы «Папоўскі парабак» расказваецца, што ўмовы працы і жыцця работнікаў папа былі такімі цяжкімі, што ні адзін парабак не вытрымліваў. Два браты паспрабавалі працаваць некалькі дзён, але не вытрымалі цяжкасцей — адмовіліся. А малодшы брат, якога ў казцы называюць дурным, у сутычках з папом выходзіць пераможцам. Поп, каб менш траціцца на ежу парабку, у час вячэры прымушаў «дурня» выводзіць на двор сваіх дзяцей; загадваў выходзіць на працу, калі закукуе зязюля, а замест зязюлі садзіў кукаваць за печ маці; хацеў утапіць яго. Але парабак — гэта той герой фальклору — «дурань», пра якога М. Горкі гаварыў, што ён «заўсёды аказваецца разумнейшым» за другіх і «заўсёды — пераможца ўсіх жыццёвых нягод» [3]. Ён спрытна выкарыстаў уяўную дурасць, кіруючыся прынцыпам «дурню закон не пісан», і прычыніў многа непрыемнасцей папу. Усе дзеянні парабка апраўданы тым, што ён дакладна выконвае загады. Загадаў, напрыклад, поп зарэзаць тую аўцу, якая паглядзіць на парабка, а ён парэзаў усіх: усе паглядзелі на яго. Загадала пападдзя ўкінуць у гаршкі з баранінай пятрушкі, работнік зарэзаў сабачку Пятрушку і кавалкамі сабачага мяса «прыправіў» страву. Адлюстраванне перамогі прадстаўніка працоўных над эксплуататарам-папом — тыповая з'ява ў беларускіх казках, якая сведчыць аб светлых марах працоўных, іх імкненнях да перамогі над эксплуататарамі.

Паразітызм папа трапна і едка высмейваюць беларускія народныя прыказкі і загадкі: «Ад таго поп і гладак, што наеўся дый набак»; «Мядзведзь не мядзведзь, а пчол абдзірае»; «У папа пуза таўсцее, а ў батрака спіна млее» (Белар.) і інш.

Зверскія здзекі над парабкамі не перашкаджалі папам крывадушна павучаць паству: «Не крыўдзі бліжняга твайго і не грабежнічай», «...любі бліжняга твайго, як самога сябе» (Біблія). Гэтыя біблейскія запаведзі выдаваліся за

[1] M. Federowski. Lud białoruski, т. III, ч. II. Kraków, 1903, стар. 89—91.

[2] П. В. Шейн. Материалы для изучения языка и быта населения Северо-Западного края, т. II, стар. 296—297.

[3] М. Горький. Собр. соч. в 30 томах, т. 27. М., 1957, стар. 305—306.

«божыя» словы. Беларускі народ у вуснапаэтычных творах зрывае маску з крывадушных папоў. Напрыклад, у казцы «Валачашчыся парабак, ці служачы хлеб сабачы» [1] (у зборніку «Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі» называецца «Папоўскі хлеб») працоўныя ставяць папа ў адзін рад з панам. Вось які малюнак жыцця парабка ў пана знаходзім мы ў казцы: «Служыць ён пану верна, шчыра працуе, а пан усё частуе яго кожны дзень: — гультай, пся крэў! Немаш тобе лóзы! — Ведама ж, праўду кажуць людзі, што... у пана ласка па парог. Пан дурны, работы не знае ды толькі панукае. Яму не трэ добра рабіць, а як ён вяліць». Падобны малюнак дае казка і аб жыцці парабка ў папа: «...поп быў... вельмі скупы ды завідны... Стараўся, стараўся парабак, а папу ўсё мала; от і застаўляе той яго, каб уставаў да свету, як запяе певень ды забрэша сабака ды йшоў у гумно малаціць.— Людзі,— кажа,— усё памалацілі, а ў нас стаіць у торпе. Гультай ты, а не парабак.— Горна парабку. Ён стараецца лепш, як сабе, пнецца з усіх сіл, а папу не ўгодзіш».

У казцы паказана, што паны і папы па сваіх адносінах да парабкаў нічым не адрозніваюцца паміж сабою: і першыя, і другія імкнуцца выціснуць з работнікаў усе сілы на сваю карысць.

Адзінства інтарэсаў эксплуататараў розных масцей раскрываецца ў шматлікіх беларускіх прыказках і прымаўках. «Пан скуру здзірае, а поп душу вымае»; «Дзе поп царкву ставіць, там пан карчму ладзіць» (АІМЭФ); «Уцякаў ад пана, а папаў да папа» (Белар.),—з горкай іроніяй гаварыў беларускі селянін.

У асяроддзі беларускіх сялян у дакастрычніцкі час бытавала таксама многа анекдотаў, сатыра якіх была непасрэдна накіравана на выкрыццё эксплуататарскай ролі папоў. Аднак некаторыя савецкія фалькларысты (Лупанава і інш.) недаацэньвалі сацыяльнае значэнне анекдотаў. Яны лічылі, што анекдоты адрозніваюцца ад казак адсутнасцю сацыяльнай крытыкі.

Аднак гэта далёка не так. Анекдот вельмі блізкі да бытавой казкі, часам цяжка правесці мяжу паміж гэтымі жанрамі. Але зусім няправільна бачыць розніцу паміж анекдотам і казкай у большай ці меншай сацыяльнай зна-

---

[1] А. Сержпутоўскі. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета. Л., 1926, стар. 77—79.

чымасці таго ці іншага жанра. Як не ўсякая казка, так і не кожны анекдот маюць аднолькавае сацыяльнае значэнне. Анекдот адрозніваецца ад казкі тым, што звычайна ў яго аснове ляжыць адзін кароткі эпізод, для анекдота амаль заўсёды характэрна адсутнасць фантастыкі. У сувязі з тым, што анекдот дае апісанне адной падзеі, у ім няма такой характарыстыкі вобразаў, як у бытавой сатырычнай казцы. Развязка здзіўляе нечаканасцю і разам з тым апраўданасцю.

У пацвярджэнне нашай думкі разгледзім анекдот «Папоўскі полудзень» [1], запісаны Е. Р. Раманавым. У анекдоце расказваецца, як поп з работнікам грэблі сена. Здавалася б, што ў творы адзначаецца іх аднолькавае становішча: абодва працуюць. Аднак невялікая, але значная для ідэйнага зместу дэталь падкрэслівае іх сацыяльную няроўнасць: папу прынеслі на абед бутэльку малака, а работніку бутэльку вады. Дзякуючы гэтай дэталі анекдот набывае сацыяльную накіраванасць, якая знаходзіць канчатковае выяўленне ў апошніх радках твора, дзе расказваецца, што пасля абеду поп пачаў грэсці сена ў капу, а работнік у ваду.

— Што ты гэта робіш? Куды ты грабеш? — пытаецца поп.

— А, бацюшка, ты грабеш сваёй кароўцы, а я сваёй.

Ці можна назваць гэты твор казкай? Зразумела, нельга. І сціслая будова твора, і яго невялікі памер, і, нарэшце, тое, што асноўная думка заключана ў апошнім сказе — у трапным адказе работніка,— усё гэта дае нам поўнае права аднесці твор «Папоўскі полудзень» да анекдотаў. Пры гэтым сацыяльная накіраванасць яго не выклікае сумненняў.

Сярод антыпапоўскіх вуснапаэтычных твораў дакастрычніцкага часу значна менш у параўнанні з казкамі, прыказкамі і прымаўкамі запісана песень. Але і ў іх беларускі народ ясна выказаў свае адносіны да царквы і духавенства. Напрыклад, у песні «У Тураве ды на мураве...» [2] сцвярджаецца, што царква, якая будуецца ў Тураве, прынясе карысць не народу, а толькі папу:

Люд збіраецца ў царкву тую будзе, —
Поп прыбытак сабе там здабудзе.

---

[1] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 25.
[2] Там жа, стар. 113.

З антыпапоўскіх песень дарэвалюцыйнага часу параўнальна больш пашыранымі былі песні, якія насілі жартоўна-насмешлівы характар. Народны гумар у гэтых песнях пераходзіў у едкую іранічную насмешку над усім духоўным саслоўем. Так, жартоўная песенька «Чыя доня»[1] дасціпна высмейвае гультайства і няўменне працаваць паповай дачкі:

— Чыя доня?
— Папова.
— Што дзелала?
— Палола.
— Што палола?
— Маркоўку, пастэрнак.
— Дый скалола ножаньку на бурак...

Рэзка высмейвае беларускі народ і манахаў. У казцы «Пётр манастыр аглядае...»[2] народ проціпастаўляе вобразы змардаванага цяжкай працай каваля і тлустага ад гультайства манаха. Ханжа-манах тлумачыць Пятру, што ён тлусты ад «трудов праведных» — малення богу. Пётр паслаў яго папрацаваць у кузню. Нясоладка прыйшлося манаху, калі пакаштаваў рабочага хлеба: тлушч скора з'ехаў. І манах просіць у цара прабачэння і дазволу зноў пайсці ў манастыр.

Казка бічуе паразітычнае жыццё манахаў, іх крывадушнасць і непрыстасаванасць да жыцця.

Аб непрыязных адносінах працоўных да манахаў сведчаць і народныя прыказкі: «Калі б у манастыры дровы рубалі, туды б не ўцякалі»; «Манах бяжыць ад работы, як чорт ад крыжа» (Белар.).

Крытыка эксплуататарскай ролі і паразітызму папоў і манахаў з'яўляецца разам з тым выкрыццём эксплуататарскай сутнасці царквы наогул.

Паразітызму і гультайству духавенства беларускія народныя творы супрацьпастаўляюць любоў да працы сялян, іх здольнасць выканаць самую цяжкую работу. Поп дамаўляецца з работнікамі: «Калі ты выбудзеш у мяне год, то я табе заплачу, а калі не выбудзеш, то ты мне заплаці» (казка «Поп і работнік»[3]). Поп разлічваў на дармавую

---

[1] А. С. Дембовецкий. Опыт описания Могилевской губернии, кн. 1. Могилев, 1882, стар. 89.
[2] В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. I. СПб, 1891, стар. 386—387.
[3] П. В. Шейн. Материалы..., т. II, стар. 296—297.

працу работніка. Яму здавалася, што гэта няцяжка ажыццявіць, калі ёсць магчымасць даць такую работу, якая была б не пад сілу батраку. Але поп пралічыўся. Работнік адным штуршком забіў вала, здолеў злавіць мядзведзя, перамог д'яблаў і г. д. Ён зрабіў усё, што загадаў поп. У вобразе работніка адлюстроўваецца велізарная сіла працоўнага народа, яго лепшыя рысы: любоў да працы, добрасумленнасць, спрытнасць, кемлівасць, нянавісць да класавых ворагаў.

Адной з важных асаблівасцей казкі, у тым ліку антыпапоўскай, з'яўляецца вылучэнне ў ёй найбольш характэрнай рысы галоўнага героя, якая становіцца асноўнай. І вельмі часта ў якасці гэтай асноўнай рысы ў антыклерыкальных казках выступае прагнасць папа.

Вялікае значэнне гэтаму прыёму фальклору надавала Н. К. Крупская, якая пісала: «Другі прыём — у вядомых тыпах увасабляць адпаведныя якасці, адна якасць — спецыфічная — выступае, зацямняючы ўсе астатнія. Чалавек даецца ў разнастайных умовах, і натура яго выяўляецца ў гэтых разнастайных умовах ваўсю» [1].

Такім чынам, кожная казка акцэнтуе ўвагу на адной з найбольш важных рыс характара папа. Сацыяльны тып усебакова раскрываецца ў многіх казках, дзе адна рыса ці своеасабліва дапаўняецца другою, ці, паўтараючыся, раскрываецца ў другіх сітуацыях. Адзначаючы гэту спецыфіку казачных вобразаў, М. Горкі пісаў, што «героі казак, пераходзячы з адной у другую, паўтараючыся, складаліся мною ў адну асобу, у адну фігуру» [2].

Пры разглядзе казак трэба ўлічваць, што адна і тая ж казка мае многа варыянтаў, якія могуць адносіцца да розных гістарычных эпох, што не можа не адбіцца на характары раскрыцця вобразаў. Як адзначаў на IV Міжнародным з'ездзе славістаў вядомы чэшскі вучоны А. Меліхерчык, фальклорны вобраз гістарычна абумоўлен і залежыць ад змен жанра, які развіваецца гістарычна [3]. Толькі канкрэтна-гістарычны падыход да ацэнкі ідэйнага зместу і да аналізу мастацкіх вобразаў антыпапоўскіх твораў дае магчы-

---

[1] «Литературная газета» ад 29 сакавіка 1933 года.

[2] М. Горький. Собр. соч. в 30 томах , т. 27. М., 1950, стар. 400.

[3] А. Мелихерчик. К проблеме специфики художественного образа в фольклоре. «Русский фольклор». М.—Л., 1960, стар. 293—295.

масць высвятліць іх сацыяльную (у тым ліку антырэлігійную) значымасць.

Акцэнтацыя ўвагі на адной галоўнай рысе характару папа ў кожнай казцы не пазбаўляе адноснай закончанасці вобраза «божага» служкі ў тым ці іншым творы. Гэтаму садзейнічае цэлы рад мастацкіх прыёмаў раскрыцця характараў персанажаў.

Прагнасць да чужога дабра — адна з галоўных рыс папа, якую едка высмейвае беларускі народ у казках, песнях, прыказках, прымаўках і загадках. Гэта рыса ярка адлюстроўваецца пры паказе ўзаемаадносін паміж папом і работнікам, а таксама паміж папом і ўсёй паствай.

Падобныя творы мелі шырокае распаўсюджанне. І не выпадкова: яны былі вынікам шматгадовых назіранняў і жыццёвага вопыту народа.

Вымаганні свяшчэннікаў часта выклікалі скаргі ў працоўных сялян, для якіх вялікая плата за царкоўныя адправы была непасільным цяжарам. Напрыклад, сяляне вёскі Адазоўшчына Навагрудскага павета ў скарзе 1889 года паведамлялі, што свяшчэннік В. Лісоўскі ўзяў за шлюб 60 рублёў [1] — велізарную для таго часу суму грошай. У скарзе прыхаджан Загальскай царквы Бабруйскага павета епіскапу мінскаму і тураўскаму Міхаілу ад 21 студзеня (1905 года) гаворыцца, што свяшчэннік Міхаіл Шубін патрабаваў ад сялянкі Алены Казлоўскай, маці чатырох дзяцей, 3 рублі грошай толькі за выдачу пасямейнага спіска. Ён жа ўзяў ад круглай сіраты за пахаванне маці 3 рублі, а праз шэсць тыдняў патрабаваў ад яе за памінкі 5 рублёў.

Прагнасць папа адзначалася ў вуснапаэтычных творах далёкага мінулага. Ужо ў «Пісьмоўніку» М. Г. Курганава (выйшаў з друку ў 1769 годзе) ёсць казка аб тым, як за хабар свяшчэннік пахаваў сабаку. Гэты ж сюжэт ляжыць у аснове казкі «Сабака і грошы», запісанай А. К. Сержпутоўскім у пачатку XX стагоддзя. Казка высмейвае карыслівасць і прагнасць папа, зрывае маску з яго паказной набожнасці.

Яшчэ больш рэзка папоўская прагнасць высмейваецца ў варыянце гэтай казкі, запісаным Ч. Пяткевічам [2]. Пабачыў бацюшка кучку сярэбраных рублёў, якія палажыў селянін,

---

[1] Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 136, воп. 1, спр. 3679, л. 8.

[2] Cz. Pietkiewicz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego. Warszawa, 1938, стар. 138—181.

каб за іх поп пахаваў сабаку, і «паповы вочы загарэліся полымем»,— расказваецца ў казцы. Поп загадаў пахаваць сабаку, хаця і разумеў, што «гэта не то грэх, а яшчэ і астрогам пахне».

Народная сатыра не прамінае і вышэйшае духавенства. У гэтай жа казцы не менш рэзка высмейваецца прагнасць архірэя. Прывёў мужык да архірэя казла, паклаў перад ім грошы і папрасіў палажыць на казла руку, пастрыгчы і даць яму імя айцец Іван. Не адразу згадзіўся на гэта архірэй, спачатку раскрычаўся, аблаяў мужыка. Але «хоць і архірэй, ды ўсё ж такі паповае вока: як пачуў, што рублі звоняць, хаваючыся ў кішэнях», то згадзіўся. І казёл стаў айцом Іванам!

У гэтай казцы, як і ў многіх іншых, зрываецца крывадушная маска святасці з служак культу, якія выкарыстоўваюць для сваіх карыслівых мэт царкоўную службу, нават «свяшчэннае пісанне». Дзякуючы гэтаму казка набывае выразны антырэлігійны сэнс.

Народныя творы малююць вобраз папа, здольнага з-за прагнасці на ўсякія подласці ў адносінах да працоўнага чалавека. Шырока вядомай была казка «Завідны поп» [1]. Аб гэтым сведчыць той факт, што яе варыянты мы знаходзім у зборніках У. М. Дабравольскага [2], Е. Р. Раманава [3] і А. К. Сержпутоўскага. Вось змест варыянта, запісанага апошнім фалькларыстам.

Бедны селянін пайшоў прасіць папа, каб той пахаваў памёршае дзіця. «Добра,— кажа поп,— толькі ты мне перш прынясі дзесяць злотых і паўвасьмінку аўса». Калі ж селянін сказаў, што ў яго няма ні грошай, ні аўса, і папрасіў пахаваць нябожчыка ў лік адработкаў, поп не захацеў і слухаць. «Як ні прасіў бедны, поп стаіць на сваім ды і толькі»,— расказваецца ў казцы. Але выпадкова бядняк знайшоў вялікі скарб з золатам. Зайздрасць заставіла папа забыць свае пропаведзі, у якіх ён заклікаў паству: «Не крадзіце, не ілжыце і не ашуквайце адзін аднаго»; «Не крыўдзь бліжняга твайго і не грабежнічай» (Біблія, Лявіт). Ён не пабаяўся нават выдаць сябе за д'ябла: апрануў

[1] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. СПб, 1911, стар. 40—41.

[2] В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. I, стар. 703.

[3] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, т. I, вып. III. Витебск, 1887, стар. 334.

казліную скуру і пад выглядам чорта пайшоў да селяніна адбіраць скарб. Удалося прапаведніку «божых» запаведзей абрабаваць селяніна, але не ўдалося спажыць нарабаванае: скура казла прырасла да цела. У апошняй частцы казкі выражаюцца мары працоўных аб пакаранні эксплуататараў і вымагацеляў-ашуканцаў у папоўскіх рызах. Характэрна, што ва ўсіх варыянтах гэтай казкі поп не застаецца без пакарання: у адным выпадку ён так і памірае ў казлінай скуры (варыянты зборніка Раманава), у другім — скура звальваецца з папа разам з яго ўласнаю (варыянт зборніка Дабравольскага).

У шматлікіх казках прагнасць выступае той сілай, якая штурхае папа на розныя заганныя ўчынкі. Характэрна, што народ не толькі бязлітасна высмейвае прагнасць папа, але і паказвае, што ў канчатковым выніку яго махінацыі і ашуканствы церпяць няўдачу. Казкі, у якіх паказаны сутычкі папа і селяніна, звычайна канчаюцца перамогай апошняга. Думаў, напрыклад, поп ашукаць бедняка: адабраць ад яго апошнюю карову і далучыць яе да свайго статку, а ашукаў самога сябе — яго статак апынуўся ў хляве селяніна (казка «Як чалавеку ў дзесяць раз вярнулася» [1]). Ашукаў поп селяніна і забраў у яго чарадзейныя жорны і залатую козку, але нядоўга карыстаўся імі: малайцы з чарадзейнай торбы так правучылі яго, што ён аддаў назад і жорны і козку (казка «Як віхар і вецер даравалі мужыку жорны...»[2]).

У запісанай Е. Р. Раманавым легендзе «Бог і поп» [3] гаворыцца аб тым, што прагнасць папа з'яўляецца вынікам закляцця бога, які быццам бы сам пераканаўся ў бязмежнасці «апетытаў» свайго служкі і «благаславіў» яго на паборы: «Будзеш ты браць з жывога і з мёртвага, і з беднага, і з багатага, і ўсё табе мала будзе». У легендзе гучыць народны папрок богу, які наслаў, як бяду, на чалавецтва прагнасць папа. І ні бог, ні святыя апосталы не маюць сілы пазбавіць папа ад гэтай заганы. Імкнецца, напрыклад, Мікола-цудатворац перавыхаваць папа, але не дасягае станоўчых вынікаў (легенда «Мікола і поп»[4]). Наадварот,

[1] M. Federowski. Lud białoruski, т. III, ч. II, стар. 153; Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 48—49.

[2] В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. I, стар. 585—590.

[3] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. IV. Витебск. 1891, стар. 214—215.

[4] Там жа, стар. 60—61.

зайздрасць і прагнасць папа растуць. З-за сваёй прагнасці ён і гіне.

Нельга не заўважыць, што атэістычныя матывы ў гэтых легендах і казках гучаць слаба; сяляне яшчэ верацць у існаванне бога і святых апосталаў, паказваюць святога Міколу здольным тварыць цуды. Аднак і ў гэтых творах мы знаходзім элементы крытычных адносін да афіцыйнай рэлігіі. Бог і святыя апосталы паказаны не ўсемагутнымі, як у царкоўным вучэнні. Легенды і казкі адлюстроўваюць сумненне ў міласэрнасці і справядлівасці бога і апосталаў, калі яны цярпліва пераносяць існаванне такога загаппага слугі, як поп, які і крадзе, і лжэ, і ашуквае, і кашчунствуе.

Сатырычна едка высмейваецца папоўская прагнасць у анекдоце «Як поп маліўся»[1], у якім парадзіруецца царкоўны малебен. Анекдот быў добра вядомы беларускаму і рускаму народам. Парадзійная форма асмяяння царкоўнага малебна дае магчымасць дасціпна выкрыць эксплуататарскую сутнасць царквы і карыслівасць духавенства. Пры гэтым парадзіраванне «святога» малебна набывае антырэлігійнае гучанне. Вось як поп, панамар і дзяк правяць «малебен»:

— Панамар, панамар! узыдзі-тка на званіцу, паглядзі-тка, ці не йдзець к нам хто, не нясець нам што?

— Віжу, бацюшка: ідзець якаясь баба, нясець на паніхіду стопку бліноў і чарачку мёду.

— Падай, госпадзі.

Радуецца карыслівы бацюшка. І зусім інакш рэагуе поп, калі дзяк паведамляе:

— Віжу, бацюшка: ідзець мужычок і нясець дубінку на папову спінку!

Асабліва вялікай папулярнасцю ў народзе карысталіся казкі, анекдоты, песні, прыказкі і прымаўкі, якія паказвалі святарнаслужыцеляў распуснікамі і п'яніцамі.

Народ бачыў, што свяшчэннікі толькі заклікалі іншых людзей выконваць божыя запаведзі, у тым ліку і запаведзь «не пралюбадзействуй», а самі часта іх не выконвалі. Шматлікія дакументы і матэрыялы сведчаць аб агідным маральным абліччы служак культу. Нават мітрапаліт Макарый адзначаў, што п'янства і распуста былі галоўнымі заганамі духавенства на працягу ўсёй гісторыі царквы. Гэ-

---

[1] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. I—II, стар. 189—190.

та ж адзначаюць многія гістарычныя дакументы, напрыклад ліст караля Жыкгімонта Аўгуста архіепіскапу мітрапаліту кіеўскаму Макарыю. Нямала дакументаў і матэрыялаў, якія характарызуюць маральнае аблічча духавенства, можна знайсці і ў дзяржаўных архівах БССР [1].

Усё гэта сведчыць аб тым, што распуснасць і адсутнасць маральных норм былі тыповымі рысамі духавенства. Таму так шырока былі распаўсюджаны ў народзе творы, якія ганьбавалі распусных папоў і іншых служак царкоўнага кліру. Усе гэтыя творы былі складзены на рэальнай аснове. Мы асабліва падкрэсліваем рэальны грунт фальклорных твораў, якія ганьбяць распуснасць духавенства, таму што ў савецкай фалькларыстыцы былі выпадкі няправільнага падыходу да іх разгляду. Напрыклад, Ю. М. Сакалоў лічыў, што казкі аб распусце духавенства ўзніклі ў выніку імкнення сялян «прыпісаць» папу п р а м а с у п р а ц ь л е г л ы я я к а с ц і» (падкрэслена намі.— *А. Ф.*) тым, якімі ён абавязан быў валодаць. Дакументы і матэрыялы, якія мы прыводзілі вышэй, пацвярджаюць думку, што справа не ў «прыпісванні» папу тых заганных рыс, якіх у яго магло і не быць, а іменна ў імкненні праўдзіва адлюстраваць гэту тыповую рысу духавенства.

Бясспрэчна, класавыя супярэчнасці паміж селянінам і папом адыгралі ролю ў тым, што апошні стаў аб'ектам сатырычнага асмяяння ў многіх фальклорных творах. Нельга адмаўляць і значэння законаў мастацтва, у адпаведнасці з якімі вобразы служак царкоўнага кліру малююцца завострана, гратэскава, каб больш выразна і выпукла паказаць іх сацыяльныя якасці. Але галоўнай асновай было жыццё, якое давала багаты матэрыял для рэалістычнай народнай сатыры. Іменна мэта рэалістычна адлюстраваць рэчаіснасць і была асноўнай задачай казачнікаў.

Непамерна перавялічыў Сакалоў таксама значэнне ўплыву заходняй еўрапейскай навелы на нашы казкі і анекдоты аб любоўных прыгодах царкоўных служак [2]. Быццам рэальных фактаў для ўзнікнення адзначаных твораў у асяроддзі славянскіх народаў было недастаткова і трэба было запазычаць сюжэты з Заходняй Еўропы!

Сярод велізарнай колькасці казак і анекдотаў аб лю-

---

[1] Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф. 136, воп. 1, спр. 35468, 35660, 36716 і інш.

[2] Ю. М. С о к о л о в. Поп и мужик. М.—Л., 1931, стар. 23—25.

боўных прыгодах папоў адной з асабліва шырока вядомых была казка пра распуснага «божага» служку, які пападае ў кадушку з пер'ем ці сажай. Селянін выдае папа за чорта, а за паказ бярэ вялікія грошы («Новы чорт» [1], «Як мужык з бяды выйвеўся», «Аб дурню і разумных братах» [2] і інш.). У беларускіх народных творах дасціпна высмейваюцца царкоўныя прапаведнікі цноты і ўстрымання, якія для дасягнення сваіх брудных мэт ішлі на ашуканства, на выкарыстанне «божага» слова і на іншыя агідныя справы. Напрыклад, каб пераканаць жанчыну згадзіцца з сваёй бруднай прапановаю, поп нават моліцца (казка «Поп»[3]).

Сатырычны смех, з дапамогаю якога беларускія працоўныя выкрывалі крывадушша «божых» служак, едка гучыць у казцы «Поп, дзяк і Фядора» [4]. Вастрыё сатыры накіравана ў гэтым творы супраць духавенства і рэлігіі. Поп і дзяк, паказвае казка,— агідныя распуснікі і ашуканцы прыхаджан, якія прыйшлі ў царкву, а замест малітвы слухалі перагаворы царкоўных служак з палюбоўніцай. Фядора, палюбоўніца папа і дзяка, абяцала прыйсці да бацюшкі ў суботу вечарам, але засталася з дзякам. У нядзелю «выйшаў поп на абедню і ўбачыў Фядору. Поп пачаў спяваць:

— Хвядора, Хвядора, а чаму не прыйшла ўчора звячора?

Так дзяк падхапіў:

— Пакі, пакі, бо баялася сабакі!

Так поп зноў:

— То ж я сабаку прывязаў і кусок хлеба з маслам даў!»

Побач з выкрыццём распуснасці духавенства ў сатырычным парадзіраванні малебна высмейваецца ўвесь царкоўны рытуал.

Вобраз папа ў беларускай вуснапаэтычнай народнай творчасці — гэта тып вялікай абагульняючай сілы, тып, у якім знайшлі адлюстраванне адмоўныя рысы ўсяго духавенства. Аднак у некаторых творах сустракаюцца і вобразы іншых прадстаўнікоў кліру, пападдзі і папоўскай дачкі. У прыкладах, якія мы прыводзілі вышэй, яны часцей за ўсё адыгрывалі другарадную ролю: садзейнічалі больш яр-

---

[1] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 121—122.

[2] M. Federowski. Lud białoruski, т. III, ч. II, стар. 291—293.

[3] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 76—77.

[4] M. Federowski. Lud białoruski, т. III, ч. II, стар. 294.

каму раскрыццю вобраза папа. У беларускім фальклоры вельмі рэдка, але ўсё ж сустракаюцца творы, у якіх гэтым вобразам адводзіцца галоўная роля. Яны надзяляюцца тымі ж адмоўнымі рысамі, што і вобраз папа [1].

* * *

Пры раскрыцці характараў герояў казак галоўную ролю, як і ў эпічных літаратурных жанрах, адыгрывае паказ дзеянняў і паводзін персанажа, паказ сутыкненняў аднаго персанажа з другім. Іменна праз дынаміку дзеянняў раскрываюцца адпаведныя рысы характараў. Пры гэтым казка стварае незвычайныя абставіны, у якіх дзейнічае герой. Гэта дае магчымасць больш ярка раскрыць найбольш істотныя якасці прадстаўнікоў духавенства, такія якасці, якія пры звычайных абставінах не вылучаюцца, а часам і не заўважаюцца з-за хітрай маскіроўкі іх носьбітамі.

Прагнасць папа, напрыклад, раскрываецца праз паказ імкненняў папа выманіць уяўныя чарадзейныя прадметы (казка «Як поп ашукаў Тараса аднойчы, а Тарас яго двойчы»); праз карціну, калі поп лезе пад снапы правярадь, ці добра малоцяць работнікі («Папоўская проба») і г. д.

Вобраз набывае своеасаблівую мастацкую індывідуальнасць і адносную закончанасць таксама дзякуючы таленавітаму выканаўчаму майстэрству казачнікаў, якія інтанацыяй, мімікай, жэстамі і іншымі сродкамі садзейнічаюць жыццёвасці, рэльефнасці вобразаў.

Пры разглядзе прыёмаў стварэння вобраза папа ў народных казках нельга забываць і той спецыфікі іх, якую адзначаў М. Г. Чарнышэўскі: «У сваіх рысах казка... напалавіну,— і больш чым напалавіну, ствараецца вамі самімі, і адценні яе фарб — лёгкія, пераліўныя перламутравыя адценні ўсіх фарб радугі, але толькі слізгаючыя ў вашых уласных марах па беламу фону казкі» [2].

Гэта асаблівасць казкі мае вялікае значэнне, таму што фальклорныя вобразы, нягледзячы на перавагу абагульнення над індывідуалізацыяй у параўнанні з літаратурнымі вобразамі, паўстаюць перад слухачамі выразна акрэсленымі.

---

[1] В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. I, стар. 696—700.

[2] Н. Г. Чернышевский. Полн. собр. соч., т. XII. М., 1949, стар. 132.

Пры разглядзе спосабаў стварэння вобразаў у антыпапоўскіх народных творах нельга не заўважыць, што роля аўтарскай [1] характарыстыкі ў іх значна меншая, чым у літаратурных творах. У некаторых творах характар раскрываецца толькі дынамікай дзеянняў і паводзін персанажа. Аднак нярэдка сустракаецца таксама спалучэнне вельмі кароткай сацыяльнай і псіхалагічнай характарыстыкі з паказам учынкаў героя. Напрыклад, у казцы «Скупы поп» у зачыне-экспазіцыі даецца такая характарыстыка папа: «Жыў поп. Ён быў вельмі скупы. У яго было сала, мяса, каўбасы, сыр, масла. Усё гэта ён трымаў у цэркві, бо баяўся, каб у двары не паелі яго работнікі» [2]. Далейшы змест казкі па-мастацку ярка раскрывае гэту якасць папа. Работнік абхітрыў папа. Застаўся ён аднойчы ў царкве, наеўся і ў мех набраў. «А потым узяў ды Міколу вусны вымазаў малаком, Пятру — салам, каля Паўла паклаў мяса кусок». Поп палічыў, што ўсё паелі святыя і аблаяў іх. З-за сваёй скупасці поп не пабаяўся гневу ні бога, ні святых. Важна адзначыць, што калі кашчунныя паводзіны папа ў гэтай казцы тлумачацца яго скупасцю, то ўчынкі работніка сведчаць аб яго атэізме. Адлюстраванне такіх поглядаў народа ў фальклоры — сведчанне пэўнага росту антырэлігійных настрояў працоўных мас.

У многіх антыпапоўскіх казках з высокім майстэрствам малююцца партрэты персанажаў. Казкі, у якіх даваўся б дэталёва намаляваны партрэт папа, сустракаюцца вельмі рэдка. У большасці казак ужываецца толькі некалькі трапных штрыхоў, якія падаюцца ў розных месцах твора, а партрэт атрымліваецца яркі і ўдалы.

Каб узмацніць уражанне, падбіраюцца такія камічныя сітуацыі, пры якіх не толькі ўдала зрываецца маска крывадушша з божага служкі, але і выстаўляюцца на ўсеагульнае асмяянне яго заганныя якасці. Напрыклад, у казцы «Новы чорт» [3] поп, якога застае ў сваёй жонкі селянін, хаваецца ў кадушку з пер'ем. Селянін абкручвае кадушку коўдраю, абвязвае вяроўкаю і вязе на кірмаш. Пакуль селянін ехаў, поп «так абмараўся, так у кудлы набілася пер'я, што саўсім стаў пахож на чорта». Непрывабнае, агіднае

---

[1] Тэрмін «аўтарская мова» ў фальклорных творах умоўны. Ён ужываецца намі, каб аддзяліць простую мову і словы аўтара.

[2] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 43.

[3] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 121—122.

аблічча! Але народ не задавальняецца і такой абмалёўкай яго партрэта. Падбіраецца найбольш камічная сітуацыя, каб узмацніць ганьбу «святога» айца. Партрэт папа ва ўсім непрыглядным «харастве» малюецца ў той момант, калі вакол селяніна сабралася многа людзей: «Зірнуць людзі, аж гэта якоесь страшыдла: высокі, худы, з доўгімі кудламі ды з вялізнаю барадою, цыглаты, у адной сарочцы без парток ды так умазаўся ды ўкачаўся ў пер'е, што рыхтык чорт».

Удала выкарыстоўваюцца разнастайныя мастацкія сродкі, якія адыгрываюць важную сэнсавую нагрузку. Часта ўжываюцца параўнанні, якія вызначаюцца эмацыянальнай выразнасцю і сацыяльнай накіраванасцю. У народных параўнаннях шырока выкарыстоўваецца бытавая лексіка (напрыклад, у казцы «Новы чорт» поп прыстае да жанчын, «бы шаўцоўская смала»).

Яскрава характарызуюць папа эпітэты: «зайздросны», «скупы», «прагны», «паганы», «кудлаты», «доўгагрывы» і г. д. Пры гэтым няцяжка заўважыць, што эпітэты не толькі вызначаюць пэўныя рысы папа, але і паказваюць варожыя адносіны народа да яго.

У антыпапоўскіх казках па-майстэрску выкарыстоўваецца павелічальнае шкло сатыры для бязлітаснага выкрыцця гнюсных учынкаў духавенства, якое старанна хавае сваю сапраўдную сутнасць за маскай дабрачыннасці.

Важнай асаблівасцю прыёму гіпербалізацыі ў антыпапоўскіх казках з'яўляецца тое, што ў папа завострана падкрэсліваюцца адмоўныя рысы, а ў работніка, наадварот, станоўчыя. Дзякуючы гэтаму прыёму больш ярка і рэльефна акрэслена адлюстроўваюцца і тыповыя рысы адпаведных сацыяльных груп.

І паказ учынкаў, паводзін і дзеянняў папа ў незвычайных, фантастычных, часта ў вельмі смешных абставінах, і абмалёўка партрэта ў момант камічнай сітуацыі, і цэлы рад іншых мастацкіх асаблівасцей беларускай антыпапоўскай казкі садзейнічаюць стварэнню злой, бічуючай сатыры. Элементы камічнага ў гэтай сатыры адыгрываюць велізарную ролю. Іх выкарыстанне беларускім народам не выпадкова. Народ заўважыў, што царква і духавенства заўсёды былі непрымірымымі ворагамі смеху. Смяяцца, асабліва ў памяшканні царквы, лічылася вялікім грэхам. Духоўныя айцы павучалі паству, што смех паходзіць ад д'ябла і што

жартаваць — значыць кашчуннічаць. Духавенства баялася смеху і змагалася з ім. «Дамастрой» забараняў смяяцца бацькам нават у сваёй сям'і з роднымі дзецьмі. Царква ў свой час люта нападала на носьбітаў і распаўсюджвальнікаў здаровага жыццярадаснага і вясёлага смеху — скамарохаў, якіх яна лічыла працiўнікамі хрысціянства. «Скамарох папу не таварыш» [1],— падкрэсліваў беларускі народ узаемную варожасць духавенства і скамарохаў. У адказ на імкненне царкоўнікаў задушыць грозны народны смех працоўныя яшчэ больш інтэнсіўна выкарыстоўвалі яго як вострую зброю ў сваёй барацьбе з духавенствам.

У антыпапоўскіх творах смех набывае асаблівае значэнне, таму што ён накіраваны супраць тых асноў, якія аб'яўляліся свяшчэннымі. Вядомы факт, што антыпапоўскія і антырэлігійныя творы былі строга забаронены, гаворыць аб тым, што духавенства баялася сатырычнага народнага смеху, баялася падрыву свайго аўтарытэту і росту атэізму мас. Шырокая распаўсюджанасць гэтых твораў з'явілася вынікам таго, што саркастычны смех з крывадушных прапаведнікаў «божага» слова дасягаў мэты: свяшчэннае ўжо не лічылася свяшчэнным, калі атрымлівала невылечныя раны ад трапных стрэлаў народнай сатыры. «Роля смеху вялікая і ў нашай барацьбе, апошняй барацьбе за вызваленне чалавецтва»[2],— падкрэсліваў А. В. Луначарскі.

У народных творах яркімі фарбамі намаляваны камічныя супярэчанні паміж унутранай непаўнацэннай сутнасцю духавенства і яго высокімі прэтэнзіямі. Камізм адыгрывае вялікую ролю ў развянчанні царкоўных ідэалаў, у выкрыцці ханжаства і крывадушша папоў. Камічныя духоўныя пастыры, якія павучаюць прыхаджан рэлігійнай маралі, заклікаюць выконваць дзесяць «божых» запаведзей, імкнуцца паказаць сябе ідэальнымі «святымі» людзьмі, а на справе робяць гнюсныя ўчынкі. Няўдалыя спробы духавенства здавацца насуперак праўдзе бязгрэшнымі выклікаюць смех і абурэнне. Напрыклад, у казцы «Масцеравы, яго жонка і салдат»[3] камічная сітуацыя, у якую трапілі папы, спалучаецца з паказам іх гібелі, што, аднак, ні ў каго не выклікае жалю. Папы хаваюцца ад гаспадара ў комін і гінуць

---

[1] Архіў АН СССР, ф. 104, воп. 1, № 328, л. 66.

[2] А. В. Луначарский. О смехе. «Литературный критик», 1935, № 4, стар. 9.

[3] П. В. Шейн. Материалы..., т. II, стар. 210—213.

там, калі па загаду селяніна жонка гатуе для яго розныя стравы.

Здзеклівы смех з царкоўнікаў гучыць у жартоўных песнях, у якіх працоўныя ствараюць вобразы прадстаўнікоў духавенства, не шкадуючы густых фарб для іх асмяяння. У песні «Не вырасце луччы лібіда» [1] народ здзекуецца над папом, які «дамоў прыбяжаў» і не знайшоў распуснай пападдзі:

Надзявае шырокую расу,
Ідзе шукаць пападдзюшку нашу;
Па вуліцы кудрамі махаіць,
З кім стрэнецца, пападдзю пытаіць.
Шукаў, шукаў пападдзюшку, ні напаў,
Зачапіўся рукавамі, дый упаў.

Поп, які бегае па вуліцы, пытае кожнага сустрэчнага, ці не бачыў пападдзі, а потым чапляецца сваімі шырокімі рукавамі і падае, выклікае здзеклівы смех.

У процілегласць тыпам царкоўных служак з агідным маральным абліччам у многіх казках і анекдотах вельмі прывабнымі фарбамі малююцца вобразы папоўскага парабка, селяніна-бедняка і жанчыны-сялянкі. Работнік разумны, кемлівы, вынаходлівы, дасціпны, спрытны і ўдачлівы. Яму лёгка ўдаецца заўважыць і выкрыць распусныя паводзіны дыякана з пападдзёй і накпіць з іх.

У беларускіх антыпапоўскіх народных казках мы сустракаем цудоўны вобраз жанчыны-сялянкі, якая надзяляецца ў процілегласць пападдзі станоўчымі рысамі: вернасцю свайму мужу, дасціпнасцю, знаходлівасцю, вясёласцю. Напрыклад, у казцы «Як мужык з бяды вывеўся» [2] жанчына добра правучыла распусных папоў, у выніку чаго адзін з іх пападае ў кадушку з пер'ем, другі — у печ, а трэці — у комін. Разлік на лёгкую «перамогу» над простай сялянкай дорага каштаваў пажадлівым папам.

Пры характарыстыцы маральнага аблічча духавенства варта звярнуць увагу на шматлікія творы, у якіх «божыя» служкі паказаны п'яніцамі і нячыстымі на руку. Асноўны ідэйны змест гэтых твораў — выкрыццё двудушнасці і ашуканства. «Не крадзь»,— часта паўтарае з амбону біблейскую запаведзь свяшчэннік. А народ паказвае яго аматарам крадзяжу: «Быў сабе ў адным сяле поп ды дзяк;

[1] В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. IV. М., 1903, стар. 515.
[2] M. Federowski. Lud białoruski, т. III, ч. II, стар. 179—181.

абодва п'яніцы... Хочацца ім піць, ды няма за што. От дзяк і кажа папу: «Ёсць у цябе, бацюшка, кніга тоўстая, ты будзеш на гэтай кнізе гадаць, а я пайду красці, то нам і будзе з чаго выпіваць», — расказваецца ў «Казцы пра папа і дзяка» [1]. Аб вялікай папулярнасці гэтай казкі сведчыць тое, што два яе варыянты, змешчаныя ў зборніку П. В. Шэйна, запісаны ў Мінскай і Віцебскай губернях; некалькі варыянтаў запісана Федароўскім [2] і Дабравольскім [3].

Характэрнай асаблівасцю адзначанай казкі з'яўляецца тое, што ў процілегласць іншым казкам і анекдотам, якія паказвалі правал намераў і задум папоў, у ёй вобраз папа надзяляецца дастатковым спрытам. Але гэты спрыт выкарыстоўваецца не на добрыя справы, а на кражу і ашуканства.

Казка наносіць таксама адчувальны ўдар па знахарству. Карціны, у якіх паказваецца, як поп «адгадваў», дзе знайсці ўкрадзенае, удала выкрываюць махлярскую аснову ўсякага знахарства. У прыпісванні папу ролі знахара, які робіць выгляд, што выкарыстоўвае ў час сваіх махінацый «свяшчэнную» кнігу (дарэчы, для далёка не святых спраў), відаць не толькі імкненне выкрыць ашуканства царкоўнікаў, але і пасеяць сумненне ў ісціннай святасці царкоўных кніг.

Сустракаюцца таксама казкі гэтага цыклу, у якіх зладзейскія спробы папа і дзяка канчаюцца няўдачай. Такое шырокае ўжыванне пародый сведчыць аб тым, што гэта форма сатыры карысталася сярод беларускага народа вялікай папулярнасцю, вельмі едка бічавала духавенства і дасціпна высмейвала рэлігійныя абрады.

Важным сродкам індывідуалізацыі казачных вобразаў з'яўляецца мова. Словы папа дапамагаюць выкрыццю яго двудушнасці, ханжаства. Тон гаворкі папа мяняецца ў залежнасці ад мэты, якую ён хоча ажыццявіць. Задумаў ён выманіць ад селяніна чарадзейныя жорны — і мова яго становіцца лісліва-ханжаскай: «Аддай мне! — пераконвае бацюшка мужыка аддаць яму чарадзейныя жорны.— Ведзь табе худа будзе: у цябе іх хто-небудзь украдзе; а кагда ў цябе хлеба не хваціць, то ка мне прыйдзі» (казка «Як віхар і вецер даравалі мужыку жорны...»). Паверыў селянін

[1] П. В. Шейн. Материалы..., т. II, стар. 213—217.
[2] M. Federowski. Lud białoruski, т. III, ч. II, стар. 178, 244.
[3] В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. I, стар. 675—676.

папу, аддаў яму жорны. А калі пайшоў да бацюшкі прасіць хлеба, «дык ён яму не даў, а па шапцы задаў». Каб накінуць на сябе маску дабрадзейнасці і спагадлівасці, поп пры звяртанні да прыхаджан ужывае словы «дзіця маё», «дзеткі», «свет» і іншыя, якія набываюць ялейна-ханжаскае адценне асабліва тады, калі поп на справе зрабіў людзям не дабро, а зло. У казцы «Пра папа і дзяка»[1] дзяк па дамаўленню з папом украў валоў. У размове з пацярпеўшым поп спрытна хавае свой сапраўдны твар за ялейна-лісліўымі словамі:

— А чаго ты, свет, прыйшоў ка мне?

— Гэта я, бацюшка, сказаць вам пра сваё няшчасце. Вала ў мяне ўкралі.

— А што ты, свет, дасі? я выважу твайго вала...

Крывадушныя словы папа перамяжаюцца з вульгарнымі («Пропаведзь папа»[2]), мова праваслаўнага папа часам перасыпаецца ў казках царкоўнаславянскімі словамі. Гэта характэрна нават для тых варыянтаў казкі, дзе галоўны персанаж — поп-невук, якога выбралі з сялян. Поп Мікіта, персанаж аднаго з варыянтаў падобнай казкі, так адпраўляў малебен: «Адна дзірка, дзве дзіркі» і г. д. Палешукі запрасілі епіскапа. Поп паклаў торбу з грашыма, каб яе ўбачыў епіскап, і заспяваў:

Ойча, ўладыка, пацягні за лыка,
там адлычана сем коп,
штоб я быў поп!

Епіскап пацягнуў ды бачыць, што цяжка, думае: «Многа грошай» і сказаў: «І ны і прісно ва векі вяком як быў, так і будзіць папалам»[3].

У такім парадзіраванні малебна асабліва вялікае значэнне надаецца інтанацыі, мелодыі спеваў. І па-майстэрску ўжытыя царкоўнаславянскія словы, і мелодыя, адпавядаючая матыву царкоўных спеваў, узмацняюць крытыку царкоўных богаслужэнняў, робяць смех знішчальным.

Вельмі пашыраным і важным прыёмам у беларускім фальклоры з'яўляецца прыём кантрасту. Амаль у кожнай з разгледжаных казак прагнаму, скупому, крывадушнаму, разбэшчанаму і дурному папу супрацьстаўляецца вобраз

[1] П. В. Шейн. Материалы..., т. II, стар. 214.
[2] M. Federowski. Lud białoruski, т. III, ч. II, стар. 176—177.
[3] Архіў АН СССР (г. Ленінград), ф. 104, воп. 1. № 135, л. 138—139.

працавітага, сумленнага, дасціпнага і кемлівага работніка. Процілеглыя рысы папа і яго антаганіста найбольш ярка вызначаюцца ў сутыкненнях, у развіцці канфлікту. Дзякуючы рэзкаму кантрасту ў абмалёўцы вобразаў прадстаўнікоў розных сацыяльных класаў больш ясна вызначаецца антыэксплуататарская накіраванасць твора, больш поўна і глыбока раскрываецца сутнасць вобразаў, больш рэльефна вылучаюцца іх тыповыя рысы.

У антыпапоўскія казкі часта ўплятаюцца прыказкі і прымаўкі: «Бог не бог, ды не будзь-ка ты сам плох» (Дабр.); «Каму клапатно, а папу палатно»; «Поп служыць не дзеля Ісуса, а дзеля хлеба куса»; «Людзі паміраюць — сям'я плача, толькі поп ды дзяк пяе ды скача»; «Людзі дадуць, а ксяндзы ды папы сажруць»; «Паны заўжды ксяндзоў паважалі ды частавалі» (Сержп.); «У папа якое дзела: паблагатаў, паблагатаў дый спажывай, што люд даў»; «Поп і з жывога ї з мёртвага дзярэ» (Белар.) і г. д. Іх ужыванне садзейнічае больш сціскламу і разам з тым яснаму выражэнню ідэйнага сэнсу твора, упрыгожвае яго мову.

Вобраз папа ў прыказках і прымаўках ствараецца з дапамогай разнастайных мастацкіх сродкаў. Нярэдка ў такіх прыказках поп параўноўваецца з сабакам, катóм, ваўком і іншымі жывёламі, якія як бы сімвалізуюць пэўныя якасці і рысы. Так, праз параўнанне з воўчым горлам падкрэсліваецца папоўская прагнасць: «Папоўскае вока, а воўча горла». Паразітызм духавенства раскрываецца параўнаннем з катом: «Няма нікому так, як ксяндзу ды кату: абодва ляжаць і хлеб задарам ядзяць» (Янк.). У гэтай прыказцы замест ксяндза часам фігуруе поп, што гаворыць аб аднолькавых адносінах беларускіх працоўных да служак розных культаў. У прыказцы «Кот і поп, не паварчаўшы, не стануць есці» (Насовіч) змешчана насмешка над звычаямі духавенства: прымацца за ежу памаліўшыся. У прыказцы «Поп і певень, не з'еўшы, не пяюць» (Рапан.) крытыкуецца поп, які заклікае паству да шчырага посту, пакуль не памоляцца, а сам робіць інакш. Насмешка над папоўскай ілжывасцю і балбатлівасцю ў час пропаведзі і наогул у жыцці заключана ў прыказках: «Як сабака брэша, так поп язык чэша»; «Папу і дзяку не вер, як сабаку» (Белар.).

Папоўская прагнасць у беларускіх прыказках і прымаўках паказана гіпербалічна: «У папоўскай кішэні з галавой схаваешся»; «У папа рукавы доўгія — усё ўлезе»; «З паповых рукавоў выйшла б пяцёра штаноў» (Белар.) і інш.

Значная частка беларускіх антыклерыкальных прыказак і прымавак выкарыстоўвае алегорыю: «Папоўскі карман шырокі»; «Папова пуза на сем аўчын сшыта» (тут жа і гіпербала); «Толькі і гора папу, што жывот баліць»; «Ад малітвы і паніхід толькі поп адзін сыт»; «Кадзіла, кадзіла, не аднаго ты ўхадзіла, уходзіш і таго, хто дзяржыць яго» (Белар.). Аднак многія антыпапоўскія прыказкі і прымаўкі маюць і прамы сэнс: «У мужыка неўраджай, а тут яшчэ папу дай» (Белар.); «Поп тады моліцца аб ураджаі, калі чуе, што многа дабра назбірае»; «Адна радасць папу: што вяселле, што хаўтуры» (Белар.) і інш.

Сатырычны вобраз папа асабліва рэльефна вылучаецца дзякуючы едкай народнай іроніі: «Поп «праведна» жыве: з беднага дзярэ ды ў карман кладзе» (Белар.).

Вобраз папа ў беларускіх прыказках і прымаўках часта раскрываецца з дапамогаю антытэзы: «Каму мяртвец, а папу таварэц» (Белар.); «Людзі паміраюць — сям'я плача, толькі поп ды дзяк пяе і скача» (Сержп.); «У папа пуза таўсцее, а ў батрака спіна млее»; «Як болей магіл, дык таўсцей у папа блін» (Белар.). Такое супастаўленне процілеглых вобразаў і дзеянняў з большай сілай, нагляднасцю і яркасцю падкрэслівае адмоўныя рысы ў вобразе папа.

Мова антыпапоўскіх прыказак звычайна рыфмаваная і нярэдка рытмізаваная. Рыфма і рытм садзейнічаюць запамінанню і распаўсюджанню прыказак і прымавак, а праз іх — пашырэнню антыклерыкальных і антырэлігійных ідэй.

Вельмі блізкімі да прыказак і прымавак па мастацкіх асаблівасцях з'яўляюцца загадкі. Яны таксама, як прыказкі і прымаўкі, адрозніваюцца лаканічнасцю і афарыстычнасцю. Многія загадкі змяшчаюць у сабе вострую класавую сатыру. Папу надаюцца тыя ж самыя рысы, што ў казках і прыказках. Напрыклад, паразітызм духавенства адзначаецца ў загадцы «Шэсць дзён гуляе, а сёмы «работае» і торбу грошай бярэ» (Белар.). Прагнасць папа і бязмежнасць яго імкненняў да нажывы шляхам пабораў з паствы выкрывае, напрыклад, загадка: «Многа трэба, — кажа,—для неба, а ён не аддае, ды сам жарэ» (Белар.).

Антыпапоўскія загадкі атрымалі меншае распаўсюджанне ў народзе, чым прыказкі і прымаўкі. Але і ў іх вобраз папа намаляваны даволі выразна. Гэтаму садзейнічае сама спецыфіка народнай загадкі як мастацкага твора, які пабудаваны на іншасказанні і грунтуецца на падабенстве галоўных рыс прадметаў, з'яў, дзеянняў чалавека, адлюст-

раваных у самой загадцы і ўласцівых прадмету, з'яве, чалавеку ў адгадцы. Напрыклад, вобраз папа ўсплывае ва ўяўленні пры назве яго прыметы па рэчы, якую ён выкарыстоўвае ў царкве пры маленні: «Кадзіла ў руках трымае, кадзілам махае, а з кадзіла дым прэцца. Як ён завецца?» (Белар.).

Сатырычны вобраз папа нярэдка ствараецца з дапамогаю метафары, якая наогул уласціва большасці загадак: «Поўны хлявец авец, а пасярэдзіне баран бляець», «Мядзведзь не мядзведзь, а пчол абдзірае» (Белар.).

Сярод беларускіх антыпапоўскіх загадак ёсць нямала такіх, у якіх вобраз папа ствараецца шляхам апісання яго дзеянняў і ўчынкаў: «І ў царкву ходзіць і людзям шкодзіць», «Служыць саборна, а есць падворна» (Белар.). Некаторыя з гэтых загадак заключаюць у сабе апісанне дзеянняў, характэрных не толькі для папа, але і для іншых эксплуататараў: «Трое жывуць, скуру дзяруць, голымі пускаюць. Хто адгадае?» (Пан, поп і стараста; Белар.).

Радзей сустракаюцца антыпапоўскія загадкі, якія складаюцца толькі з прамога пытання, праз што выкрываецца сацыяльная сутнасць тыпа, як, напрыклад, у загадцы «Хто з жывога і з мёртвага дзярэ?» (Белар.).

Рытмічны склад і рыфма, характэрныя для пераважнай большасці антыпапоўскіх загадак, садзейнічалі захоўванню іх у памяці народа.

У некаторыя казкі ўключаюцца таксама песні («За што мужык папу бараду абгаліў» [1]). Гэты кампазіцыйны прыём павышае мастацкую дасканаласць твора, ажыўляе змест, прабуджае большую цікавасць да яго.

Дзякуючы гэтым разнастайным мастацкім прыёмам і сродкам фальклорныя вобразы набываюць вялікую жыццёвую сілу і паўстаюць у нашым уяўленні больш яркімі і рэльефна акрэсленымі.

### Крытыка каталіцызму і яго прапаведнікаў

У сваёй вуснапаэтычнай творчасці беларускі народ з вялікім гневам крытыкаваў таксама каталіцкае духавенства, у якім ён бачыў прапаведніка захопніцкай палітыкі кіруючых шляхецка-каталіцкіх колаў Польшчы. Некалькі стагоддзяў Беларусь знаходзілася пад уладай літоўскіх і польскіх

[1] M. Federowski. Lud białoruski, т. III, ч. II, стар. 181.

паноў. Апошнія імкнуліся акаталічыць наш народ, падавіць нацыянальна-вызваленчы рух, разарваць сувязі брацкіх беларускага і рускага народаў. Каталіцызм быў ворагам нацыянальнай беларускай культуры, беларускай мовы, народных звычаяў. Многія праваслаўныя памешчыкі-беларусы прымалі каталіцкую веру, каб захаваць за сабой маёнткі, прыгонных сялян і мець аднолькавыя правы з памешчыкамі-каталікамі. На гэта штурхаў іх і страх перад антыфеадальным вызваленчым рухам працоўных, які з цягам часу ўсё больш і больш шырыўся і ўзмацняўся. «Гісторыя вучыць, што пануючыя класы заўсёды ахвяравалі ўсім, абсалютна ўсім: рэлігіяй, свабодай, радзімай, калі справа ішла аб падаўленні рэвалюцыйнага руху прыгнечаных класаў»[1],— пісаў У. І. Ленін.

Каб дабіцца хутчэйшага эканамічнага і ідэалагічнага заняволення сялян, каталіцкае духавенства, памешчыкі-каталікі і шляхта сілай насаджалі каталіцызм. Ф. Энгельс адзначаў, што «ў XVI ст., калі ў Польшчы панавалі езуіты, праваслаўных рускіх, падначаленых Польшчы, прымушалі пераходзіць у рымскую царкву» [2]. З гэтай жа мэтай, а таксама для таго каб замацавацца на захопленых землях Беларусі і Украіны для правядзення далейшай агрэсіі ў адносінах да Расіі, у 1596 годзе была заключана каталіцка-праваслаўная царкоўная унія. У адпаведнасці з уніяй праваслаўная царква на тэрыторыі Беларусі, захопленай Польшчай, падначальвалася Ватыкану і прымала каталіцкую дагматыку. Царкоўная абраднасць была рэфарміравана.

У адказ на ўзмацненне феадальнага і рэлігійнага прыгнёту ўспыхвалі паўстанні. Антыфеадальная барацьба беларускіх працоўных цесна звязвалася з нацыянальна-вызваленчай барацьбой супраць іншаземнага і рэлігійна-каталіцкага ўціску. Вызваленчая барацьба ў XVI—XVII стагоддзях прымала рэлігійную форму. У. І. Ленін гаварыў, што «выступленне палітычнага пратэсту пад рэлігійнай абалонкай ёсць з'ява, уласцівая ўсім народам, на пэўнай стадыі іх развіцця, а не адной Расіі» [3].

Вядомы непасрэдныя выступленні беларускіх працоўных супраць уніяцкага духавенства, якое бязлітасна здзе-

---

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 11, стар. 89.
[2] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. XVI, ч. II, стар. 11.
[3] У. І. Ленін. Творы, т. 4, стар. 223.

кавалася з праваслаўнага насельніцтва. Асабліва вылучаўся сваімі здзекамі ўніяцкі архіепіскап Іясафат Кунцэвіч, які загадваў выкопваць трупы праваслаўных і пакідаць іх на з'ядзенне сабакам, заключаў у турмы праваслаўных свяшчэннікаў і г. д. Не вытрымаўшы здзекаў, працоўныя г. Віцебска паўсталі і ў 1623 г. забілі свайго ненавіснага ворага. За забойства Кунцэвіча над паўстаўшымі была ўчынена жорсткая расправа, якую благаславіў сам папа Урбан VIII. Папа ў пісьме да караля пісаў, павучаючы яго: «Там, дзе такое цяжкае зладзейства патрабуе кары, помсты бога, няхай закляты будзе той, хто ўтрымае меч свой ад крыві. І ты, дзяржаўны, не павінен утрымацца ад мяча і агню; няхай ерась адчуе, што жорсткім злачынцам няма літасці». Кароль расправіўся з паўстаўшымі яшчэ да атрымання ліста ад папы. Сотні людзей былі асуджаны на смерць і пакараны. Даведаўшыся аб бязлітасным пакаранні паўстаўшых, папа прыслаў каралю Сігізмунду пахвальную грамату, у якой пісаў, што «дзеянне яго вялікасці вельмі прыемна небу і заслужана ўсхваляецца голасам апостальскай граматы». Вось сапраўдны твар крывадушных прапаведнікаў, якія толькі паству заклікаюць выконваць «божыя» запаведзі: «Не ўбівай, не помсці і не май злосці на сыноў народа твайго» (Біблія. Лявіт.), а самі прагнуць помсты і крыві вольналюбівых працоўных!

Жорсткія расправы не запалохалі беларускі народ. Барацьба супраць гвалтоўнага акаталічвання і рэлігійнага ўціску працягвалася не толькі мячом, але і зброяй мастацкага слова, якое ўзбуджала на змаганне за вызваленне ад усякага прыгнёту.

Беларускі народ стварыў таксама шмат казак, прыказак, прымавак і іншых твораў, у якіх з'едліва высмейваецца каталіцызм і яго служкі. У гэтых творах бязлітасна крытыкуюцца тыя бакі і заганы каталіцкага духавенства, якія мы адзначалі як характэрныя і для прапаведнікаў праваслаўнай царквы.

Перш за ўсё ў вуснай народнай творчасці выкрываецца паразітычны спосаб жыцця, які вялі ксяндзы і іншыя служкі каталіцкай царквы. Працоўныя бачылі, што каталіцкае духавенства, як і праваслаўнае, жыве за кошт іх працы. На ўласнай скуры яны зведалі адкрытую ці замаскіраваную эксплуатацыю князёў царквы, якія стваралі сабе зямное райскае жыццё. Да адмены прыгоннага права каталіцкае духавенства ўладала зямлёю і прыгоннымі сялянамі, як і

праваслаўнае. Напрыклад, гродзенскі жаночы манастыр св. Брыгіты, у якім у 1829 годзе жылі толькі 24 манахіні, уладаў 16 790 дзесяцінамі зямлі і 3755 прыгоннымі сялянамі! Толькі ў Гродзенскай губерні каталіцкай царкве належала 106 709 дзесяцін зямлі з 24 289 прыгоннымі сялянамі [1].

Аб іншых формах эксплуатацыі працоўных каталіцкай царквой расказвае былы веруючы З. Таўстыка: «Каб вымаліць у бога рай, трэба было плаціць ксяндзу. І я аддаваў яму апошнія грошы нават тады, калі пух з голаду, хадзіў у лахмоццях. Ксёндз нікога не мілаваў, браў грошы за ўсё: і за тое, што пройдзецца па палях з іконай, і за вянчанне, і за пахаванне» [2].

Таму так гнеўна гучыць народная сатыра, калі аб'ектам асмяяння становіцца паразітызм каталіцкіх пастыраў. Напрыклад, у казцы «Аб тым, як ксяндзы вылечыліся» [3] малююцца тыпы «гладкіх», «атылых» ксяндзоў, якія «растаўсцелі, як вепрукі», так што спатрэбілася ехаць на воды, каб «зняць лой». Але нечакана замест курорта ксяндзы апынуліся на бровары. Не хацелася тлустым «боскім» служкам ісці на работу, «але як перацёг іх намеснік бізуном, нябось, пайшлі»,— расказваецца ў казцы. Давялося і ім крыху адведаць цяжкай паднявольнай працы, якая ў казцы прапісваецца як лячэнне ад «хваробы» ксяндзоў, «захварэўшых» ад гультайства і абжорства. Народны «рэцэпт» дапамог. Працуюць ксяндзы разам з работнікамі, разам ядуць і спяць. Праз тыдзень-другі пачало спадаць з ксяндзоў сала, а тыдняў праз пяць яны так схуднелі, што нельга было пазнаць.

У казцы адлюстраваны мары працоўнага народа аб пакаранні эксплуататараў-паразітаў. На думку працоўных, няма больш цяжкай кары, чым іх нясцерпна цяжкая паднявольная праца на паноў, і таму яны ў казцы ставяць ксяндзоў на сваё месца.

Ідэйны сэнс многіх казак сведчыць аб тым, што многія працоўныя правільна разумелі ролю каталіцкага духавенства. Гэтыя казкі адзначаюць сапраўдную цану пропаве-

---

[1] «Католицизм без маски». Блокнот агитатора, спец. вып. Минск, 1960, стар. 153—154.

[2] Там жа, стар. 244—245.

[3] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 64—65.

дзяў ксяндзоў, іх класавую сутнасць. «Даўней ксяндзы валачыліся па свету ды дурылі людзей, каб яны слухалі паноў, шчыра рабілі ды давалі на хвалу божую. А дзе там тое бог бачыў! Людзі дадуць, а ксяндзы ды паны сажруць», — расказваецца ў казцы «Тры ксяндзы»[1]. У гэтыя некалькі сказаў укладзен глыбокі сэнс. Тут адзначаецца і абарона ксяндзамі існаваўшага ладу, і адзінства інтарэсаў духавенства і памешчыкаў, і эксплуататарская сутнасць каталіцкай царквы. Пропаведзі ксяндзоў у казцы называюцца дурманам.

Паразітызм каталіцкіх свяшчэннаслужыцеляў дасціпна высмейваецца таксама ў беларускіх прыказках і прымаўках: «На пацеры ксёндз дагадаецца, але працаваць не збіраецца»; «Ксёндз і поп знаюць, калі свята, бо нічога не робяць» (Белар.) і іншыя. Бесчалавечна жорсткія адносіны ксяндзоў да сваіх слуг паказаны ў прыказцы «Я, ксяндзоўскі слуга, сагнуўся, як дуга: як жа мне не сагнуцца, калі нечым апрануцца» (Насовіч).

Беларускі народ з'едліва крытыкуе ілжывасць, крывадушнасць і ханжаства каталіцкіх «святош». Яркім прыкладам з'яўляецца казка «Ліса-каталічка»[2]. Ліса ўбачыла ў пастцы мяса. Каб не папасціся самой, яна падвяла да пасткі мядзведзя і сказала, што яна, як каталічка, у сераду мяса не есць. Калі ж мядзведзь быў схоплен жалезам і ўздзёрты ўгору, ліса спакойна прынялася за ежу.

— Кумка-галубка, табе ж серада,— кажа мядзведзь.

— Э, кумок-галубок, няхай той сарадзіць, хто ўгору глядзіць!

У паводзінах лісы высмеяны заганныя ўчынкі крывадушных каталіцкіх «святош», словы і справы якіх рэзка разыходзяцца.

Ілжывасць праваслаўнага і каталіцкага духавенства адзначаецца ў беларускіх прыказках і прымаўках: «У цябе праўды, як у ксяндза з папом»; «У кудлатага папа і ў голенага ксяндза — адна праўда» (АІМЭФ).

Найбольшай вастрыні народная сатыра дасягае ў тых творах, у якіх выкрываецца распуснасць і п'янства каталіцкага духавенства. Тлумачыцца гэта тым, што каталіцкія

---

[1] А. Сержпутоўскі. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета. Л., 1926, стар. 218—219.

[2] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, т. I, вып. III. Витебск, 1887, стар. 28.

свяшчэннаслужыцелі, нягледзячы на ўведзены ў XI стагоддзі цэлібат і на свае заклікі да аскетызму і адмаўлення ад людскога шчасця, ніколі не былі ўзорам устрымання і цноты.

Даволі поўную характарыстыку маральнага аблічча служак каталіцкай царквы даюць шматлікія дакументы Дзяржаўнага архіва Мінскай вобласці, у якіх расказваецца аб фактах парушэння цэлібату каталіцкімі свяшчэннікамі [1].

Многа фактаў аб распусце каталіцкіх пастыраў прыводзіць у артыкуле «Ватыкан, якім я бачыў яго сам» былы выхаванец папскай духоўнай акадэміі ў Ватыкане Д. Бясчасны [2].

Тое ж самае адзначае былы ксёндз І. А. Рагаўскас: «...Я пераканаўся, што абсалютная большасць каталіцкіх свяшчэннікаў не прытрымліваецца царкоўнага абяцання — цэлібату (абяцанне бясшлюбнасці і цноты). Асабліва ашаламіла мяне, маладога ксяндза, тое, што некаторыя з паважаных свяшчэннікаў, якія карысталіся самай лепшай рэпутацыяй сярод веруючых, аказаліся або распуснікамі, або рукаблудамі» [3].

«Бязгрэшныя» рымскія папы таксама не выключэнне. Многія з іх распусьнічалі не горш за іншых каталіцкіх служак. Напрыклад, папа Іаан XII «ператварыў Люцеранскі палац у публічны дом» [4], папа Аляксандр VI жыў у крывазмяшэнні з сваёй дачкой Лукрэцыяй Борджа [5].

Шматлікія запісы вусных народных твораў, у якіх расказваецца аб любоўных прыгодах ксяндзоў і каталіцкіх манахаў, сведчаць аб тым, што беларускі народ бачыў усю непрыстойнасць паводзін каталіцкага духавенства і сваім трапным і едкім сатырычным словам клеймаваў яго. Асабліва шырокае распаўсюджанне атрымалі казкі і анекдоты на гэту тэму. Разбэшчаны ксёндз церпіць ганьбу і здзекі з боку селяніна, які яго то аблівае варам (казка «Аб двух братах і трэцім дурным» [6]), то лупцуе так, што «кінуў ксёндз і гарэлку, і шапку, і рыззя свае, ды наўцёкі...» (каз-

---

[1] Дзяржаўны Архіў Мінскай вобл., ф. 295, воп. 1, спр. 3520, 5732 і інш.

[2] «Католицизм без маски», стар. 230—232.

[3] Там жа, стар. 239.

[4] С. Г. Лозинский. История папства, т. І. Гос. антирелигиозное изд-во, 1934, стар. 43.

[5] А. Бебель. Христианство и социализм. М., 1959, стар. 25.

[6] Zbior wiadomosci do antropologii krajowei, т. XII, 1888, стар. 6.

ка «Ксёндз, баба і мужык» [1]). Едкім сарказмам прасякнута «Споведзь шляхціца» [2]. На споведзі шляхціц прызнаўся бернардыну, што цалаваў чужую жонку. Але дадаў, што рабіў гэта па парадзе людзей ад хваробы вачэй. А бернардын кажа:

— Не веш, асан, гдыбы то праўда была, то я бым юж пшэз мур відзял!

Характэрна, што мова ксяндзоў, манахаў, памешчыкаў, шляхціцэў у беларускіх казках і анекдотах адрозніваецца мноствам паланізмаў.

Творы, у якіх сатырычна парадзіруюцца пропаведзі ксяндзоў, часта расказваюцца амаль поўнасцю на польскай мове.

Дасціпна зрывае беларускі народ маскі з крывадушных ксяндзоў-п'яніц; у многіх творах ксёндз паказан такім жа аматарам на п'янку, як і поп. У анекдоце «Няскончанае казанне» [3] расказваецца, як выпадак дапамог веруючым убачыць сапраўдны твар свайго пастара. Ксёндз паслаў закрыстыяна да карчмара Давіда па гарэлку. Але карчмар гарэлкі не даў. Вярнуўся закрыстыян з пустымі рукамі прама ў касцёл. У гэты час ксёндз расказваў пра біблейскага караля Давіда і звярнуўся да людзей:

— І цо ж на то поведзял круль Давід?

Закрыстыян падумаў, што ксёндз пытае ў яго, і адказаў:

— Давід мувіл, жэ венцэй водкі без пінёндзы не да, бо ксёндз і так задосыць юж вінен [4]. Аблаяў ксёндз закрыстыяна, пайшоў з амбону і казання не скончыў.

Не менш трапна ганьбуюць маральныя заганы ксяндзоў і каталіцкіх манахаў беларускія прыказкі і прымаўкі: «Чоткі на руцэ, а дзеўкі на ўме»; «Ксёндз кажа — падай, божа, што высока, а што нізка, дык я сам вазьму» (Белар.); «Чарнец пацеркі раскрывае, але на маладзіц паглядае» (АІМЭФ).

Антыклерыкальныя казкі і анекдоты — гэта творы, галоўным матывам якіх з'яўляецца сацыяльная барацьба. І, як відаць з прыкладаў, у паказе сацыяльнай барацьбы вельмі ярка вылучаюцца найбольш характэрныя

---

1 Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 65.
2 M. Federowski. Lud biaoruski, т. III, ч. II, стар. 174.
3 Там жа.
4 Там жа

рысы прадстаўнікоў розных антаганістычных груп. Важна адзначыць, што ў беларускім фальклоры няма твораў, у якіх прадстаўнікі каталіцкага духавенства надзяляліся б станоўчымі рысамі. Наадварот, назіраецца імкненне беларускіх працоўных унізіць каталіцкіх «боскіх» служак і выклікаць пагарду да іх. Напрыклад, у казцы «Мужык, пан і ксёндз» [1] селянін з сваім «дурным мужыцкім розумам» паказан разумнейшым і хітрэйшым за пана і ксяндза. Неразумны ксёндз паверыў мужыку, што за ім прыйшоў анёл з неба, калі пабачыў «цуд»: рухаюцца па траве свечачкі і гараць, «бы зоркі» (гэта мужык налавіў ракаў, прыклеіў да іх свечачкі, пазапальваў і папускаў пад вакном ксяндзоўскага дома). Ускочыў ксёндз у мех, які падставіў мужык. А селянін ускінуў яго «на плечы і папёр у свінушнік, кінуў там мех з ксяндзом і запёр дзверы». Назаўтра знайшлі ксяндза ў свінушніку ў адной сарочцы, ледзь жывога ад страху.

У другім варыянце гэтай казкі, запісаным М. Федароўскім, ксёндз пераносіць яшчэ большую ганьбу і здзекі: селянін павесіў мяшок з ксяндзом на браме і надпісаў: «Хто ў бога верыць, няхай кіем удэрыць» [2]. Пры гэтым загадаў ксяндзу маўчаць: інакш не пападзе ў рай. Ёсць яшчэ адзін варыянт гэтай казкі, запісаны таксама Федароўскім, дзе такія ж здзекі пераносіць пан, што сведчыць аб аднолькавай непрымірымай нянавісці беларускіх сялян і да памешчыкаў, і да духавенства.

Наяўнасць насмешкі над ксяндзом і панам, над верай у бога, у райскае замагільнае жыццё дае падставу сцвярджаць аб выражэнні ў гэтых творах не толькі антыклерыкальных, але і антырэлігійных настрояў.

У жорсткай барацьбе супраць памешчыкаў і духавенства працоўныя Беларусі, нягледзячы на часовыя паражэнні, ніколі не гублялі надзеі на перамогу над ворагам. Таму вусныя народныя творы і гэтай групы заўсёды надзяляюць селяніна станоўчымі якасцямі, якія дапамагаюць яму стаць пераможцам (казкі «Як ксёндз падзяліўся грэхам» [3], «Мужык, пан і ксёндз» [4] і інш.).

---

[1] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 52—53.

[2] M. Federowski. Lud białoruski, т. III, ч. II, стар. 137—138.

[3] Там жа, стар. 174—175.

[4] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 52—53.

З разгледжаных фальклорных матэрыялаў відаць, што крытыка каталіцызму і яго прапаведнікаў у беларускай вуснай народнай творчасці была не менш вострай і разнабаковай, чым крытыка праваслаўнага духавенства.

* * *

Аналіз антыпапоўскіх вуснапаэтычных твораў дазваляе зрабіць вывады аб адносінах беларускіх працоўных да царквы і духавенства. Беларускі народ у асобах папоў, ксяндзоў і іншых царкоўных служак распазнаваў сваіх класавых ворагаў і бязлітасна высмейваў іх у казках і анекдотах, легендах і песнях, прыказках і прымаўках, загадках і прыпеўках. Крытыка духавенства спалучалася з раскрыццём эксплуататарскай ролі царквы, з выкрыццём сутнасці рэлігіі.

В. Р. Бялінскі ў «Лісце да Гогаля» аб адносінах рускага народа да духавенства пісаў: «Духавенства знаходзіцца ва ўсеагульнай пагардзе ў рускага народа. Пра каго рускі народ расказвае пахабную казку? Пра папа, пападдзю, папоўскую дачку і папова работніка. Каго рускі народ называе: дурная парода, брухатыя жарабцы? Папоў... Ці не ёсць поп на Русі для ўсіх рускіх прадстаўнік абжорства, скупасці, нізкапаклонства і бессаромнасці?..» [1] Як відаць з разгляду беларускіх антыклерыкальных твораў, словы В. Р. Бялінскага адносяцца і да беларускага народа не ў меншай меры.

Працоўны народ стварыў такія вобразы папа і ксяндза, у якіх знаходзяць адлюстраванне найбольш характэрныя рысы ўсяго духавенства: паразітызм, прагнасць, скупасць, ілжывасць, ашуканства, распуснасць, п'янства. У шматлікіх народных творах поп і ксёндз выступаюць і як верныя слугі самаўладства, і як бязлітасныя эксплуататары працоўных. Мастацкія прыёмы і сродкі, якія выкарыстоўваюцца ў антыклерыкальных творах, служаць мэце стварэння яркага сацыяльнага тыпу, узбуджэння працоўных на барацьбу з сацыяльным злом, якое ўвасабляецца ў адмоўных вобразах гэтых твораў.

У антыклерыкальных народных творах выказан гнеўны пратэст працоўных супраць невыноснага сацыяльнага пры-

---

[1] В. Г. Белинский. Собр. соч. в 3 томах, т. 3. М., 1948, стар. 710.

гнёту і імкнення царкоўнікаў імем бога апраўдаць і ўвекавечыць эксплуатацыю аднаго чалавека другім.

Вострая народная сатыра ў разгледжаных творах, нягледзячы на адлюстраванне і слабых бакоў светапогляду беларускіх сялян, выхоўвала ў шырокіх масах непрымірымую нянавісць да эксплуататараў і ўзбуджала іх на барацьбу за вызваленне ад эканамічнага, палітычнага і духоўнага прыгнёту.

*Раздзел II*

# БЕЛАРУСКІ НАРОД АБ РЭАКЦЫЙНАЙ СУТНАСЦІ РЭЛІГІІ Ў ДАКАСТРЫЧНІЦКІ ЧАС

## Развянчанне ідэалаў бога і святых

Беларускі народ не абмяжоўваўся высмейваннем царкоўных служак, ён крытыкаваў рэлігію наогул, знішчаючы сваім з'едлівым смехам бліскучы арэол святасці вакол бога і апосталаў, руйнуючы веру ва «ўсявышняга» і звышнатуральныя сілы.

У аснову вуснапаэтычных твораў, у якіх крытыкуюцца міфічныя бог і святыя апосталы, «свяшчэннае пісанне», вера ў цуды і г. д., пакладзен пратэст працоўных супраць сацыяльнай несправядлівасці, супраць імкнення асвяціць і апраўдаць імем бога здзекі аднаго чалавека над другім. Аднак у сваіх творах працоўныя не ўзняліся да выражэння паслядоўнага і ваяўнічага атэізму, заснаванага на навуковым матэрыялістычным светаразуменні. Крытычнае стаўленне да веры ў бога і святых нярэдка спалучалася з прызнаннем існавання таямнічых істот са звышнатуральнай сілай. У многіх фальклорных творах знайшоў выражэнне светапогляд адсталай часткі сялян, неразуменне імі сапраўднай сутнасці ідэі «божанькі». У. І. Ленін аб паняцці «божанькі» ў адсталых слаях народа пісаў: «Народнае» паняцце аб божаньку і божацкім ёсць «народная» тупасць, забітасць, цемната, зусім такая ж, як «народнае ўяўленне» аб цару, аб лесавіку, аб цяганні жонак за валасы» [1].

Матэрыялістычны і атэістычны светапогляд працоўных, які знайшоў адлюстраванне ў казках і анекдотах, прыказках і прымаўках, прыпеўках і песнях, вынікаў з жыццёвай практыкі і вопыту народных мас, але з прычыны сацыяльнага і духоўнага прыгнёту і суцэльнай непісьменнасці іх

---

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 35, стар. 95.

насіў стыхійны характар і не мог узняцца да свядомага атэізму.

Аднак і ў такім выглядзе фальклорныя творы адыгралі вялікую ролю ва ўмовах жорсткай барацьбы царызму супраць усякіх праяўленняў «вальнадумства». За ўсякія сумненні ў сапраўднасці рэлігійнага вучэння аб паходжанні свету і чалавека, аб цудах, якія нібыта тварылі бог і святыя, аб існаванні раю і пекла, за сумненні ў сапраўднасці ўсяго таго, аб чым расказваецца ў біблії, у сярэдневяковыя часы знішчаліся сотні і тысячы людзей. У царскай Расіі яшчэ ў XVIII стагоддзі людзей бязлітасна каралі за «вальнадумства», якое нярэдка заключалася ў адным богазневажальным слове, часам і незнарок сказаным чалавекам. Бывалі выпадкі, што гэта слова каштавала чалавеку жыцця: богазневажальніка або да смерці забівалі бізунамі, або публічна каралі пасля жудасных катаванняў [1].

Роля народна-паэтычных твораў у барацьбе супраць рэлігійнага дурману вызначаецца канкрэтна-гістарычнымі ўмовамі, у якіх яны бытавалі. У. І. Ленін падкрэсліваў, што ідэя бога заўсёды падтрымлівалася пануючымі класамі і сама падтрымлівала іх панаванне. «Бог ёсць (гістарычна і жыцейска) перш за ўсё комплекс ідэй, народжаных тупой прыдаўленасцю чалавека і знешняй прыродай і класавым гнётам,— ідэй, якія *замацоўваюць* гэту прыдаўленасць, *усыпляюць* класавую барацьбу. Быў час у гісторыі, калі, нягледзячы на такое паходжанне і такое сапраўднае значэнне ідэі бога, барацьба дэмакратыі і пралетарыята ішла ў форме барацьбы *адной рэлігійнай* ідэі супраць другой. Але і гэты час даўно мінуў.

Цяпер і ў Еўропе і ў Расіі ўсякая, нават самая ўтончаная, самая добранамерная абарона або апраўданне ідэі бога ёсць апраўданне рэакцыі» [2], — пісаў Уладзімір Ільіч у пісьме да Горкага ў 1913 годзе.

Гэту думку Леніна абавязкова трэба ўлічваць пры разглядзе фальклорных твораў, у якіх крытыкуецца рэлігія. Выказванне вялікага правадыра пралівае святло на разуменне сацыяльнага значэння тых народных твораў, у якіх бог крытыкуецца, але існаванне яго не адмаўляецца. Словы Леніна дапамагаюць зразумець, што для пэўнага часу і гэтыя творы мелі вялікае значэнне.

---

[1] «Вопросы истории религии и атеизма». М., 1950, стар. 152.
[2] У. І. Ленін. Творы, т. 35, стар. 94.

Вучэнню царквы аб усемагутнасці, міласэрнасці, справядлівасці і святасці бога, апосталаў і іншых божых абраннікаў беларускі народ проціпаставіў творы, якія развенчваюць царкоўныя ідэалы. Ідэал справядлівага бога з'едліва высмейваецца ў творах разнастайных жанраў. Легенда «Несправядлівы бог»[1] развенчвае царкоўны ідэал бога і адначасова адлюстроўвае ўсведамленне працоўнымі несправядлівасці таго ладу, які, паводле вучэння царквы, быў заснаваны самім усявышнім тварцом.

Бедны селянін зварыў сабе страву, пераліў яе ў збаночак і пайшоў у свет шукаць справядлівага чалавека, з якім можна было б падзяліцца абедам. Сустракае ён бога, які прапануе паабедаць з ім. Але селянін не згаджаецца і гаворыць яму:

— Э, калі ты бог, то я не буду з табою ў паляруша есці. Які ты справядлівы, калі адзін аж надта многа мае, а другі з голаду здыхае!

Не лепшую характарыстыку дае селянін і сыну божаму:

— Э, такія вы ўсе справядлівыя: які бацька, такі і сын — увесь род ваш гэтакі.

Такім жа няверʼем у справядлівасць Ісуса Хрыста прасякнут анекдот «Мужчына за мужчыну цягне»[2]. Жанчына адгаварвае сваю куму, якая хацела паставіць свечку Хрысту: «Не давай да пана Езуса, лепш да найсвентшай маткі, бо такі вядома, што мужчына за мужчынаю пацягне».

У вясельнай песні «Няўжо бог не бача...»[3] апісваецца гора сіраты, якая «па волі бога» засталася без бацькі і маці. Дзяўчына аплаквае сваю горкую долю і з дакорам звяртаецца да бога:

Няўжо бог не бача,
Як сіротачка плача,
Як плача дый прычытвае,
Што не родны бацька аддае,
Што не родна маці выраджае,
Не ўвесь род збірае.

У фальклорных творах развенчваюцца таксама ўяўленні аб міласэрнасці і літасці бога. Гэтыя яго якасці імкну-

[1] M. Federowski. Lud białoruski, т. II, ч. I. Kraków, 1902, стар. 133—134 (назва легенды наша).
[2] Там жа, т. III, ч. II, стар. 79—80.
[3] Жанчына ў беларускай народнай творчасці. Выд. АН БССР. Мінск, 1940, стар. 153.

ліся падкрэсліць царкоўнікі з мэтай выклікаць добрыя пачуцці да «цара нябеснага».

Каб выклікаць любоў да быццам бы існуючага бога, царкоўнікі нярэдка ў пропаведзях прыводзілі біблейскія міфы, у якіх бог паказваўся велікадушным і міласэрным. Аднак, калі аб'ектыўна падысці да разгляду біблейскіх міфаў, то няцяжка заўважыць, што нават і ў многіх біблейскіх міфах бог паўстае несправядлівым, бязлітасна жорсткім. «Сціплы» Ісус Хрыстос (які, дарэчы, як даказана навукай, ніколі не існаваў у рэчаіснасці не толькі як бог, але і як чалавек) патрабуе да сябе самых незвычайных адносін. «Хто любіць бацьку ці маці больш, чым мяне, не варты мяне; і хто любіць сына ці дачку больш, чым мяне, не варты мяне» (Евангелле),— павучае ён сваіх вучняў. Карае ўвесь ні ў чым не вінаваты чалавечы род за «першародны грэх» Адама і Евы і бог Іягова. Ён знішчае тысячы бязвінных людзей за грахі «праведнікаў». Калі цар Давід парушыў божую забарону перапісваць людзей і па яго загаду быў зроблен перапіс насельніцтва ў царстве, бог карае не Давіда, а 70 тысяч бязвінных людзей, якіх ён знішчыў пошасцю. (Біблія. Другая кніга царстваў). Але царкоўнікі падобныя міфы абыходзілі ці тлумачылі па-свойму. Яны імкнуліся ўкараніць у свядомасць працоўных уяўленне аб богу як носьбіту дабра. Народна-паэтычныя ж творы сведчаць, што такое ўяўленне аб богу не мела глыбокіх карэнняў у народзе. Працоўныя ставіліся скептычна да заклікаў царкоўнікаў ва ўсякіх выпадках звяртацца да бога. «Бог высока, пан далёка» [1],— гаварылі сяляне (прыказка запісана ў пачатку XIX стагоддзя Е. Тышкевічам у Барысаўскім павеце).

Канчаткова не пераконаны ў тым, што ніякага бога няма, народ лічыў яго абыякавым да гора працоўных і ў сваіх вуснапаэтычных творах паказаў «усявышняга» лютым і бессардэчным. У «Апавяданні аб тым, як салдат правучыў смерць» [2] бог— рэзка адмоўны персанаж. Ён загадаў смерці тры гады знішчаць людзей сярэдняга ўзросту, потым — малых дзяцей. Салдат, які стаяў на варце ў бога і не дапускаў да яго смерць, а загады перадаваў сам, гаварыў ёй. каб яна знішчала не людзей, а грызла сярэднія дубы, по-

---

[1] E. Tyszkiewicz. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847, стар. 414.

[2] П. В. Шейн. Белорусские песни. СПб, 1873, стар. 722—725.

тым — маладыя. Змораная ад такой працы смерць не вытрывала і ў роспачы і злосці прарвалася да бога. Бог пакараў салдата: прымусіў яго тры гады насіць на сваіх плячах смерць, каб яна марыла народ. Але салдат і тут аказаўся хітрэйшым: засадзіў смерць у табакерку. Проціпастаўленне ў легендзе простага чалавека «літасціваму» біблейскаму богу рэльефна вылучае адмоўныя якасці апошняга. Гуманнасць і самаахвярнасць, дасціпнасць і знаходлівасць салдата; помслівасць і жорсткасць бога — вось рысы, якія падкрэсліваюцца ў легендзе пры гэтым процістаўленні.

У гэтай легендзе, як і ў многіх іншых антырэлігійных творах, з поспехам выкарыстоўваецца прыём кантрасту. У легендзе «Як бог смерць па маці ад дзяцей пасылаў» таксама выкарыстоўваецца гэты прыём, выкарыстоўваецца арыгінальна і нечакана. Бог тут такі жорсткі, што застаецца безуважным да слёз і гора маленькіх дзяцей, калі пасылае смерць, каб яна забрала іх маці; і нават няўмольная смерць паказана больш літасцівай, чым бог. Смерць уступае па просьбе дзяцей, бога ж нельга ўпрасіць злітавацца — сцвярджаецца ў легендзе [1].

У шматлікіх іншых варыянтах гэтай легенды ролю смерці выконваюць анёлы [2]. Яны таксама шкадуюць дзяцей і не забіраюць ад іх маці. Бессардэчны бог карае іх за гэта: выганяе з нябеснага царства.

Ускладанне адказнасці за справы на зямлі на бога з'яўляецца своеасаблівым выражэннем сацыяльнага пратэсту працоўных супраць класавага прыгнёту. У спрадвечным горы працоўнага чалавека доўгі час існавала надзея на дапамогу бога. Але горкі жыццёвы вопыт паступова разбураў усякія спадзяванні на ўмяшанне бога ў штодзённыя справы. Ва ўяўленні селяніна-бедняка бог паўстае ў новым абліччы: ён ужо не носьбіт дабра, а ўвасабленне зла, абаронца інтарэсаў прыгнятальнікаў. Такі бог не мог ужо ўзбуджаць да сябе добрых пачуццяў з боку сялян, а, наадварот, нярэдка выклікаў нянавісць. Адмаўленне ад веры ў літасць бога паэтычна выражана ў «Песні ўдавы» [3]. У адказ на

---

[1] M. Federowski. Lud białoruski, т. II, ч. I, стар. 272.

[2] M. Federowski. Lud białoruski, т. III, ч. II, стар. 282—283; В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. I, стар. 323—325; А. Сержпутоўскі. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета, стар. 170—174.

[3] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 115.

параду бацькі «прасіць бога днём і ночкай», «зваць яго на помач» бедная ўдава, якая засталася з малымі сіратамі ў разбуранай хатцы, адказвае:

Ой ты, татачка мой родны,
Не папраўдзе ты гаворыш, —
«Бог на помач» я чувала,
Як маленькаю ляжала.

Бедны чалавек, які ніколі не мог дачакацца божай дапамогі, гнеўна пратэставаў супраць заклікаў духавенства верыць у літасць бога: «Няхай тое чорт з'есць, што бог дасць» (Белар.).

Несправядліва жорсткім і помслівым паказан бог у фальклорных творах, дзе раскрываюцца адносіны рэлігіі да жанчыны. На працягу тысячагоддзяў усе рэлігійныя веравучэнні зневажаюць жанчыну. «Царкоўная легенда аб стварэнні жанчыны з мужчынскага рабра, легенды арабаў, індусаў і шматлікія ўзоры розных іншых нагавораў на жанчыну — усё гэта сведчыць аб аднадушным імкненні жрацоў усіх рэлігій сацыяльна ўнізіць жанчыну» [1], — пісаў А. М. Горкі ў артыкуле «Аб жанчыне». У другім артыкуле вялікі пралетарскі пісьменнік гнеўна выкрываў агідную ролю рэлігіі, якая ўзаконьвала ўніжэнне і здзекі над жанчынай. Ён адзначаў, што розныя рэлігіі пераконвалі мужчыну ў яго праве лічыць «жанчыну сабакам у яго гаспадарцы». «Рабу божаму» даказвалася неабходнасць ставіцца да жонкі, як да сваёй рабы» [2].

М. Горкі лічыць, што зняважлівыя і варожыя адносіны да жанчыны перайшлі ў народную творчасць ад жрацоў царквы, эксплуататарскай філасофіі і навукі. Пад уплывам царквы ўзніклі шматлікія прыказкі і прымаўкі, казкі і легенды, у якіх абражаецца жанчына.

Сапраўды, няцяжка заўважыць, што пад тым жа ўплывам былі створаны беларускія прыказкі і прымаўкі: «Бабы не людзі»; «У бабы волас доўгі, ды розум кароткі!» (Федар.) і інш.

Аднак народ складаў і творы, накіраваныя супраць імкнення царкоўнікаў асвяціць божым імем бяспраўнае становішча жанчыны. У легендзе «Бог, баба і мужык» [3] гучыць

---

[1] М. Горький. О женщине. «Русские писатели о религии». М., 1959, стар. 210.

[2] М. Горький. Собр. соч., т. 27, стар. 178.

[3] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. IV, стар. 160.

пратэст супраць крыўдлівага і злога бога, які пакараў жанчыну бясконцай пакутлівай працай толькі за тое, што яна, занятая кармленнем дзіцяці, паказала богу дарогу не рукой, а нагой. Пародыя «Сатварэнне Евы»[1] з'едліва высмейвае вядомае біблейскае паданне аб стварэнні Евы з рабра Адама.

У беларускім фальклоры мы знаходзім вобраз жанчыны цудоўнай маральнай прыгажосці (Васіліса Прамудрая, Проська-змагарка, Бандароўна). Народ выступае супраць зняважлівых адносін да жанчыны з боку царквы і рэлігіі, аб'ектыўна выступае і супраць славутай рэлігійнай маралі, па якой жанчына не лічыцца за чалавека і па якой яе аб'яўляюць прычынай усяго амаральнага ў паводзінах і ўчынках людзей. Фальклорныя творы, у якіх жанчына праслаўляецца за вялікі розум і здольнасць да працы, за актыўны ўдзел у барацьбе за вызваленне ад прыгнёту, выступаюць супраць намаганняў царквы ўнізіць жанчыну, паказваюць яе роўнай з мужчынам па інтэлекту і па ролі ў грамадстве.

Бог нярэдка надзяляецца самымі непрыглядпымі, адмоўнымі людскімі рысамі: ён — авантурыст і махляр, імкнецца адабраць у беднага селяніна жарабя, за хабар «пераконвае» суддзяў, што жарабя народжана не кабылай селяніна, а божым калочкам («Бог і мужык»[2]). Бог паўстае злосным ашуканцам і патуральнікам ашуканцаў. Яго ўчынкі накіраваны на замацаванне сацыяльнай несправядлівасці, на абарону інтарэсаў эксплуататараў. «І бог ашуканствам жыве: у аднаго адбярэ, а другому дасць» (Федар.); «За тым і божа, хто бедака зможа» (Белар.),— гаворыцца ў беларускіх прыказках. У казцы «Несцерка»[3] бог перадае праз Юрыя такую параду Несцерку:

— А няхай круціць ды матаець і душу пітаець!

І з божага «благаславення» Несцерка разбагацеў. Як відаць з гэтай казкі, народ пачынае разумець, што эксплуататарскі лад заснаваны на ашуканстве і сацыяльнай несправядлівасці, што багацці пры такім ладзе нажываюцца за кошт чужой працы. Казка выкрывае ганебную ролю рэлігіі, якая ўзаконьвае ашуканства і эксплуатацыю чалавека чалавекам.

---

[1] АІМЭФ АН БССР, ф. 8, воп. 12, спр. 189 (уласныя запісы).

[2] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. IV. Витебск, 1891, стар. 23.

[3] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, т. I, вып. III, стар. 400—401.

Казка «Несцерка» карысталася вялікай папулярнасцю ў народзе. Яна неаднаразова запісвалася дарэвалюцыйнымі фальклярыстамі [1] і дайшла да нашых дзён. У 1958 годзе ў Пружанскім раёне быў запісан яе варыянт «Цімошка ў бога». Народная думка аб ашуканскай сутнасці рэлігіі знаходзіць у гэтай казцы далейшае развіццё.

У казцы «Бог і ўгоднікі»[2] выказана думка, што бог наўмысна не жадае стварыць добрае жыццё людзям з-за сваёй жа карыслівасці і прагнага жадання задаволіць сваё самалюбства. Бог гаворыць угоднікам, якія заўважылі несправядлівасці ў грамадстве: «Дуракі вы, дуракі, як я пагляджу, калі б я так [справядліва] дзелаў, ...як вы гаворыце, людзі і пра мяне і пра вас бы забылі. Рабацягі б усё самі пападзелалі, і бог бы ім ніколі не панадабіўся, а лянівы ды глупы і падаўна на бога не ўспомніць... Здзелай я па-вашаму, па-глупаму, людзям бы ні бог, ні святыя не нада былі».

У гэтых словах адлюстравана стыхійнае імкненне народа зразумець карэнні рэлігіі. Паводле гэтай думкі, рэлігія трымаецца дзякуючы грамадскай і сямейнай неўладкаванасці пры самадзяржаўным ладзе і віноўнікам зла паказан сам бог, а не людзі, як гаворыцца ў рэлігійным вучэнні.

Ідэя казкі вызначаецца прыказкай «Як трывога, дык да бога», у якой выказана адна з прычын існавання рэлігіі. Сапраўды, пры эксплуататарскім ладзе рэлігія падтрымліваецца страхам перад пастаяннымі пагрозамі нечаканай бяды. «Страх стварыў багоў». Страх перад сляпой сілай капіталу, якая сляпая, бо не можа быць прадугледжана масамі народа, якая на кожным кроку жыцця пралетарыя і дробнага гаспадарчыка пагражае прынесці яму і прыносіць «раптоўнае», «нечаканае», «выпадковае» разарэнне, гібель, ператварэнне ў жабрака, у паупера, у прастытутку, галодную смерць,— вось той *корань* сучаснай рэлігіі, які перш за ўсё і больш за ўсё павінен мець на ўвазе матэрыяліст» [3], — пісаў у 1909 годзе Ленін.

Едкі, знішчальны сарказм адчуваецца ў народна-паэтычных творах, якія беларускія працоўныя складалі ў ад-

---

[1] Архіў АН СССР (г. Ленінград), ф. 104, воп. 1, № 144, л. 31; фальклорныя сшыткі Я. Коласа.

[2] П. В. Шейн. Белорусские песни. «Записки Императорского русского географического общества», т. V. СПб, 1873, стар. 711.

[3] У. І. Ленін. Творы, т. 15, стар. 376.

каз на імкненне царкоўнікаў вытлумачыць недарэчнае паняцце адзінства «божай тройцы».

У анекдоце «Ці ведаеш, што гэта тройца»[1] селянін кпіць з яўнай недарэчнасці рэлігійнага паняцця аб богу. Амаль увесь анекдот пабудаван на дыялогу, праз які дасціпна раскрываецца ідэя твора. Пан тлумачыць мужыку, як трэба разумець «тройцу»:

— Бачыш: шапка мае верх, сяродку і падкладку, так і бог адзін, ды ў трох ліцах. Ці паняў?

— Паняў,— адказаў мужык.

Селянін сапраўды «паняў», але па-свойму. У яго адказе другому пану нельга не адчуць саркастычнай насмешкі і над верай у тройцу і над тлумачальнікам-панам. На пытанне «А ведаеш ты, што гэта тройца?» ён адказвае: «Чаму не ведаю? — Як панава шапка».

Асноўныя рысы бога, злога, бязлітаснага, несправядлівага і несумленнага, ярка выяўлены ў прыказках і прымаўках, дзе ў сціслай форме, глыбока і поўна выкрываецца эксплуататарская сутнасць ідэі бога. Бог у іх заўсёды спрыяе багатым і безуважны да гора беднякоў: «Бог за таго, у каго грошы»; «Бедняку бог не залоціць парог» (АІМЭФ); «За тым і бог, хто бедака перамог» (Белар.); «Бог не гуляе, многа палатна мае, бедным торбы нагатаўляе»; «Над сіратою бог з калітою, ды з каліты ёй нічога не трапляе» (Янк.) і інш. Бог на баку махляроў і ашуканцаў: «Хто круціць ды матае, таму і бог памагае» (АІМЭФ).

Праз прызму наіўнага рэалізму прыказкі і прымаўкі адлюстравалі вынікі вялікага вопыту працоўных, якія на практыцы пераканаліся, што ад пакланення богу для іх няма ніякай карысці: «Бог шчырых любіць, але долі не дае»; «На бога спадзяешся — без кашулі астанешся» (Янк.); «Сам не дагледзіш і бог не паможа»; «Бога прасіць, што рэшатам ваду насіць»; «Без сахі і бараны і бог хлеба не дасць» (АІМЭФ) і інш.

* * *

Не з меншай дасціпнасцю развенчваецца ў беларускай народнай творчасці святасць божых угоднікаў. Культ святых устанавіўся ў хрысціянстве не адразу, а толькі ў III—

---

[1] П. В. Шейн. Материалы..., т. II, стар. 321—322.

IV стагоддзях. Ён адыграў пэўную ролю ў барацьбе з язычаствам. «Хрысціянства, — падкрэсліваў Ф. Энгельс, — магло выцiснуць у народных мас культ старых багоў толькі пры дапамозе культу святых»[1]. Для праслаўлення божых абраннікаў царква выкарыстала ў сваіх міфах, легендах і «жыціях святых» фантастыку старажытных народных казак. Дзеянні і ўчынкі герояў гэтых казак яна перанесла ў свае творы і прыпісала розным «святым». А. М. Горкі пісаў аб гэтым: «...Калі я ўважліва прачытаў літаратуру царкоўнікаў — «жыція святых», мне стала зразумела, што цуды, аб якіх расказвае царква, запазычаны ёю з мудрых старажытных казак, так што і тут,— як усюды і ва ўсім,— царкоўнікі жылі за кошт здаровай, узбуджаючай розум творчай сілы працоўнага народа» [2].

У процілегласць створаным царквой (ці пад яе ўплывам) легендам, якія праслаўляюць божых абраннікаў — «святых», народныя творы паказваюць іх ганарыстымі, помслівымі, злапамятнымі, карыслівымі, п'яніцамі, зладзеямі і ашуканцамі.

Ганарысты Ягоры жорстка помсціць мужыку толькі за тое, што апошні палічыў яго дапамогу менш важнай, чым Міколы (легенда «Аб святым Міколе і Ягор'і» [3]). Знявагай святога Юр'я прасякнута прыказка «Два Юр'і — абодва дурні: адзін халодны, а другі галодны» (Ляцкі).

Вобраз святога Міколы ў фальклоры прама супрацьлеглы яго ж вобразу ў царкоўных творах і надзелен рэзка адмоўнымі рысамі. Калі мужык параўноўвае коней Міколы і Юр'я і называе лепшым каня Юр'я, пыхлівы і фанабэрысты Мікола лічыць гэта за абразу і доўгі час жорстка помсціць селяніну [4]. Злым і помслівым паказан Мікола ў легендах «Бог і святы Мікола», «Бог, Юры і Мікола» [5]. Мікола ў гэтых легендах помсціць ні ў чым не вінаватаму селяніну на працягу ўсяго яго жыцця. Падставай для помсты ў першым выпадку з'явілася тое, што маці селяніна абліла святога вадою, калі ён падглядаў, як купаюць нованароджанага. У другім выпадку таксама за залішнюю цікавасць Мікола атрымаў ад жанчыны каменем па лбе.

---

[1] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. XVI, ч. II, стар. 429.
[2] М. Горький. Собр. соч., т. 27, стар. 401.
[3] В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. I, стар. 302—306.
[4] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. IV, стар. 19—20.
[5] П. В. Шейн. Материалы..., т. II. СПб, 1893, стар. 367—370.

«Святасць» Міколы развенчваецца таксама ў тых творах, дзе ён паказаны такім заўзятым п'яніцам, што заўсёды застаецца ў даўгу ў карчмара[1]. «Святыя» Мікола і Пятро вучацца гнаць гарэлку ў чорта — самага злоснага «ворага роду чалавечага»[2].

Характэрна, што ў многіх выпадках у народных творах адсутнічае ўсякая павага да святога Міколы. У казцы «Не люба — не слухай»[3] святы — звычайны п'яніца-мужык: «святы Мікола набраўся гарэлкі, як пучак, ляжыць пад лавай і храпець, як пшаніцу прадаўшы». На падставе такіх зневажальных адносін да святых сяляне склалі прыказку «Святыя ўгоднікі на п'янку ўгодлівы: што ні дзень, то свята» (Антырэліг.).

У дарэвалюцыйнай фалькларыстыцы амаль не звярталася ўвага на народныя творы з такой рэзкай крытыкай святых. У «Истории русской литературы» Е. Анічкаў называў Міколу міласцівага «ўлюбёным героем народных легенд», «найбольш блізкім народу святым»[4] і г. д. Але і прыведзеныя вышэй прыклады, і многія іншыя творы сведчаць аб памылковасці вывадаў Е. Анічкава, сцвярджаўшага, што ўсходнеславянскія народы адносяцца да святых угоднікаў з вялікай пашанай.

Да нашага часу дайшлі ў народным бытаванні творы, у якіх няма і следу пашаны да славутага Міколы. У 1936 годзе была запісана «Казка пра аднаго дзеда і Міколу»[5], дзе добра відаць адносіны сялян да святых угоднікаў. Дзед купіў свечку і выбіраў «найбольш палезную ікону». Памаліўся ён перад некалькімі абразамі і рашыў паставіць свечку перад іконаю Міколы. «Палез ён у карман, а свечкі няма. Раззлаваўся дзед ды як крыкне на Міколу: «Ах ты, стары чорт, за чым глядзеў? Вось табе хвіга, а свечку ўкралі».

З вялікім майстэрствам развенчваецца арэол святасці і іншых божых угоднікаў. Найбольшае згушчэнне фарб заўважаецца ў абмалёўцы вобраза святога Іллі, усе імкнен-

---

[1] В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. I, стар. 298—392.
[2] Там жа, стар. 283.
[3] П. В. Шейн. Материалы..., т. II, стар. 244—246.
[4] История русской литературы, т. I. Народная словесность, под редакцией Е. В. Аничкова. М., 1908, стар. 125—126.
[5] Антырэлігійныя казкі, частушкі, прыказкі. Мінск, 1957, стар. 67.

ні якога накіраваны не на дабро, а на зло, якое ён паўсядзённа робіць людзям. Адмоўныя рысы святога Іллі асабліва ярка вылучаюцца ў паказе яго сутыкненняў з мужыком. Ён «аж затросся ад злосці», калі селянін пад прымусам саміх жа святых угоднікаў вымушан быў сказаць, што сяляне больш любяць Паўла-Пятра, чым яго. Святы Ілля прагне помсты. Каб зрабіць мужыку зло, ён праклінае першы блін з сялянскай нівы. Але давіцца гэтым блінам не мужык, а сам угоднік (казка «Ілля і Пятро» [1]). Святыя Ілля і Пятро параўноўваюцца ў гэтай казцы з панамі, якія па народнаму ўяўленню з'яўляюцца носьбітамі ўсяго злога і шкоднага.

Па сваіх адмоўных якасцях мала ў чым уступае Іллі Павел-Пятро (у некаторых творах Павел і Пятро зліваюцца ў адзін вобраз). Святы Пятро — аматар крадзяжу: ён крадзе не толькі ў людзей, але і ў самога бога [2]. З-за сваёй глухаты ён вінаваты ў тым, што дождж ідзе не тады, «як просяць, а тады, як косяць» ці жнуць [3]. «От як з глухім, як з дурным» [4],— гаворыцца аб ім у адной з казак.

Святыя ў казках паказаны слабейшымі за звычайных людзей, ад якіх ім часам добра дастаецца. Павел і Пятро, расказваецца ў легендзе «Ліха абходзь, а дабра не мінай»[5], залезлі на печ у хаце, дзе было вяселле. І колькі ні прасіла ўдава, каб яны перайшлі ў хату да яе і дапамаглі хвораму сыну, Павел і Пятро не ўважылі яе просьбы. «Тым часам на вяселлі хлопцы захадзіліся каля Паўла-Пятра дый пачалі лупцаваць іх паплiскамі. Круцяцца на печы Павел-Пятро, бы ўюны на скаварадзе, а хлопцы лупяць іх ды прыказваюць: «Не чапайце нашых дзевак, не лезьце ў чужое вяселле».

Важна адзначыць, што фантастыка народных казак і легенд, дзе персанажамі з'яўляюцца бог і святыя, мае свае спецыфічныя асаблівасці, якія адрозніваюць яе ад біблейскіх міфаў. Рэлігія сцвярджае, што біблейскія героі існа-

---

[1] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 16—18.

[2] А. К. Сержпутоўскі. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета, стар. 112, 241.

[3] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 16—18.

[4] M. Federowski. Lud bialoruski, т. III, ч. II, стар. 283—284.

[5] А. К. Сержпутоўскі. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета, стар. 9.

валі ў сапраўднасці і ўсё адбывалася толькі так, як расказваецца ў біблії.

Рэлігійная фантастыка адлюстроўвала рэчаіснасць у скажоным выглядзе. «Усе фантастычныя вобразы, фантастычныя выдумкі рэлігійных вучэнняў: карціна раю і пекла, страшнага суда, розныя цуды і г. д.— пабудаваны з таго матэрыялу, з тых уяўленняў, якія людзі атрымліваюць у штодзённым жыцці ад рэальных рэчаў і з'яў. Рэлігійная фантазія з розных элементаў гэтых рэальных уяўленняў камбінуе і стварае такія вобразы і малюнкі, якіх у рэчаіснасці няма» [1].

Фальклорныя ж творы, у тым ліку і тыя, у якіх дзеючымі асобамі з'яўляюцца бог і святыя, не патрабуюць, каб іх фантастыка ўспрымалася за рэчаіснасць. Народныя творы, асабліва казкі і легенды, заснаваны на вольнай выдумцы, якая іменна як выдумка і ўспрымаецца народам. Аднак гэта спецыфічная асаблівасць не пазбаўляе вуснапаэтычныя творы магчымасці праўдзіва адлюстроўваць рэчаіснасць. выказваць сапраўдныя мары, чаканні і спадзяванні народа. Праўдзівасць народных казак і легенд заключаецца ў тым. што тут своеасабліва, праз прызму фантастыкі, нярэдка праз павелічальнае шкло гратэску паказваюцца тыповыя бакі сапраўдных узаемаадносін людзей, тыповыя рысы характараў прадстаўнікоў розных грамадскіх класаў і сацыяльных груп.

* * *

Апрача веры ў бога і святых, хрысціянская рэлігія прызнае існаванне д'ябла. Калі бог, у адпаведнасці з рэлігійнымі дагматамі, лічыцца носьбітам дабра, то д'ябал — крыніцай зла. «Царква хрысціянская заўсёды і бясспрэчна прызнавала быццё д'ябла і анёлаў яго»,— пісаў маскоўскі мітрапаліт Макарый. «Злыя духі» насілі розныя назвы: д'ябал, спакуснік, сатана, вельзявул, веліар і інш. У рэлігійных вучэннях д'яблу, сатане, чорту і іншым «злым духам» адводзіцца вялікае месца. У біблейскім міфе аб грэхападзенні Адама і Евы д'ябал аказваецца хітрэйшым за бога: яму ўдаецца пераканаць жанчыну парушыць божы загад, паводле якога не дазвалялася есці плады з дрэва пазнання дабра і зла. У біблії бог патрабуе прыносіць ахвяры не толькі яму самому, але і сатане (Лявіт.). Вялікая

[1] Основы научного атеизма. М., 1961, стар. 11.

сіла сатаны прызнаецца і ў евангеллі: ён спрабуе спакусіць самога Ісуса Хрыста.

Духавенства падтрымлівае веру ў злых духаў, каб запалохаць людзей і прымусіць іх хадзіць у царкву. Царкоўнікі павучаюць, што толькі з дапамогай свяшчэннікаў, якія валодаюць незвычайнымі здольнасцямі і магічнай сілай, неабходнай для сувязі з богам, можна выратавацца ад д'ябла. «Знішчыце легенду аб чорце — і свяшчэнніку нечага будзе рабіць»[1],— гаворыць М. С. Хрушчоў. Духавенства не хоча адмаўляцца ад карыснай для яго веры ў «нячыстую сілу». Яно разумее, што адмаўленне ад міфаў аб д'яблу магло б падарваць рэлігійную веру. Аб значэнні веры ў д'ябла для ўмацавання рэлігіі з красамоўнай іроніяй пісаў Поль Гольбах:

«Д'ябал — галоўны міністр нябеснага двара, рычаг, пры дапамозе якога працуе царква. Бог адным словам мог бы зваліць яго ў цемру небыцця, але ён асцерагаецца гэта рабіць: бог мае вострую патрэбу ў ім, таму што на яго кошт ён можа аднесці ўсе дурасці, у якіх маглі б абвінаваціць яго самога. Таму ён пакідае д'ябла ў спакоі... Бог не можа абысціся без д'ябла, богабоязь часта не што іншае, як страх перад д'яблам. Не будзь д'ябла, многія набожныя людзі ніколі не думалі б ні пра бога, ні пра яго духавенства» [2].

У класавым грамадстве вера ў д'ябла мае глыбокі сацыяльны сэнс: яна выкарыстоўваецца для падтрымання і ўмацавання эксплуатацыі працоўных. Прычынай сацыяльнага зла царква аб'яўляе не панаванне цара, памешчыкаў, капіталістаў і іншых прыгнятальнікаў, а існаванне д'ябла. Усякая барацьба супраць эксплуататарскіх парадкаў называецца царкоўнікамі «сатанінскай справай», а рэвалюцыянеры — «слугамі д'ябла» [3].

Сацыяльны сэнс веры ў звышнатуральных носьбітаў зла падкрэсліваў М. Горкі. Ён пісаў: «Калі б бог быў — дабро для ўсіх, не было б сэнсу каму-небудзь змагацца супраць яго. Ён быў «дабром» толькі для тых, хто меў патрэбу ў звышразумным умацаванні сваёй улады, і злом для

---

[1] З прамовы на агульнагерманскай рабочай канферэнцыі ў Лейпцыгу 7 сакавіка 1959 г. «Правда» за 27 сакавіка 1959 года.

[2] Поль Гольбах. Карманное богословие. М., 1937, стар. 110—111.

[3] Б. Кандидов. Церковь и гражданская война на юге. М., 1931, стар. 13.

розума, выхаванага працэсамі працы»[1]. Намаганні духавенства пасеяць у народзе страх перад нячыстай сілай не далі для царквы жаданых вынікаў. Не толькі атэісты, але і веруючыя беларусы ў пераважнай большасці не адчувалі страху перад чортам.

У «Материалах для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края» П. В. Шэйна адзначаецца, што беларусы «чорта, нячысціка таксама [як бога] не баяцца, нічога надзвычайнага яму не прыпісваюць, хіба толькі калі які-небудзь бесклапотны заблудзіцца дзе-небудзь у лесе ці ў полі, кажуць, што яго «нячысцікі вадзілі»[2].

Аб адсутнасці страху да чорта, аб няверʼі ў яго звышнатуральную сілу і нават у яго існаванне сведчаць шматлікія беларускія народныя казкі і легенды. Дасціпны народны гумар развейвае боязь чарцей і нават боязь пекла — іх сталага месцазнаходжання. Салдат, герой казкі «Салдат ні ў раю, ні ў пекле» [3], папаў у пекла і «давай чарцей пад бокі штыхом варсаць,— ганяе іх па пеклу! Негдзе ім дзецца!» Рады былі б пазбавіцца чэрці ад салдата, ды не могуць. Толькі хітрасцю ўдаецца ім выселіць з пекла салдата.

Герой другой казкі, селянін-музыкант, разбурае пекла музыкай: «От зайграў ён, ды так, што ўсё пекла разляцелася ў шчэпкі, а чэрці разбегліся па ўсяму свету. От з тае пары чэрці і баяцца Музыкі і больш яго не чапаюць» («Музыка і чэрці»[4]). У гэтай казцы знаходзяць яркае адлюстраванне эстэтычныя погляды працоўных, на думку якіх мастацтва зʼяўляецца грознай зброяй у барацьбе з усякім злом. Музыка ў казцы — сродак, з дапамогай якога чалавек атрымлівае перамогу над варожымі сіламі.

Разглядаючы гэту казку, М. Ларчанка вельмі ўдала назваў яе «маніфестам народнай эстэтыкі» [5]. Сапраўды, у казцы знайшлі ўвасабленне асноўныя думкі народа аб адносінах мастацтва да рэчаіснасці і аб яго ролі ў грамадстве: мастацтва павінна змагацца за інтарэсы народа, абуджаць

---

[1] М. Горький. Собр. соч., т. 27, стар. 497.

[2] П. В. Шейн. Материалы..., т. III, стар. 13.

[3] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, т. I, вып. III, стар. 426—427.

[4] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 4.

[5] М. Ларчанка. На шляхах да рэалізму. Выд. БДУ, 1958, стар. 52.

у масах імкненне да барацьбы за вызваленне ад прыгнятальнікаў (не выпадкова ў казцы чэрці паўстаюць у абліччы маладых панічоў!), якіх не так цяжка перамагчы, як здаецца,— вось галоўны вывад, які вынікае з ідэйнага зместу казкі.

Папулярнымі ў народзе былі казкі, у якіх звычайны чалавек спрытна ашуквае чорта: «пераконвае», што мацнейшы за яго.

Напрыклад, каб выявіць сілу, чалавек патрабуе ад чорта сціснуць камень так, каб пацякла вада. Чорту не ўдаецца. Чалавек жа пад выглядам каменя сціскае сыр — і вада з яго цячэ («Клімко-вор і чэрці»[1]). У спрэчцы, хто каго перагоніць, чалавек пасылае замест сябе «свайго сына» — зайца. Чорту не ўдаецца дагнаць яго («Чорт, мядзведзь і заяц»[2]). На прапанову чорта абнесці кабылу вакол балота Іванька-дурачок сеў верхам і аб'ехаў балота, у той час, як чорт узяў яе на плечы і нёс, пакуль не зваліўся («Іванька-дурачок і чорт»[3]) і г. д. Апошнія казачныя сітуацыі знаходзім мы і ў вядомай «Казцы пра папа і работніка яго Балду» А. С. Пушкіна.

У разнастайных казачных сітуацыях ёсць агульнае: усюды чорт паказан дурным, бездапаможным, нястрашным. Народныя казкі разбураюць уяўленне аб тым, што чорт валодае звышнатуральнай сілай, хаця ў многіх выпадках і не адмаўляюць яго існаванне.

Характэрна, што ў народных творах чорт нярэдка паўстае ў постаці пана або паніча («Неба і пекла», «Музыка і чэрці»[4], «Юда-разбойнік»[5], «Балотныя паны»[6]). Носьбіт зла замагільнага царства атаясамліваецца з носьбітам зла зямнога. Працоўныя, відавочна, блізка падыходзілі да разумення прыроды сацыяльнага зла ў класавым грамадстве. Атаясамліваннем чорта і пана народ выказаў сваю нянавісць да эксплуатататараў.

У тых жа казках, дзе прызнаецца звышнатуральная моц чорта, яго сіла звычайна выкарыстоўваецца чалавекам

---

[1] П. В. Шейн. Материалы..., т. II, стар. 297—299.

[2] Там жа, стар. 116—117.

[3] Там жа, стар. 118—120.

[4] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 2—4.

[5] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, т. I, вып. III, стар. 307—312.

[6] П. В. Шейн. Материалы..., т. II, стар. 270—271.

у сваіх мэтах («Паляшук і чорт» [1], «Чорт у мужыка на службе» [2], «Каваль, чорт і пан» [3] і інш.). Беларускі народ як бы хоча сказаць гэтымі творамі: чалавек можа падпарадкоўваць сабе ўсё дзякуючы велізарнай сіле розуму.

У некаторых творах «нячысцікі» часам выконваюць ролю той сілы, што карае зло, зробленае ў час жыцця на зямлі эксплуататарамі. Такія творы адлюстроўваюць спадзяванні працоўных на тое, што прыгнятальнікі будуць пакараны. Вось малюнак расправы ў пекле з панамі, якія ўбачылі Марка — героя легенды «Марка пякельны»,[4]— і тлумачэнне бога:

— Напаткаў я па дарозе і горшую муку, кажа Марка: нячысцікі цягнуць з людзей жылля, выматваюць кішкі, а яны, бедныя, рагочуць... Хто б гэта такія былі?

— А гэта нашыя паны,— кажа бог.— Яны катавалі людзей, цягнулі з іх жылля, выматвалі кішкі, выбівалі сілы, у ярмо запрагалі, прадавалі — мужа з жонкай, бацьку з дзецьмі разлучалі, грошы вымагалі, а самі жылі — раскошэвалі, у радасці, у весялосці...»

У гэтай легендзе народ не ідзе далей ідэй ранняга хрысціянства: пакаранне папоў за здзекі над сялянамі адбываецца на тым свеце і па волі бога; заклік да барацьбы за вызваленне ад класавага прыгнёту ў ёй адсутнічае.

Вялікае значэнне ў развянчанні рэлігійных уяўленняў аб д'ябле і ў развейванні страху перад нячыстай сілай мае прыём выкарыстання элементу камічнага. Смех з'яўляецца той зброяй, стрэлы якой смяротна паражаюць аджыўшыя рэлігійныя уяўленні.

Камічны чорт, які завязаў вочы, каб не вылезлі ад свісту Іванькі-дурачка. Апошні так «свіснуў» даўбешкай па чортавай галаве, што той аж упаў («Іванька-дурачок і чорт»). Камічны чорт, які на сваім карку возіць па вадзе і гразі палешука («Паляшук і чорт»). Выклікае смех чорт, які баіцца аднаго слова «баба» і што ёсць моцы кідаецца ўцякаць («Мужык дурань, як варона, а хіцёр, як чорт»[5]) і г. д.

---

[1] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 173—176.

[2] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. IV, стар. 52—60.

[3] П. В. Шейн. Материалы..., т. II, стар. 144—145

[4] Там жа, стар. 384.

[5] А. Сержпутоўскі. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета, стар. 52—55.

Разгледжаныя намі творы, у якіх адным з галоўных персанажаў з'яўляецца чорт, нельга назваць антырэлігійнымі ў поўным сэнсе слова. Існаванне бога і нячыстых духаў у гэтых творах часцей за ўсё бярэцца пад сумненне, а не абвяргаецца. Аднак камізм створаных у гэтых казках і легендах вобразаў звышнатуральных істот абвяргае ўяўленне аб іх вялікай сіле, што супярэчыць царкоўнаму вучэнню і істотна падрывае рэлігійную веру.

## Крытыка „свяшчэннага пісання“

Вуснапаэтычныя творы, з якіх відаць крытычнае стаўленне беларускага народа да біблейскіх міфаў старога і новага запаветаў, займаюць важнае месца ў беларускім дарэвалюцыйным фальклоры. Гэтыя творы былі добра вядомы ўжо ў XVII стагоддзі. Яны аказалі вялікі ўплыў на сатырычныя аповесці, у якіх парадзіруюцца біблейскія сюжэты і вобразы, царкоўныя набажэнствы, напрыклад, на аповесці «Сказание о крестьянском сыне», «Повесть о бражнике» і інш.[1]

Царква вучыць, што ўсе біблейскія кнігі створаны па ўнушэнню самога бога. Напісаныя быццам бы божымі абраннікамі, якім бог унушыў іх змест, гэтыя кнігі аб'яўлены царквой свяшчэннымі і пакладзены ў аснову хрысціянскага веравучэння. Царкоўнікі ўсімі сіламі імкнуцца ўкараніць у свядомасці чалавека асноўныя палажэнні біблейскага вучэння, па якому паходжанне нябесных цел, розныя прыродныя з'явы, гістарычныя падзеі і г. д. тлумачацца ідэалістычна, як створаныя воляй бога. Аднак шматлікія вуснапаэтычныя творы сведчаць аб тым, што ў беларускіх працоўных рэлігійная ідэалогія не знайшла глыбокага ўкаранення.

Не валодаючы дастатковымі навуковымі ведамі, працоўныя тым не менш імкнуліся зразумець і спрабавалі растлумачыць з'явы прыроды па-свойму — наіўна, але матэрыялістычна. Беларускія сяляне не згаджаліся, напрыклад, з рэлігійным тлумачэннем пабудовы сусвету. У біблії расказваецца, што бог стварыў на «цвердзі нябеснай» «два свяцілы вялікія: свяціла большае, для кіравання днём, і свяціла меншае, для кіравання ўночы» (Быцие.) У казках

---

[1] Русская демократическая сатира XVII века. М.—Л., 1954, стар. 107—113.

жа, запісаных М. Федароўскім [1], месяц не «свяціла», а нябеснае цела, дзе, як і на зямлі, жывуць людзі. Фантастыка гэтых казак адлюстравала народныя мары аб палётах на месяц.

Герой казкі «Што на месяцы чаўпецца» [2] захацеў даведацца, што робіцца на месяцы. Зрабілі шкляную кулю, ён улез у яе і яго «спранжынаю» закінулі на месяц. Велізарны звер праглынуў кулю, але паляўнічыя пагналіся за ім, і куля выпала. Паляўнічыя — людзі-веліканы — разбілі кулю. Тры гады прабыў чалавек у асяроддзі людзей месяца, пакуль не зрабілі зноў такую ж кулю і адзін з паляўнічых не шпурнуў яе на зямлю.

«Ужо ў глыбокай старажытнасці, — адзначаў М. Горкі,— людзі марылі аб магчымасці лятаць у паветры,— аб гэтым гавораць нам легенды аб Фаэтоне, Дзядале і сыне яго — Ікары, а таксама казкі аб «дыване-самалёце». Марылі аб ускарэнні руху па зямлі — казка аб «ботах-скараходах», асвоілі каня...» [3] Даўно ўжо перастала быць фантазіяй думка аб лятальным апараце, даўно ўжо чалавек авалодаў паветрам. У наш час становяцца явай самыя эфемерныя мары, аб якіх расказвалася ў казках, але наіўная і нескладаная іх фантазія прыцягвае нашу ўвагу тым, што ў казках адлюстраваны мары, у якіх народ не прамінуў пытанні далёкага будучага (з пункту гледжання таго часу), толькі нядаўна пастаўленыя на парадак дня: касмічныя палёты. Многія народныя мары здзейсніліся. Але ператварыліся яны ў жыццё насуперак жаданням духавенства, якое заўсёды выступала супраць развіцця навукі і тэхнікі і нанесла велізарную шкоду справе навуковага і тэхнічнага прагрэсу. Усе поспехі ў гэтай справе дасягнуты чалавецтвам у барацьбе з перашкодамі, якія ствараліся царквой.

У наш час чалавек на справе ўпэўніваецца ў ілжывасці рэлігійнага вучэння аб пабудове сусвету. Трапна сказаў аб гэтым М. С. Хрушчоў у гутарцы з аглядальнікам газеты «Нью-Йорк таймс» Сайрусам Сульцбергерам: «Што ж датычыцца раю на небе, то мы чулі аб ім ад папоў. Але мы захацелі самі праверыць, што там за справы, і паслалі туды сваю разведку — Юрыя Гагарына. Ён абляцеў увесь зямны шар, але нічога не знайшоў у космасе — адна цемра

---

[1] M. Federowski. Lud bialoruski, т. II, ч. I, стар. 338—339.
[2] Там жа, стар. 338.
[3] М. Горький. О литературе. М., 1953, стар. 693.

апраметная, кажа, ніякага саду, нічога падобнага на рай. Мы падумалі і рашылі — трэба яшчэ адну разведку зрабіць. Паслалі Германа Цітова. Сказалі яму: ты цяпер больш палятай, таму што Гагарын усяго паўтары гадзіны лятаў, мог і не заўважыць раю. Таму ты там добра прыгледзься. Ён паляцеў і пацвердзіў вывады, якія зрабіў Гагарын,— нічога, кажа, няма»[1]. А Нікалаеў, Паповіч, Быкоўскі і Церашкова яшчэ раз пацвердзілі перамогу навукі і атэізму над рэлігіяй.

Беларускія фалькларныя творы выкрываюць таксама супярэчнасці і недарэчнасці рэлігійнага вучэння аб паходжанні расліннага і жывёльнага свету, чалавека. У анекдоце «Як пропаведзь не ўдалася»[2] поп з амбону гаворыць людзям: «На пачатку свету не было ні кала, ні двара, ні тычыны, ні ляшчыны, так бог зляпіў з гліны Адама і паставіў пад плотам сушыць». Але адзін слухач перапыняе яго:

— Скуль жа той плот узяўся, калі нічога не было?

Прапаведнік «свяшчэннага пісання» амаль дакладна перадаў біблейскі міф аб паходжанні чалавека. Анекдот трапна падмячае супярэчнасці бібліі і тым самым наводзіць на думку аб яе ілжывасці.

І на самай справе біблія поўна супярэчнасцей. У першай главе кнігі «Быція» расказваецца, напрыклад, што бог стварыў неба, зямлю, расліны, сонца, рыб і жывёл. І толькі пасля гэтага ён стварыў чалавека. У другой жа главе расказваецца: «І стварыў гасподзь бог чалавека з праха зямнога і ўдунуў у твар яго дыханне жыцця, і стаў чалавек душэю жывою. І пасадзіў гасподзь бог рай у Эдэме на ўсходзе, і змясціў там чалавека, якога стварыў. І ўзрасціў гасподзь бог з зямлі ўсякае дрэва, прыемнае на выгляд і добрае для ежы, і дрэва жыцця пасярод рая, і дрэва пазнання дабра і зла». Яшчэ пазней, расказваецца ў гэтай главе, бог стварыў жывёл (Біблія. Быціе.). Кемлівыя прадстаўнікі народа заўважалі гэтыя недарэчнасці і выкрывалі іх з дапамогаю вострага мастацкага слова.

Біблейскі міф аб стварэнні чалавека ў анекдоце «Аб стварэнні свету, шляхты, селяніна» дапаўняецца апавяданнем аб тым, як былі створаны шляхціцы: іх, расказваецца

---

[1] «Правда» за 10 верасня 1961 г.
[2] M. Federowski. Lud bialoruski, т. III, ч. II, стар. 176.

ў анекдоце, бог ляпіў не з гліны, як Адама, а з пшанічнай мукі. Камічная сітуацыя, якая знарок ствараецца складальнікамі анекдота, едкім іранічным смехам разбурае ўяўленне аб свяшчэннасці біблейскага міфа. У абодвух варыянтах сцэна набывае значэнне сацыяльнай сатыры на ганарлівых польскіх паноў, прыгнятальнікаў беларускага народа.

Крытыка біблейскай легенды аб грэхападзенні Адама і Евы заключана ў анекдотах «За што?», «Добры адказ»[1] і інш. Едкая іронія гэтых і падобных ім народных твораў падрывала веру ў праўдзівасць біблейскіх міфаў, у правільнасць рэлігійнага «вучэння».

Настаўнік у анекдоце «За што?» пытаецца ў вучня:

— За што бог выгнаў Адама і Еву з раю?

— За тое, што яны з'елі зялёнае яблычка, а зялёнага няможна есці, бо жывот забаліць.

Саркастычны смех з біблейскай легенды аб патопе і выратаванні богам праведнага Ноя і ўсіх жывёл чуецца ў анекдоце «У школе»[2]. Здаровы народны розум не мог пагадзіцца з біблейскімі байкамі аб тым, што ў адным каўчэгу па волі бога было выратавана ў час патопу некалькі чалавек і па дзве пары жывёл, як расказваецца ў адным месцы біблііі, або па сем пар «чыстых» і дзве пары «нячыстых» жывёл, як супярэчліва расказваецца ў другім месцы біблііі. Дзеянне, аб якім апавядаецца ў анекдоце, адбываецца ў школе. Настаўнік пытаецца ў вучня: «Скажы мне, Пятрусь, чаго Ной узяў у каўчэг, чыстых сем пар, а нячыстых дзве пары?

— Нагавіцаў [штаноў],— адказаў вучанік».

У беларускай народнай творчасці адлюстраваны адносіны народа амаль да ўсіх палажэнняў біблііі і евангелля, якія выкарыстоўваліся свяшчэннаслужыцелямі, каб запалохаць паству і ўмацаваць рэлігійную веру страхам перад будучыняй, страхам за лёс ва ўяўным замагільным жыцці.

Анекдот «Бедная баба»[3] прасякнут з'едлівай іроніяй:

— А чаго вы, бабка, плачаце?

— Як жа мне, галубок, не плакаць, калі чыталі ў царкві, што на тым свеце будзе «плач і скрыгат зубамі... А чым жа я буду скрыгатаць, калі ў мяне ані аднюсенькага зуба няма».

---

[1] Беларускія жарты. Выд. «Вясёлка», № 1. Мінск, 1915, стар. 5.
[2] Там жа, стар. 23.
[3] Там жа, стар. 1.

Найбольшай вастрыні крытыка рэлігійнага «вучэння» дасягае ў фальклорных пародыях на стары і новы запаветы біблії. Вялікую папулярнасць гэтых твораў у народзе адзначаў Е. Р. Раманаў. Ён пісаў, што гэтыя творы «перадаюцца і вусна і пісьмова. Нам даводзілася бачыць іх і на вокладках старадаўніх кніг, і ў сшытках, і на асобных лістах паперы... Усе больш або менш сатырычныя, зместу падчас кашчуннага»[1].

У адной з такіх пародый, надрукаванай у 1887 годзе Е. Р. Раманавым у III выпуску «Белорусского сборника», высмейваюцца біблейскія міфы аб першародным граху, аб праведнасці Лота, аб праведным жыцці Саламона і інш. У пародыі трапна падмечаны недарэчнасці «святога пісання». У біблії расказваецца, напрыклад, быццам бог знішчыў гарады Садом і Гамору з жыхарамі за грахі апошніх. Толькі «праведнага» Лота і яго дачок бог вывеў з горада пры дапамозе анёла. Як расказваецца ў біблії далей, «праведны» Лот аказаўся ніколькі не лепшым за знішчаных богам грэшнікаў. Ён жыве ў кровазмяшэнні з сваімі дочкамі, і яны раджаюць ад яго дзяцей. І калі ў біблії паводзіны «благачасцівага» Лота апраўдваюцца, то ў пародыі яны высмейваюцца[2]. Усім сваім зместам пародыя заклікае не браць прыклад з біблейскіх «святых», учынкі якіх не могуць служыць узорам для паводзін любых «грэшных».

Едкая сатыра пародыі трапна б'е па супярэчаннях біблії і развенчвае арэол «благачасцівых» герояў.

Крытыка евангельскіх ідэй уласціва не толькі парадыйным творам. «Евангеллем навыварат»[3] назваў З. Бядуля беларускую народную казку «Асілак»[4]. У гэтай казцы ёсць элементы сюжэта, падобныя да евангельскіх, але гэта падабенства толькі знешняе. Не хрысціянскія ідэі пакорлівасці, цярплівасці і непраціўлення злу прапагандуюцца ў казцы, а заклік да барацьбы за вызваленне ад эксплуататараў.

Вобраз галоўнага героя казкі Асілка супрацьлеглы евангельскаму вобразу Ісуса Хрыста. Праўда, нарадзіўся ён, паводле казкі, як і Ісус Хрыстос, у выніку цудоўнага

---

[1] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, т. I, вып. III, стар. 436.

[2] Там жа, стар. 436.

[3] З. Бядуля. Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных песнях і казках. Мінск, 1924, стар. 133—140.

[4] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 87—90.

зачацця, ад клубка агню. Магчыма, тут адлюстраван водгалас старажытнага веравання ў апладняючую здольнасць агню, якому ў старадаўнія часы пакланяліся, як бажаству. Цяжка знайсці падабенства казачнага героя з Хрыстом і ў далейшым апісанні жыцця Асілка. Асілак, падобна вобразам чарадзейных казак, вельмі хутка расце і становіцца такім дужым, што калі свішча ў лесе, дык лісце сыпецца. Мэта жыцця Асілка — дабівацца не панавання над людзьмі, а вызваляць іх ад прыгнёту паноў. Дзе Асілак ні ходзіць, усюды ён кажа, «што ўсе людзі самі сабе паны, што ўсё бог даў на патрэбу ўсім людзям». Асілак заклікае працоўных жыць «у згодзе і ласцы», «бо згодная грамада, бы адзін вялікі чалавек, вялікі багатыр, дужэйшы ўсіх багатыроў».

Як відаць, заклікі Асілка па свайму ідэйнаму зместу вельмі далёкія ад евангельскіх павучэнняў Ісуса Хрыста, які прапаведаваў ідэі, карысныя панам, а не беднякам: «Хто мае, таму дадзена будзе, а хто не мае, у таго адымецца і тое, што мае»; «Любіце ворагаў вашых, благатварыце ненавідзячых вас»; «Благаслаўляйце праклінаючых вас і маліцеся за тых, што крыўдзяць вас», «Ударыўшаму цябе па шчацэ падстаў і другую; і адымаючаму ў цябе верхнюю вопратку не перашкаджай узяць і кашулю» (Евангелле).

Казка вызначаецца вострым сацыяльным зместам. У ёй ярка адлюстроўваецца светапогляд сялян, раскрываюцца класавыя супярэчнасці дакастрычніцкага часу. Асілак — палымяны барацьбіт і абаронца інтарэсаў працоўнага народа. Паноў ён лічыць сваімі ворагамі, змагаецца з імі сам і заклікае да змагання працоўных: «Браткі, калі б паноў чорт узяў, то б свет бяды не маў, а без гарапашнікаў-мужыкоў не было б ні хлеба, ні асьмакоў. А каб гэта ліха зламаць, трэ ўсім як адзін чалавек стаць; не грызціся паміж сабою, ды ад ворагаў бараніцца гурбою».

Паны прыкладаюць усе намаганні, каб знішчыць Асілка. Але не ўдаецца ім расправіцца са змагаром за народную волю: калі яго бяруць у палон, ён ператвараецца ў клубок агню. Ад агню нарадзіўся — агнём і стаў. Але ператварэнне ў агонь не смерць: Асілак, гаворыцца ў казцы, «і да тых час па свету гуляе ды людзей навучае».

У казцы адлюстраваны аптымістычныя мары, надзеі і спадзяванні працоўнага народа, яго непахісная вера ў перамогу над эксплуататарамі: «Але пэўне хутка тое будзе, што кожны сам сабе панам будзе. Усе людзі будуць роўна га-

раваць, будуць роўна панаваць». Ідэі казкі аб'ектыўна супрацьлеглы ідэям хрысціянскай веры.

Значэнне твора, яго цікавасць узмацняюцца тым, што багатаму ідэйнаму зместу адпавядае высокамастацкая форма. Мова ў другой палавіне казкі, дзе расказваецца аб сутычцы Асілка з панамі, амаль усюды рыфмаваная. Прыём гіпербалы, ужыты пры стварэнні вобраза Асілка, дапамагае больш наглядна і ярка ўявіць сілу выступіўшых у той час на арэну рэвалюцыйнай барацьбы змагароў за вызваленне народа ад эксплуатацыі чалавека чалавекам. У вобразе Асілка гэта сіла знаходзіць надзвычай добрае мастацкае ўвасабленне.

Уплыў вуснапаэтычнай народнай творчасці няцяжка заўважыць у пародыях на біблію, складзеных паасобнымі паэтамі і пісьменнікамі ў XVII—XIX стагоддзях. У сувязі з тым, што такія творы не дапускаліся да друку, а складальнікі праследаваліся, аўтарства іх часцей за ўсё заставалася невядомым. Гэтыя пародыі распаўсюджваліся сярод народа ў рукапісах і вусна. Характэрным прыкладам з'яўляецца ананімнае вершаванае апавяданне-пародыя на новы запавет «Уваскрэсенне Хрыстова і сашэствіе яго ў ад». Як мяркуюць некаторыя даследчыкі, пародыя ўзнікла ў XVIII ці ў пачатку XIX стагоддзя ў бурсацкіх колах [1]. Аўтар, відаць, быў добра знаёмы з беларускімі народнымі творамі, у якіх праз прызму народнага светапогляду адлюстраваны вобразы біблейскіх «святых». Як і ў народных творах, у гэтым вершаваным апавяданні біблейскія героі паказаны ў парадыйна-сатырычным плане. Апісанне паводзін божых угоднікаў у раі пазбаўляе іх арэолу святасці. Жыццё святых, якіх Хрыстос перавёў з пекла ў рай, вельмі падобна да звычайнага зямнога жыцця чалавека. Божыя абраннікі займаюцца далёка не святымі справамі, яны і п'янствуюць, і іграюць, і танцуюць, і спяваюць. Пародыя атрымала шырокае распаўсюджанне ў народзе, доўгі час перадавалася вусна. Не заўсёды разумеючы некаторую атэістычную накіраванасць, яе пелі ў велікодныя дні валачобнікі. Аб гэтым сведчаць заключныя радкі песні валачобнікаў у канцы тэксту пародыі, якія захоўваецца ў архіве Усесаюзнага геаграфічнага таварыства [2].

---

[1] С. Майхровіч. Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Мінск, 1959, стар. 23.

[2] Архіў Усесаюзнага геаграфічнага таварыства, разр. V, № 7, л. 36.

Не без уплыву вуснай народнай творчасці ў савецкі час (1926) К. Крапівой была напісана «Біблія» — выдатны антырэлігійны твор, у якім пісьменнік выкрывае ілжывасць, супярэчнасці і глупствы «свяшчэннага пісання». У прадмове К. Крапіва адзначыў, што ён зрабіў «вольны пераклад» бібліі, але ў час перакладу «Кнігі быцця» з майсеевай мовы на беларускую здарылася маленькая прыкрасць — згубілася тая вопратка святасці, у якую прыбралі яе «духоўныя бацькі» розных вер, і засталіся голыя біблейскія «факты» [1].

Выкарыстаўшы трапныя словы К. Крапівы, мы не памылімся, калі зробім заключэнне, што ў народных і літаратурных пародыях на біблію вельмі ўдала скідаецца струхнелая і збуцвелая вопратка святасці з біблейскіх міфаў, паказваецца ўся нікчэмнасць «свяшчэннага пісання», якое хавае сваю недарэчнасць пад маскаю гэтай вопраткі.

У вусны Ісуса Хрыста ўкладзены ў евангеллі наступны заклік да людзей: «Не клапаціцеся для душы вашай, што вам есці і што піць, ні для цела вашага, ва што адзецца. Душа ці не больша за ежу, і цела — адзення? Паглядзіце на птушак нябесных: яны не сеюць, не жнуць, не збіраюць у жытніцы; і айцец ваш нябесны корміць іх» (Евангелле ад Матфея.). Яўны абсурд евангельскага павучэння быў заўважан працоўнымі, у выніку чаго паявіліся народныя творы, у якіх красамоўна высмейваецца заклік царкоўнікаў ускладаць надзеі на бога. «На бога надзейся, калі хлеб у торбе»; «Сам не дагледзіш, і бог не паможа»; «Айцец наш, ты хлеба нам не даш» (АІМЭФ),— так выказаў народ свае думкі ў мудрых прыказках. Падобная думка выказана таксама ў анекдоце, запісаным Я. Коласам. Селянін, у адказ на заклік папа рабіць так, як вучыць евангелле — ні аб чым не клапаціцца, а жыць, як птушкі,— гаворыць:

— Эх, бацюшка! Калі яны (птушкі) нічога не робяць, то гэтакае іх і жыццё: ходзяць зімою па дарозе ды памёт дзяўбуць альбо падлу ядуць» [2].

Падобная крытыка паасобных палажэнняў бібліі і евангелля з'яўляецца яркім сведчаннем таго, што ў беларускага народа, як і ў іншых братніх славянскіх народаў, заўсёды перамагаў «разумны сэнс» (выраз В. Р. Бялінскага), які адхіляў недарэчныя патрабаванні «свяшчэннага пісання».

---

[1] К. Крапіва. Біблія. Кніга быцця. (Вольны пераклад). Мінск, 1926, стар. 3.

[2] «Беларусь», 1959, № 1.

Своеасаблівая крытыка «свяшчэннага пісання» заключана ў народнай тэатральнай творчасці. Сцэнічныя творы заўсёды прыцягвалі найбольшую ўвагу шырокіх народных мас. Таму царкоўнікі праследавалі прафесіянальных артыстаў і адначасова спрабавалі выкарыстаць тэатр у сваіх мэтах. Каб павысіць цікавасць да царквы і хрысціянскага вучэння, духавенства, асабліва каталіцкае, не толькі тэатралізавала царкоўныя набажэнствы, але і стварала на біблейскія сюжэты драматычныя творы.

Аднак сярод народа, нярэдка ў процілегласць імкненням царкоўнікаў папулярызаваць рэлігійнае вучэнне, узнікалі творы, у якіх высмейваліся біблейскія героі, царкоўныя малебны, малітвы і духавенства. Нярэдка сцэны на біблейскія сюжэты, створаныя царквой, у народзе прафанаваліся.

У Беларусі вялікай папулярнасцю карыстаўся тэатр лялек — батлейка. У XVII стагоддзі ў батлейцы паказваліся сцэны на біблейскія сюжэты, галоўным чынам з новага запавету. З XVIII стагоддзя паступова ўсё большае месца пачынаюць займаць сцэны, у якіх адлюстроўваюцца розныя бакі жыцця беларускага народа. Царква, якая амаль на працягу ўсёй сваёй гісторыі змагалася супраць развіцця народнага мастацтва, з XIX стагоддзя выступала таксама і супраць батлеечных пастановак на біблейскія сюжэты ў сувязі з тым, што рэлігійная частка прадстаўлення стала насіць фармальны характар і вельмі часта скажалася.

Адзенне лялек божай маці, анёлаў і іншых дзеючых асоб не адпавядала ўяўленням, якія складваліся з евангелля. Лялька божай маці была «ўпрыгожана ўбраннем і з дыядэмай на галаве», анёл быў «так расфранчаны, што калі б не меў ён крылаў, ніхто не пазнаў бы ў ім анёла»,— пісаў Р. Кулжынскі ў сваім артыкуле пра батлейку [1]. У гэтым, а больш усяго ў скажэнні біблейскіх сюжэтаў, парадзіраванні малітваў, змяшэнні свяшчэннага з жартоўным прыхільнікі хрысціянства бачылі пагрозу страты павагі да «свяшчэннага пісання» і да служак культу.

Сцэны з антырэлігійным зместам паступова ўсё часцей уводзіліся ў батлеечныя прадстаўленні і часам выцяснялі рэлігійныя.

У выніку было дадзена распараджэнне забараніць батлеечныя прадстаўленні на біблейскія тэмы. Вялікая папу-

---

[1] «Душеполезное чтение», снежань 1873 года, стар. 442—450.

лярнасць батлейкі ў народзе, боязь таго, што яна можа адыграць вялікую ролю ў распаўсюджанні атэістычных ідэй, сур'ёзна турбавала абаронцаў рэлігіі. «Гэтыя батлейкі, — самая папулярная і любімая святочная забава ў паўночна-заходнім краі не толькі сярод дзяцей, але нават і сярод дарослых, асабліва паміж простанароддзем» [1],— пісаў Р. Кулжынскі. Ён жа адзначаў і наяўнасць у батлеечных прадстаўленнях змяшэння свяшчэннага з жартоўным, падкрэсліваў прафанацыю рэлігійнага свята нараджэння Хрыста. З вялікім страхам ён заўважыў, што з дапамогаю батлейкі рэлігійнае невуцтва «разбухае беззабаронна, бесцэнзурна, усенародна» [2].

Да нас дайшло вельмі мала тэкстаў батлеечных прадстаўленняў і яшчэ менш тых, у якіх высмейваюцца бог, святыя, «свяшчэннае пісанне». Але аб сіле антырэлігійнага ўздзеяння такіх батлеечных прадстаўленняў на масы можна меркаваць не толькі па адзінкавых запісах тэкстаў, але і па матэрыялах аб праследаваннях пастановак і пастаноўшчыкаў царквой і па водгуках прыхільнікаў і працаўнікаў народнага тэатральнага мастацтва.

Каб аслабіць уздзеянне на масы антырэлігійных ідэй фальклору, царкоўнікі складалі і распаўсюджвалі ў народзе творы, у якіх прапагандавалася шкодная рэлігійная ідэалогія. Характэрнай у гэтых адносінах з'яўляецца казка «Бог, мужык і пан» [3], у якой гучыць рэакцыйны заклік да цярплівасці ў перанясенні здзекаў з боку эксплуататараў.

Антынародная ідэя казкі: цярпі панскія здзекі, «прымі гора» на зямлі — і пападзеш у рай,—адпавядала настроям толькі адсталай часткі сялянства. Перадавое сялянства выказвала нязгоду з рэлігійнай ідэалогіяй. Яно спрабавала абвяргаць рэлігійнае вучэнне аб грахоўнасці выступленняў супраць эксплуататараў, аб цярплівасці, пакорлівасці ўсякай уладзе і г. д. Пераканаўчы прыклад гэтага — шырока вядомая не толькі беларускаму, але рускаму, украінскаму, літоўскаму і іншым народам легенда «Вялікі грэшнік» [4]. Самым цяжкім грахом народ лічыць здзекі эксплуататараў над працоўнымі. З гэтым грахом нельга параўнаць ні адзін самы вялікі грэх, безліч якіх зрабіў герой легенды. А між тым вялікі грэшнік «такі быў злодзей, якога і свет не ба-

---

[1] «Душеполезное чтение», снежань 1873 года, стар. 442—450.
[2] Там жа, стар. 448.
[3] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. IV, стар. 30.
[4] П. В. Шейн. Материалы..., т. II, стар. 371—373.

чыў: ён і краў, і чыніў разбоі, губіў людзей без пакаяння...» За такія злачынствы, на думку працоўных, чалавек не можа заставацца без пакарання.

Своеасаблівую цяжкую кару перанёс і вялікі грэшнік: калі прыйшоў час яму паміраць, смерць яго не брала. І што ён ні рабіў: і хадзіў на каленях, і марыў сябе голадам, і лажыўся пад розгі за другіх, і ўслужваў хворым — нічога не дапамагала. Спрабаваў тапіцца, вешацца, рэзацца — смерць не бярэ. Аднойчы ён убачыў, як войт здзекаваўся з сялян, заставіўшы іх працаваць на полі нават у вялікдзень. Не вытрымаў вялікі грэшнік, забіў прыгнятальніка. І толькі тады ён скончыў пакуту. Так раскрываецца ідэя легенды: забойства прыгнятальніка — свяшчэнная справа, за якую даруюцца самыя цяжкія грахі. У легендзе не адмаўляецца поўнасцю рэлігійнае паняцце аб «граху», не адмаўляецца і неабходнасць імкнення да пазбаўлення ад «грахоў», але само вырашэнне гэтых пытанняў супярэчыць царкоўнаму вучэнню. Вялікае сацыяльнае значэнне легенды заключаецца ў тым, што ў ёй гучыць заклік да барацьбы за вызваленне ад здзекаў і прыгнёту эксплуатататараў.

Вострае сацыяльнае гучанне гэтага твора, вядомага многім народам, прыцягнула ўвагу вялікага рускага паэта Некрасава, які таленавіта выкарыстаў яго матывы ў паэме «Каму на Русі жыць добра» (легенда «Аб двух вялікіх грэшніках»).

Думка, што злачынствы прыгнятальнікаў больш цяжкія, чым любых грэшнікаў, нават разбойнікаў, знаходзіць адлюстраванне і ў радзе іншых народных твораў. У казцы, запісанай М. Федароўскім, гэта думка раскрываецца так. Пан з разбойнікам прыйшлі ў Рым замольваць грахі. У касцёле пан праваліўся і загінуў, а разбойнік застаўся: грахі пана большыя, чым разбойніка [1].

Важна адзначыць, што бытаваўшыя ў народзе легенды з пераважаючым у іх рэлігійным зместам паступова набывалі ўсё большую сацыяльную і антырэлігійную накіраванасць. Разам з тым павышалася іх роля ў пашырэнні атэістычных настрояў працоўных.

Разгледжаныя фальклорныя творы, прысвечаныя крытыцы «свяшчэннага пісання», мелі асаблівае значэнне ў развіцці антырэлігійных ідэй таму, што падрывалі асновы хрысціянскай рэлігіі.

---

[1] M. Federowski. Lud białoruski, т. I, стар. 6.

## Стаўленне народа да рэлігійных абрадаў

Атэістычныя настроі народных мас ярка выказаны ў фальклорных творах, якія адлюстроўваюць адносіны працоўных да рэлігійных абрадаў.

Рэлігійным абрадам адводзіцца вялікае месца ў хрысціянскай рэлігіі. Рэлігійны культ — хрышчэнне, прычашчэнне, пост, споведзь, пакланенне абразам, малітва, набажэнства і г. д.— непасрэдна звязан з верай у бога.

Духавенства ўкараняла веру ў неабходнасць выканання рэлігійных абрадаў, палохаючы паству гневам божым і страшным судом. Імкненні царкоўнікаў праследавалі рэакцыйную мэту: адцягнуць увагу працоўных ад класавай барацьбы, пераканаць іх, што малітвамі, пакланеннем абразам, непахіснай верай ва ўсемагутнасць бога можна палепшыць сваё жыццё. Калі ж чалавек і не верыў у магчымасць дасягнуць такім чынам лепшага жыцця тут, на зямлі, то царква суцяшала яго спадзяваннямі на вечнае шчасце ў раі. Цемрашалы пераконвалі, што толькі добрасумленным выкананнем рэлігійных абрадаў, пакорнасцю, цярплівасцю чалавек можа выратаваць сябе, сваю душу.

«Царкоўнасць дзейнічала на людзей падобна туману і чаду. Святы, хрэсныя ходы, «цудатворныя» абразы, хрысціны, вяселлі, пахаванні і ўсё, чым уплывала царква на ўяўленне людзей, чым яна п'яніла розум,— усё гэта адыгрывала больш значную ролю ў працэсе «ўгашэння розуму», у справе барацьбы з крытычнаю думкаю, чым прынята думаць» [1],— пісаў Горкі. Аднак царкоўнікам так і не ўдалося дабіцца ад беларускага народа пашаны да рэлігійнага культу. Нямала архіўных дакументаў сведчыць аб «кашчунных» адносінах часткі працоўных да абразоў, крыжа, расяпцця Ісуса Хрыста і інш. На сялян А. Калечыца, К. Карачуна і П. Чуеўскага ў 1904 годзе была заведзена судовая справа па абвінавачванню іх у тым, што яны здзекаваліся над крыжам з распяццем Ісуса Хрыста, «білі распяцце па твары, а потым адламалі руку» [2]. Падобныя факты даюць падставу рабіць вывады аб наяўнасці ў некаторых сялян не проста абыякавых адносін да рэлігіі, але і атэістычных поглядаў.

Аб адмоўных адносінах да рэлігійных абрадаў значнай

---

[1] М. Горький. Собр. соч., т. 25. М., 1953, стар. 353.
[2] Дзяржаўны архіў Мінскай вобл., ф. 136, спр. 35769.

часткі працоўных сведчаць і іншыя архіўныя дакументы. Так, свяшчэннік Хоінскай царквы Л. Тэадаровіч у жніўні 1890 года пісаў, што сяляне не паважаюць царкоўнага богаслужэння і выходзяць з царквы яшчэ да канца набажэнства. «Я звярнуўся да выходзячага народа з угаворваннем не выходзіць да канца ютрані, у заканчэнне якой я меў намер пагутарыць аб Спаса-Успенскім посце і неабходнасці спавядацца і прычашчацца св. таін у гэты пост... Але слова маё да выходзячых не затрымала іх» [1].

Адным з распаўсюджаных рэлігійных абрадаў, якому царква надае вялікае значэнне, з'яўляецца пакланенне абразам. Руская праваслаўная царква выкарыстала культ пакланення абразам у мэтах прапаганды самадзяржаўя. Апрача таго, што бог маляваўся ў царскім адзенні, у цэрквах было нямала абразоў, на якіх былі намаляваны цары, князі і купцы. І гэтым абразам з партрэтамі прыгнятальнікаў працоўных духавенства прымушала народ пакланяцца як святым!

Царкоўнікі павучалі людзей, што абразы маюць цудатворную сілу, з дапамогай якой можна змяніць прыродныя з'явы. Каб выклікаць дождж, у засушлівае лета праводзіліся хрэсныя ходы з абразамі і іншымі культавымі рэчамі. Духавенства нярэдка распаўсюджвала байкі і аб іншых «цудадзеяннях» абразоў: аб іх здольнасці вылечваць хворых, выратоўваць ад пажараў і г. д.

Нягледзячы на ўсе намаганні царкоўнікаў усяліць у свядомасць народа веру ў святасць і цудадзейнасць абразоў, у асяроддзі працоўных мас узнікалі і карысталіся вялікай папулярнасцю творы, у якіх святасць і цудатворнасць абразоў браліся пад сумненне і нярэдка зусім абвяргаліся.

Вера ў цудатворную моц абразоў трапна высмейваецца ў казцы, запісанай Ч. Пяткевічам у Рэчыцкім павеце [2]. Селянін быў на кірмашы і збіраўся ехаць дадому. «Чорт панёс к рускаму, што прывёз прадаваць абразы. Як той к яму прыстаў — «купі, ды купі, увідзіш, якое благаславенне гасподзь табе пашле з гэтымі іконамі». Ды яшчэ багата чаго [наабяцаў], што і не разбярэш, і такі прымусіў купіць мацер боскую да яшчэ якогась святога ўгодніка».

---

[1] Дзяржаўны архіў Мінскай вобл., ф. 136, спр. 35769.

[2] Cz. Pietkiewicz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego, стар. 173

Па дарозе дамоў селянін губляе торбу і пакідае абразы пільнаваць кабылу, а сам ідзе шукаць. Выяўляецца, што святыя — дрэнныя вартаўнікі: кабылу задушыў воўк.

І селянін з усёй моцы лупцуе святых, а на пытанне кума, спалоханага паводзінамі мужыка, адказвае:

— Які ён святы..., а калі пастаўлены, то няхай жа, падла, пільнуе, а ён, бач: губы развесіў, вочы вылупіў дый глядзіць, як баран, што воўк кабылу душыць.

І пабіў вобраз на шчэпачкі.

І змест казкі, і стыль выкладання насычаны злой іроніяй; ніякай павагі да святых няма ў паводзінах селяніна: ён лупіць угодніка, лае яго і, нарэшце, разбівае ўшчэнт. Асабліва яскрава адносіны мужыка да святых выяўляюцца ў яго мове. Ён гаворыць: «ч о р т п а н ё с» купляць ікону, рускі «п р ы м у с і ў купіць мацер божую ды яшчэ я к о г а с ь угодніка святога», называе яго «падлам» і ўжывае грубыя параўнанні і метафары: «глядзіць, як баран», «губы развесіў», «вочы вылупіў».

Па-майстэрску раскрываецца адмоўнае стаўленне простага народа да абразоў у апавяданні «Мастак і абразы» [1]. Асаблівае значэнне для разумення ідэйнага сэнсу апавядання мае наступны дыялог. Мастак падае жанчыне ікону і гаворыць, што гэта Мікалай-цудатворац.

— Мікола ж,— кажа маладзіца,— стары, з белаю барадою, а гэта нейкі безбароды блазнюк.

— Пабрылся, так і без барады, ды впрочэм, чорт з нім, сейчас яму падмажам бораду, а ты не гавары так бязбожна пра святога ўгодніка, а то сматры, грэшна табе будзе.

Папляваўшы святому ў морду, выцер нейкаю караўкаю ды, намазаўшы нечым белым бараду, паставіў вобраз на сонцы, каб сох.

— Цяпер,— кажа,— кагда высахнет, будзет настаяшчы святой цудатворны ўгоднік; тады палучай і ташчы дамоў.

Дасціпны народны гумар, які пранізвае ўсё апавяданне, развенчвае святасць саміх божых угоднікаў і іх адбіткаў-абразоў. Апавяданне прасякнута насмешкай над верай у цудоўную моц абразоў. З найбольшай вастрынёй гэта адлюстроўваецца ў канцы апавядання:

«Насіў ён [мастак] так, насіў [абразы], ды як ужо вельмі апастылела, то крыкнуў з усёй сілы:

---

[1] Cz. P i e t k i e w i c z. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego, стар. 172.

— Ды ну вас к чорту з вашымі святымі!

І паказваючы нагою на ворах абразоў, гаркнуў на свайго хлопца:

— Убяры гэту сволач!

Глыбокае перакананне ў марнасці пакланення «святым» абразам адчуваецца ў прыказцы, узнікшай параўнальна нядаўна, «Святыя свяцікелі, што з вамі рабіць будзеш, ні хлеба спячы, ні дыры залатаць,— прыйдзецца так павыкідаць» (АІМЭФ). Гэта прыказка, узнікшая значна пазней, чым прыказка «Годится — молиться, а не годится — горшки покрывать», якую прыводзіў В. Р. Бялінскі ў пацвярджэнне сваёй думкі, што рускаму народу не характэрны рэлігійны фанатызм, адлюстравала пэўны крок у павышэнні свядомасці працоўных.

* * *

Значная частка працоўных адмоўна ставілася да рэлігійных пастоў, выканання якіх патрабуюць праваслаўнае і каталіцкае веравучэнне. У адпаведнасці са спецыяльнымі ўказамі, выдадзенымі Пятром I і Екацярынай I, духавенства вяло ўлік людзей, якія выконвалі пасты і спавядаліся. За невыкананне гэтага абраду людзей каралі штрафамі. Пад пасты праваслаўная царква вылучала 257 дзён у год! У гэтыя дні веруючыя павінны былі «умерщвлять» сваю грахоўную плоць, у чым галоўную ролю адыгрывае частковае ці поўнае (у некаторыя дні) устрыманне ад яды. У пост ад веруючых патрабавалі таксама ўстрымання ад пацех, забаў, гульняў і г. д. Увядзеннем пастоў царква імкнулася асвяціць і з дапамогаю рэлігіі ўзаконіць і ідэалагічна апраўдаць паўгалоднае існаванне працоўных, прымірыць іх з рабскім становішчам. Працоўныя пратэставалі супраць падобных імкненняў царквы, і гучанне гэтага пратэсту чутна ў вусных народных творах. У гэтых творах, накіраваных супраць рэлігійных абрадаў і свят, шырока выкарыстоўваецца іронія. Так, у анекдоце, запісаным П. В. Шэйнам, на пытанне памешчыка, калі вялікдзень, мужык дае такі адказ: «Вясной, калі хлеба няма, тады дужа вялік дзень» [1]. Удала ўжываецца гэты прыём і ў прыказцы «Тады будзе пост, як не стане хлеба» (Федар.).

Шырокае распаўсюджанне ў народзе мелі анекдоты, у

---

[1] П. В. Шейн. Белорусские песни. «Записки Императорского русского географического общества», т. V. СПб, 1873, стар. 715.

якіх расказваецца аб тым, як селянін спрытна ашукаў папа ці ксяндза, каб і ў пост есці скаромнае. У адным варыянце расказваецца, як селянін дабіўся ў ксяндза дазволу есці тое, што на запусках пераначуе ў зубах. Пасля гэтага ўзяў у зубы цэлы кумпяк мяса і пераначаваў з ім. Потым на працягу ўсяго паста селянін еў па кавалачку мяса («Як мужык людска ксяндза ашукаў» [1]).

У другім варыянце [2] селянін выкарыстоўвае дазвол есці мяса падарожнаму чалавеку: «Пайшоў ён у лес, з'еў каўбасу, а пасля дзень працаваў і граху не меў!»

Падобныя анекдоты былі папулярнымі не толькі ў беларускім, але і ў рускім, украінскім і іншых фальклорах, што сведчыць аб наяўнасці адмоўных адносін працоўных розных нацый да спроб царкоўнікаў апраўдаць, узаконіць і ўвекавечыць сістэматычнае недаяданне прыгнечанага народа.

Імкненне працоўных не прытрымлівацца пастоў адлюстравана ў прыказцы «Пост не мост — аб'ехаць можна» (АІМЭФ). Аб марнасці выканання пастоў працоўныя пераконваліся на сваім горкім вопыце: «Спасціўся ў нітку, а ўсё няма прыбытку» (АІМЭФ).

Веру ў неабходнасць выконваць пасты падрывалі самі рэлігійныя прапаведнікі, якія часта пастоў не прытрымліваліся. «Каму пост, а папу мясаед» (Белар.), — так абагулілі свае назіранні сяляне.

Няверʼе папоў у грахоўнасць невыканання пастоў красамоўна паказана ў анекдоце «Карась» [3], добра вядомым у розных варыянтах рускаму і ўкраінскаму народам. У пост спраўлялі памінкі па памёршай жанчыне. Нідзе не знайшлі рыбы, таму закалолі парася, прыгатавалі яго і паставілі на стол. Запрасілі на вячэру папа. Думалі, што поп разгневаецца. Пачалі яны прасіць у яго прабачэння, што скаромная страва. «А поп рад сам у пост свежанінкі з'есці. Ён рукой махнуў, падышоў да парася ды кажа: «Ператвары, гасподзь, парася ў карася». А потым звярнуўся да іх і кажа: «Ешце на здароўе. Карась добры». І сам прыняўся есці».

У многіх творах раскрываецца шкоднасць пастоў для здароўя чалавека. Веруючыя людзі, якія пасцілі на працягу некалькіх тыдняў, жылі на адным хлебе і квасе, часта за-

---

[1] M. Federowski. Lud białoruski, т. III, ч. II, стар. 154.

[2] Там жа.

[3] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 42.

хворвалі, калі ўслед за пастом наядаліся ўволю скаромнага. Герой вершавана-празаічнага твора «Мужык пасля каляд» [1] (па сутнасці гэты твор з'яўляецца часткай народнай інтэрмедыі «Мацей») на сабе зведаў вынікі доўгага паста і далейшага разгавення.

Пад непасрэдным уплывам падобных народных твораў К. Крапіва ў 1924 годзе напісаў выдатны верш «Цёткам навука».

Вялікай папулярнасцю карысталіся ў дакастрычніцкі час народныя творы, у якіх высмейваюцца царкоўныя набажэнствы, пропаведзі свяшчэннікаў і малітвы. Едкая сатыра гэтых твораў адначасова з выкрыццём карыслівасці і іншых заган духавенства раскрывае ілжывую сутнасць рэлігіі, развейвае веру ў магічную сілу богаслужэнняў і «святых» малітваў.

Найбольш распаўсюджанай формай сатырычнага абсмяяння набажэнстваў была пародыя. Сатырычнае парадзіраванне пропаведзей царкоўнікаў і малітваў узнікла ў выніку пранікнення атэістычных настрояў у шырокія слаі беларускага народа, у выніку пераходу ад сумнення ў карысці рэлігійных абрадаў да прамога нявер'я ў іх значнай часткі працоўных. У гэты час узніклі такія прыказкі: «Богу маліся, а сам працуй, бо згаладуеш» (Белар.); «Ад малітвы і паніхід толькі поп адзін сыт» (АІМЭФ).

Вялікае значэнне ў пашырэнні атэізму мелі творы, у якіх высмейваліся царкоўныя малітвы, што ў дарэвалюцыйнай Расіі выкарыстоўваліся для ўмацавання манархічнай улады. У цэрквах чыталіся спецыяльна складзеныя малітвы за здароўе цара і членаў яго сям'і.

Праваслаўным духавенствам было складзена нямала малітваў, накіраваных супраць рэвалюцыйнага руху. 26 такіх малітваў склалі царкоўнікі толькі ў 1905 годзе [2]. Кожны год у цэрквах пракліналіся рэвалюцыянеры, якіх аддавалі анафеме.

Намаганні духавенства пераканаць народныя масы, што толькі дзякуючы сувязі з богам праз малітву чалавек можа дабіцца поспехаў у сваім жыцці, што малітвы маюць магічную сілу, натыкаліся на процідзеянне з боку перадавых працоўных, якія стварылі мудрыя народныя прыказкі, за-

---

[1] M. Federowski. Lud białoruski, т. III, ч. II, стар. 163.

[2] Гл.: Л. И. Емелях. Происхождение религиозных обрядов, Л., 1959, стар. 25.

снаваныя на вялікім вопыце: «Маліся, хоць ты лоб раскквась,— усё роўна» (Сержп.); «Малітваю сыты не будзеш»; «Ненадзейна, як з малітваю праз дрыгву» (АІМЭФ).

Ч. Пяткевіч адзначаў малітвы, у якіх перапляталіся лаянка з праклёнамі: «Хрыста маяго владыку міра..., а ціха там, чарцяняты!—і непатрэбнага раба тваего..., а няма на вас трасцы ліхое, байструкі праклятыя! — нізлажы врага лукавага... ужэ хаць ты, ведзьма, маўчы, покуль я намалюся! — лукавага ваўка душагубіцельнага і г. д.» [1]

Падобнае асмяянне малітваў знайшло адлюстраванне не толькі ў беларускім фальклоры, а і ў літаратуры [2].

З назіранняў за адносінамі да малітваў сялян Рэчыцкага павета Пяткевіч зрабіў вывад, што нежаданне маліцца расце, асабліва з боку моладзі. «...Даўней не гаварылі таго, што ў канцы мінулага стагоддзя давялося чуць сярод моладзі:

— На чорта маліцца ды язык мазоліць аб зубы? А калі ўжо так вельмі трэба тае малітвы, то заплаціў папу, няхай брэша» [3],— паведамляе ён.

Заўвагі Пяткевіча вельмі добра характарызуюць стаўленне беларускага народа да культу малітвы, якому царква адводзіла вялікую ролю ў сваёй цемрашальскай дзейнасці. Каб прымусіць сялян вучыць малітвы, царкоўнікі выкарыстоўвалі, напрыклад, такія «дзейсныя» спосабы: яны адмаўляліся вянчаць маладых людзей, якія не ўмелі маліцца. Бывалі выпадкі, калі свяшчэннік да пачатку вянчальнага абраду прымушаў маладых вывучыць «Ойча наш», а пасля ажыццяўляў «святое таінства».

Падобныя факты, а іх было нямала, яскрава сведчаць аб тым, што вера ў неабходнасць маліцца богу ў беларускім народзе была падарвана ўжо ў дарэвалюцыйны час.

Пародыі на малітвы карысталіся вялікай папулярнасцю.

З велізарнай колькасці народных пародый на малітвы неабходна ў першую чаргу вылучыць шматлікія пародыі на малітву «Ойча наш». Царкоўнікі ў адпаведнасці з евангеллем сцвярджаюць, што гэту малітву перадаў сам бог Ісус Хрыстос. І тым большае антырэлігійнае значэнне мае

[1] Cz. Pietkiewicz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego, стар. 175.

[2] Гл., напрыклад: Я. Колас. Збор твораў у 7 тамах, т. 5. Мінск, 1952, стар. 152—153.

[3] Cz. Pietkiewicz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego, стар. 175.

сатырычнае парадзіраванне іменна яе. Вось, напрыклад, якую пародыю на «Ойча наш» дае ў другім выпуску «Белорусского сборника» Е. Р. Раманаў:

Ойча наш, бацька наш,
Курэй краў, пад печ хаваў.
Дзеткі ўзналі, бацьку звязалі.
Бацьку ў мех, дзеткі ў смех.
Мех прадраўся, бацька злякаўся [1].

Антырэлігійнае гучанне пародыі не аслабляецца прымітыўнасцю і жартоўным характарам тэкста, наадварот, замена тэкста малітвы такімі няхітрымі вершамі яшчэ больш падрывае яе «святасць».

Парадзіраванне малітвы «Ойча наш» знаходзім мы і ў казках. У казцы «Салдацкі «Ойча наш»[2], запісанай М. Я. Грынблатам у 1946 годзе, абсмяянне малітвы спалучаецца з паказам цяжкага жыцця салдат на службе ў царскай арміі.

«Кагда салдат у строй уступае, ён цяжка ўздыхае і гаворыць: Ойча наш».

Румяна зара на небе іграе, рота камандзіра ажыдае, стучыць, гручыць, з дасады рвецца, страшны гром раздаецца — яко на небесі.

У чым жа мы табе правініліся, на службу не явілісь ілі ў кабаке шаталісь — даш нам (д)несь.

Што нам ад казны палагаецца, вы далжны нам аддаць, а еслі будзеце красці і ў свой карман класці, будзеце далжніком нашым,—не ўвядзі нас ва іскушэнне, але ізбаўлялісь, як і мы ізбаўляемся ад цябе, ад лукавага».

Апошнія словы вельмі добра характарызуюць багаборніцкія погляды працоўных — складальнікаў гэтай казкі.

У народных творах салдату часта адводзіцца роля выразніка антырэлігійных ідэй. У адной з казак ён гуляе ў царкве ў карты і спрытна «выкручваецца», калі яго выклікае за гэта камандзір. Апошняму ён дакладвае, што вучыў аднаго грамадзяніна закону божаму: туз абазначае адзінага бога, двойка — бога-айца і сына, тройка — святую тройцу і г. д.[3]

---

[1] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, т. I, вып. I—II, стар. 28.

[2] АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 7, сш. 4, стар. 36—42.

[3] Архіў АН СССР (Ленінград), ф. 104, воп. 1, № 713; Русское народно-поэтическое творчество против религии и церкви. М.—Л., 1961, стар. 23—24.

Форма пародыі, і іменна пародыі на малітву, шырока ўжывалася ў батлеечных прадстаўленнях. Напрыклад, у народнай інтэрмедыі «Максімка, шукальнік грыбоў, і яго бацька»[1] з яўнай насмешкай парадзіруецца царкоўная малітва «Ды ўваскрэсне бог...»

«М у ж ы к *(крычыць Максімку, які заблудзіўся ў лесе)*. Дык чытай за мной малітву «Ды ўваскрэсне бог...»

М а к с і м к а. Да растрэсніць лоб твой, цяцька!»

Парадзіраванне малітваў непасрэдна звязана з адмаўленнем магчымасці цудаў, таму што мэта ўсякай малітвы, з якою чалавек звяртаецца да бога,— упрасіць яго парушыць законы прыроды, зрабіць цуда. «Аб чым бы ні маліўся чалавек — ён моліцца аб цудзе. Усякая малітва зводзіцца да наступнага: «Вялікі божа, зрабі так, каб двойчы два не было чатыры!» Але ці можа бог зрабіць так, каб двойчы два не было чатыры?

Усякі веруючы павінен адказаць: «*Можа*»— і павінен пераканаць самога сябе ў гэтым».

Але розум яго паўстае супраць такое бязглуздзіцы» [2],— пісаў выдатны рускі пісьменнік І. С. Тургенеў.

Вера ў цуды характэрна для хрысціянства, як і для ўсякай іншай рэлігіі. Легенды аб цудах пакладзены ў аснову «свяшчэннага пісання» — біблії. Як сцвярджаюць царкоўнікі, цуды — гэта незвычайныя з'явы ў рэчаіснасці, выкліканыя богам. У біблії расказваецца, што бог з «нічога» стварыў неба і зямлю, раслінны і жывёльны свет. Усемагутны бог, на думку веруючых, можа і цяпер у любы час парушыць законы прыроды і зрабіць новыя цуды.

Але ніякія малітвы ніколі не выклікалі цудаў, і духавенства, каб падтрымаць няўхільна падаючы аўтарытэт рэлігіі і царквы, распаўсюджвала міфы пра цуды, штучна стварала «крывавыя слёзы» ікон, «нятленныя мошчы», прошчы і г. д.

Народныя творы з вялікім майстэрствам выкрываюць сутнасць «цудаў», паказваюць іх сапраўдных стваральнікаў.

У казцы «Набожны ксёндз» бязлітасна высмейваецца шарлатанства ксяндза, які сказаў людзям, што ў нядзелю

---

[1] Н. Н. В и н о г р а д о в. Белорусский вертеп. «Известия отделения русского языка и словесности императорской академии наук», т. XIII, кн. 2. СПб, 1908, стар. 71—78.

[2] И. С. Т у р г е н е в. Собр. соч. в 12 томах, т. 8. М., 1956, стар. 506.

прыляціць у касцёл святы дух. Сам жа ён добра ведаў, што гэта ніколі не здарыцца, і таму вырашыў згаварыцца з сваім парабкам і ўпусціць у касцёл белага голуба. Але голуба з'еў кот. І калі ксёндз спадзяваўся, што пасля яго слоў: «Духу свенты, зэйдзь да мене!» парабак упусціць голуба, ён нечакана пачуў: «Не маш, дабрадзею, кот з'ядл!» [1]

Так дасціпна высмейвае народ спробу ксяндза «стварыць» цуд і выкрывае ашуканства, на якім заснавана рэлігія. Аб вялікай папулярнасці казкі, а значыць, і аб адпаведнасці яе ідэй настроям вялікай часткі працоўных сведчыць той факт, што яна вядома ў многіх варыянтах, запісаных у розных раёнах Беларусі [2].

У казцы «Святы Ян» [3] (запісаў Я. Колас, ён жа на яе сюжэт напісаў выдатнае вершаванае апавяданне) «цуд» робіцца слугамі касцёла, якія выдаюць за святога выпадкова сустрэтага чалавека.

Падобныя казкі былі запісаны ў 1931 годзе ў Мінскім раёне і ў 1959 годзе ў Лунінецкім раёне Брэсцкай вобласці [4], што гаворыць аб іх вялікай папулярнасці і жывучасці.

Казкі «Камень «цудоўны», «Прошча» і іншыя не толькі выкрываюць сапраўднае паходжанне прошчаў і «цудоўных каменяў», але і паказваюць тых, хто зацікаўлен у іх стварэнні. У казцы «Камень «цудоўны» расказваецца, што прошчу пабудавалі там, куды пайшла чарада авец, таму што «якаясь шалапаватая» жанчына бачыла гэта ў сне. Як жа дапамагала прошча? Прыйшла здалёку старая бабка, якая гаварыла, што хоча памерці, а бог аб ёй забыў. Але як «ад прошчы насілу прыцягнулася да гасподы, дык ужо і не ўстала, а на другі дзень і богу душу аддала». Каму ж на самай справе прыносіла карысць прошча? Казка дае на гэта такі адказ: «І каб вы бачылі, колькі там збіраецца пану ды ксяндзу грошай ды другога дабра, і на воз не забярэш» [5].

Народныя творы, выкрываючыя «цуды», мелі асабліва

---

[1] П. В. Шейн. Материалы..., т. II, стар. 322—323.

[2] M. Federowski. Lud białoruski, т. III, ч. II, стар. 173—174, №№ 324 і 325; Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 58—59 і інш.

[3] «Беларусь», 1959, № 1.

[4] АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 158. (З уласных запісаў).

[5] А. Сержпутоўскі. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мінск, 1930, стар. 216—217.

вялікае значэнне ў развіцці атэізму, падрывалі самую рэлігію. Нездарма адзін з тагачасных багасловаў Бетэкс пісаў: «Адмаўляць цуд — значыць адмаўляць біблію, якая засноўваецца на цудзе і ўся поўна цудаў» [1]. Ён жа лічыць: «Хто не верыць у цуд, той павінен выйсці з царквы і не павінен называць сябе хрысціянінам» [2].

Мастацкае абвяржэнне магчымасці цудаў у фальклоры прыцягвала ўвагу працоўных дзякуючы цікаваму і пераканаўчаму зместу і высокаму майстэрству формы вуснапаэтычных твораў, што ўзмацняла сілу іх уздзеяння на свядомасць народных мас.

Адмоўныя адносіны беларускага народа да рэлігійных абрадаў знайшлі адлюстраванне ў школьнай драме, узнікшай у Беларусі ў канцы XVI— пачатку XVII стагоддзя. У школьнай драме побач-са сцэнамі на біблейскія сюжэты паказваліся інтэрмедыі, у якіх адлюстроўваліся сацыяльна-палітычныя бакі жыцця беларускага народа: нацыянальна-вызваленчая і рэвалюцыйная барацьба, якая ў XVI—XVII стагоддзях мела рэлігійную афарбоўку (барацьба супраць насільнага акаталічвання праваслаўных беларускіх людзей).

У інтэрмедыях добра прыкметны непасрэдны ўплыў вуснапаэтычнай творчасці. У адной з інтэрмедый праваслаўнага школьнага тэатра едка высмейваецца каталіцкае набажэнства. Жонка, каб на нейкі час пазбавіцца ад прысутнасці мужа, настойліва раіць яму схадзіць памаліцца. І ён, добра выпіўшы з кумам, ідзе ў касцёл. У касцёле ён робіць выгляд, што ўсё яму незразумела: «Ажно там і сталі бразгаць, па-нашаму то к абедні, а па іх к замшы; вось я і паідзісь у іх хасціолу, ажно там як заіграюць: хто ў дудачкі, хто ў свісцёлачкі, а хто ў тарарычкі. Вот я, праўды, не быўшы ліх, ды і падзісь скакаць, а тут пад тую пару і прыйдзісь па-нашаму поп, а па іх хазан...» [3]

Сяляне наўмысна прыкідваюцца дурнаватымі, каб высмеяць царкоўную споведзь.

Сюжэт гэтай інтэрмедыі, як адзначаў Я. Карскі [4], запа-

---

[1] Цыт. па кн.: О. Клор. Естествознание, религия и церковь. М., 1960, стар. 90.

[2] Там жа.

[3] Е. Карский. Белорусы, т. III, ч. 2. Пгр, 1921, стар. 235—236.

[3] Там жа, стар. 235.

зычан з шырокавядомых народных анекдотаў. Некаторыя з іх бытуюць у народзе і зараз. У 1948 годзе быў запісаны наступны анекдот, па зместу вельмі падобны да вышэй прыведзенай сцэны:

«У час богаслужэння зайшоў салдат у касцёл. Сталі іграць на арганах. Салдат пайшоў у пляску. Падходзіць стары паляк і гаворыць: «Цо ж ты, глупый, робіш, то ж імша [абедня] ідзе».— «Чорт з ёю,— гаворыць салдат. — Мне інша не трэба, мне і эта хараша». І прадаўжае далей» [1].

У інтэрмедыях красамоўна расказваецца таксама аб абыякавых адносінах беларускага селяніна да царквы і рэлігійных абрадаў.

Уплыў фальклорных атэістычных ідэй быў настолькі вялікім, што нават у інтэрмедыях езуіцкага школьнага тэатра, відавочна, незалежна ад жадання іх аўтараў, адлюстраваны крытычныя думкі беларускіх сялян аб праваслаўным і каталіцкім веравучэнні [2].

Антырэлігійныя фальклорныя ідэі, накіраваныя супраць прытрымлівання рэлігійнага культу, аказалі плённы ўплыў на «гутаркі» — адзін з самых распаўсюджаных жанраў у літаратуры XIX стагоддзя. У ананімнай «Гутарцы пана з селянінам» [3] адлюстраваны адносіны беларускіх сялян да рэлігійных абрадаў і царквы. «Гутарка» пабудавана на суцэльным дыялогу. Пан пытаецца ў селяніна, а той адказвае:

— А чы ўмееш ты пацеры?

— Чорт, — бо за іх стаяў, каб умеў.

— Чы бываеш ты, мужык, у касцёле?

— Быў раз, як хрысціўся — кумы ўняслі, другі раз, як жаніўся — сваты ўвялі, а трэці раз сабакі як апанавалі, так я ледва ў касцёл умкнуў.

У гэтым творы праўдзіва адлюстравана абыякавасць сялян да рэлігіі, нежаданне народа выконваць абрады; «гутарка» — красамоўнае адлюстраванне таго, што многія беларускія сяляне глядзелі на наведванне царквы як на прымусовую з'яву.

---

[1] АІМЭФ АН БССР, ф. 8, спр. 20, сш. 3, стар. 67.

[2] Гл., напрыклад, інтэрмедыю «Уніят і схізматык», якую прыводзіць У. І. Няфёд у сваёй кнізе «Беларускі тэатр». Мінск, 1959, стар. 43.

[3] Беларуская літаратура XIX стагоддзя. Мінск, 1950, стар. 50.

Творы з падобным зместам ёсць і ў фальклоры братніх народаў. Народны анекдот з такім жа прыблізна зместам запісан украінскімі фальклярыстамі [1].

Рэлігійныя абрады маюць галоўнай мэтай пераканаць людзей у іх грахоўнасці перад богам і ў неабходнасці з дапамогаю выканання абрадаў пазбаўляцца ад грахоў. Хрысціянскія абрады ў царскай Расіі мелі класавы сэнс: яны ўсялялі ў свядомасць народа рэлігійную ідэалогію, у аснове якой быў заклік да цярплівасці і пакорлівасці; працоўныя масы адцягваліся ад удзелу ў рэвалюцыйнай барацьбе. Таму пануючыя класы не толькі не шкадавалі сродкаў для будаўніцтва цэркваў, але і прымушалі працоўных наведваць іх. Духавенства мела і непасрэдную зацікаўленасць: ад выканання абрадаў у яго кішэню пападалі велізарныя грашовыя сродкі. Зразумела, што народна-паэтычныя творы, накіраваныя супраць рэлігійных абрадаў, мелі вялікае антырэлігійнае і сацыяльнае значэнне.

## Раскрыццё шкоднасці знахарства і чараўніцтва

Сярод рэлігійных вераванняў найбольш жывучымі былі вераванні ў звышнатуральную сілу чараўнікоў і чараўніц, ведзьмароў і вядзьмарак, знахароў і шаптух. Гэтыя вераванні, на думку многіх вучоных, з'яўляюцца аднымі з самых старажытных.

У адрозненне ад афіцыяльнай хрысціянскай рэлігіі, якую падтрымліваў увесь самадзяржаўны апарат царскай Расіі, вера ў знахарства і чараўніцтва трымалася насуперак жаданням духавенства і царызму. Наадварот, царква, як праваслаўная, так і каталіцкая, і пануючыя класы на працягу многіх стагоддзяў змагаліся з вядзьмарствам, знахарствам і чараўніцтвам.

Барацьба царквы і яе прыхільнікаў супраць знахарства не мела і не магла мець поспеху галоўным чынам таму, што знахарства мае многа агульнага з хрысціянскай і іншымі рэлігіямі, а па сваёй сутнасці асноўваецца на той жа веры ў звышнатуральнае, асноўнай рысе ўсякай рэлігіі. Духавенства выкарыстоўвае для ўмацавання веры ашуканскае «цудоўнае» вылечванне з дапамогай святой вады, мошчаў, прошчаў і г. д., а ўсё гэта мае тую ж глебу, што і знахарства.

[1] Народ про релігію. Київ, 1958, стар. 75.

Жывучасць веры ў чараўніцтва і знахарства тлумачыцца таксама сацыяльнай прыгнечанасцю працоўных мас пры эксплуататарскім ладзе, уяўнай бездапаможнасцю іх перад стыхійнымі сіламі прыроды. Гэта яшчэ адно сведчанне таго, што вера ў чараўніцтва і знахарства мае тыя ж сацыяльныя карэнні, што і афіцыйная рэлігія.

Стойкасць гэтых рэлігійных вераванняў у параўнанні з другімі С. А. Токараў тлумачыць тым, што казённая царква не магла даць прыгнечанаму народу ўсяго таго, чаго ён патрабаваў ад рэлігіі, а суцяшала замагільнай узнагародай, спадзяванні на якую не задавальнялі працоўных [1]. Напрыклад, у засушлівае лета сяляне, ахопленыя страхам перад магчымай галоднай смерцю, звярталіся да папоў з просьбай маліцца, каб бог даў дождж. А калі малітвы і «хрэсныя ходы» не дапамагалі, сяляне ў роспачы звярталіся да чараўнікоў, каб яны выклікалі дождж і выратавалі ад гібелі іх ураджай. Жабрацкае становішча большай часткі сялян не давала ім магчымасці ў выпадку хваробы звяртацца за дапамогай да ўрачоў і фельдшараў, якіх тады было вельмі мала, і яны часцей за ўсё ішлі да знахароў, шаптух, чараўнікоў. Тое ж самае назіралася і пры захворваннях жывёлы. Вера ж у звышнатуральныя здольнасці знахароў і чараўнікоў падтрымліваліся рэдкімі выпадкамі сапраўднага вылечвання людзей ці жывёлы, што здаралася тады, калі ўжываліся рацыянальныя сродкі народнай медыцыны. Звярталіся да знахароў і ў тых выпадках, калі нельга было вырашыць справу пры існуючым ладзе: адпомсціць кулаку, які поўнасцю не разлічыўся з парабкам, вылечыць ад п'янства мужа і г. д. Усе гэтыя прычыны стойкасці вераванняў у народзе мелі сваю галоўную аснову: сацыяльную прыгнечанасць працоўных мас.

У дарэвалюцыйны час фалькларысты і этнографы сабралі сярод беларускага народа нямала матэрыялаў аб чараўніцтве і знахарстве. Асабліва вялікую ўвагу на вывучэнне гэтага пытання звярнуў Е. Р. Раманаў, які сабраў найвялікшую колькасць знахарскіх замоў і ўважліва наглядаў, як адносяцца да іх самі знахары і сяляне. Ён адзначаў: «Самі знахары ў большасці, безумоўна, перакананы ў сіле сваіх замоў — «слоў», «малітоў», менавіта замоў, а не медыкаментаў, якія ўжываюцца імі, і мне нямала перадана

[1] С. А. Токарев. Религиозные верования восточнославянских народов XIX — начала XX века. М.—Л., 1957, стар. 152—155.

апавяданняў аб цудоўных вылячэннях, якія зрабілі знахары з дапамогаю замоў. Аднак ад бедных бабылак чуў я і такое прызнанне: «Ах панок, панок! Гамоніш, што на рот лезе, граха на душу хапаеш, а ўсё з гора. Па міру нам пайсці, дык не дадуць,— скажуць: работаць не хвора! А дзе яе возьмеш у нас работы тыя, у бабыльстве? Ну, а як пагамоніш, дык і даюць, і дзякуюць, і плоцяць» [1].

І сапраўды, гэта прызнанне знаходзіць пацвярджэнне ў зборніку Е. Р. Раманава, дзе мы знаходзім такія замовы, сэнс якіх не мае нічога агульнага з іх прызначэннем. Напрыклад, пры пажары ўжывалася наступная замова:

«Памолімся госпаду богу, прэсвятой багародзіцы. Цар Давыд, цар Ізавіт, цар англійскі, гаспадар вогненны, гаспадар палуменны, гаспадар лесавы, гаспадар вадзяны, гаспадар пчалавы, гаспадар ветраны,— пайшлі, госпадзі, ангелаў у помач, закрый, госпадзі, рызаю найпрасвятлейшага» [2].

Калі тут з вялікай цяжкасцю яшчэ можна ўстанавіць прызначэнне замовы, то замова: «кота, рота, дота, башалык, адык, псык, цык» [3], якая вымаўлялася пры лячэнні ад укуса гадзюкі,— гэта толькі набор бессэнсоўных слоў.

Ужо па тэкстах замоў можна было б заўважыць недарэчнасць веры ў іх магічную сілу, але сяляне іх не ведалі, таму што вымаўляліся яны знарок шэптам, каб ніхто не пачуў.

Вера ў чараўніцтва і знахарства прыносіла вялікую шкоду. Ускладанне надзей на чараўнікоў і знахароў перашкаджала актыўнай барацьбе за падпарадкаванне прыроды, перашкаджала змаганню за жыццё захварэўшага чалавека сродкамі медыцыны, адцягвала ўвагу працоўных ад класавай барацьбы. Ад гэтых вераванняў вялікую карысць атрымлівалі толькі спрытныя пройдзісветы, якія нядрэнна грэлі рукі на народнай забабоннасці.

А. Шлюбскі з назіранняў за жыццём чараўнікоў і знахароў зрабіў наступныя вывады:

«Жывуць звычайна чараўнікі, калдуны і знахары багата, маюць моцную будоўлю, добры інвентар, добрых коней.

---

[1] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. V. Витебск, 1891, стар. VII.

[2] Там жа, стар. 51.

[3] А. Киркор. Этнографический взгляд на Виленскую губернию. «Этнографический сборник», вып. III. 1858, стар. 167.

Усё гэта большаю часткаю з'яўляецца вынікам заработку ад іх прафесіі» [1].

Усё гэта сведчыць аб тым, наколькі неабходнай і важнай была барацьба са знахарствам, чараўніцтвам і рознымі іншымі забабонамі, у тым ліку барацьба, якую вялі перадавыя працоўныя беларусы сваім мастацкім паэтычным словам.

Беларускія народныя творы гнеўна выкрываюць махлярскую сутнасць знахарства і яго «тэхніку», паказваюць іх велізарную шкоднасць. У творах, накіраваных супраць чараўнікоў і знахароў, высмейваюцца замовы чараўнікоў, тэхніка «прыраблення» і «адраблення», выкрываюцца спосабы варажбы.

З групы твораў, якія развейваюць уяўленне аб магічнай сіле знахарскіх замоў, лепшымі з'яўляюцца казкі «Аб пану, што дзеда знахарам зрабіў» [2] і «Шаптуха» [3]. Знахарству навучаюць у гэтых казках паны. Жаданне навучыць селяніна ці сялянку знахарству ўзнікае ў пана не ад высакародных пачуццяў дапамагчы чалавеку, якога ён вучыць, а ад жадання пакпіць з яго. Вера ў магічную сілу знахарскіх замоў разбураецца самімі тэкстамі, якія прыводзяцца ў казках. Адзін пан так павучае старэнькую бабульку: «От як пазавуць цябе к хвораму, то ты пахукай трэйко на яго дый шапчы: «Сіголаў жыў, сіголаў не». Пашапчы о гэ трохі, дай яму выпіць вады, то ён і паправіцца. А калі памрэ, то сіголаў яго бяры. От за тое цябе будуць карміць і паважаць» («Шаптуха»).

Характэрна, што ў гэтых казках паны, захварэўшы, самі звяртаюцца да навучаных знахароў. Жаданне паноў пакпіць з бедных сялян абарачваецца супраць іх саміх.

Выкрыццю звышнатуральнай, магічнай сілы знахарскіх замоў прысвечаны некаторыя батлеечныя пародыі. У адной са сцэн батлеечнага прадстаўлення баба-варажбітка парадзіруе замову над спячым на сцэне казакам:

Сем зим зимовало и миновало,
Справили мне, надели
Шибцы, хлибцы,

---

[1] А. Шлюбскі. Матэрыялы для вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Мінск, 1927, стар. 24—25.

[2] M. Federowski. Lud białoruski, т. II, ч. I. Kraków, 1902, стар. 139.

[3] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 176—178.

Шиповали, коновали,
Цудники, шляпники,
Откоснись, отколупнись,
От хребтовой кости...
Усгань, мой казаче,
Гарный человече![1]

Трапна падмечаны бессэнсоўны набор незвязаных паміж сабою слоў, што характэрна для замоў, падвяргаецца ў пародыі знішчальнай крытыцы.

Важнае месца ў беларускім фальклоры займаюць творы, у якіх выкрываецца знахарская «тэхніка» «падраблення» і «адраблення».

Казка «Заламка» накіравана супраць веры ў «заломы», або «завіткі». «Заломы», або «завіткі»,— гэта кучкі каласоў, якія звязваліся ў вузел, пераважна ў жыце. Часам гэтыя кучкі каласоў заламваліся, ад чаго, відавочна, і паходзіць назва. Забабонныя людзі лічылі, што залом можа выклікаць цяжкія хваробы ў гаспадароў нівы ці ў іншых жней. Е. Р. Раманаў адзначаў, што ў Рагачоўскім павеце лічылі залом шкодным толькі для таго, на каго ён навапожаны, для іншых жа членаў сям'і ён бясшкодны [2].

Каб абясшкодзіць залом, запрашалі або папа, які вырываў пераломленую кучку каласоў толькі пасля малітвы і не голаю рукою, а праз епітрахіль, або знахара, які гаварыў «тры разы па дзевяць за адным духам» замову, пры гэтай цырымоніі «знахар раздзяваецца дагала і запальвае свячу — грамніцу, якая асвячалася ў царкве 2 лютага» [3]. Толькі пасля такой складанай цырымоніі залом спальваўся на перакрыжаванні дарог.

Як паведамляў Е. Раманаў, былі і другія спосабы абясшкоджвання заломаў: у Сенненскім павеце залом вырываўся «дзедам», які або раздзяваўся дагала, або выварочваў сарочку; у Магілеўскім павеце залом вырывалі зубамі [4].

На людзей, якія слепа верылі ў забабоны, чараўнікі і знахары наганялі жах прытворнай здольнасцю да «прырабленняў». У казцы «Заламка» [5] яскрава выкрываецца «незвычайная» сіла аднаго ведзьмара.

[1] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, ч. 3. Пгр, 1922, стар. 126.
[2] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. V, стар. 11—12.
[3] Там жа.
[4] Там жа, вып. I, стар. 11—12.
[5] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 48—49.

Супраць страшнага ведзьмара выступае селянін, які вызваліўся ад забабонаў. Ён «многа па свету хадзіў», многа бачыў. «От гэты чалавек не баяўся ведзьмара і ўсё казаў, што ён толькі чмуціць»,— гаворыцца ў казцы.

Каб сарваць маску з ашуканца-ведзьмара і паказаць яго сапраўдны твар, чалавек сам зрабіў у сваім жыце заламку і праз некаторы час запрасіў ведзьмара знішчыць яе. Ужо шагоў за дваццаць да заламкі вядзьмар сказаў, што не можа ісці далей: такая яна моцная. «Скінуў гэта ён нагавіцы і сарочку ды так, як маці радзіла, й папоўз к заламцы ракам. Паўзе й усё стогне, што вельмі моцна ўздзеяна. Маўчаў гэта, маўчаў той чалавек, а як падышлі другія людзі, уссеў на ведзьмара верхам, дастаў з-пад палы гарапнік ды давай паласаваць ведзьмара. «От жа я табе, хварэць,— кажа,—пакажу, як моцна ўздзеяна, бо гэту заламку я зрабіў сам». Раве немым голасам вядзьмар, а той яго лупіць. Біў-біў, покуль здаволіўся дый пытае:

— А што,— кажа,— не будзеш больш добрых людзей чмуціць?

— Не буду,— просіцца вядзьмар,— толькі пусці жывога».

Барацьба прадстаўнікоў дзвюх сіл — змагара за вызваленне народа ад рэлігійных забабонаў і цемрашала, які імкнецца ў сваіх карысных мэтах да захавання ў народзе рэлігійнага дурману,— у казцы вырашаецца перамогай першага.

Уся казка прасякнута нянавісцю і пагардай да ведзьмара. Непрыязныя адносіны да яго з боку працоўных выказаны спецыяльным падборам слоў: «Усхапіўся *гад*, забыў і сарочку й нагавіцы апрануць ды так і *сунуў* наўцекача». Сяляне на практыцы пераканаліся ў недарэчнасці веры ў вядзьмарства: «Падзівіліся людзі, думалі перш, што вядзьмар таго чалавека з свету зжыве, але бачаць, што той чалавек жыве сабе й не лыс».

Мастацкая выдумка гэтай казкі цесна звязана з рэчаіснасцю. Выпадкі, падобныя да сітуацыі казкі, здараліся і ў жыцці. Падобныя выпадкі прыводзіць у сваёй працы Ч. Пяткевіч [1].

Нячыстая, махлярская, а часам і злачынная сутнасць знахарскіх «чараванняў» выкрываецца ў казцы «Адраб-

---

[1] Cz. Pietkiewicz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego, стар. 221—222.

ленне»[1]. Вобраз знахара — агіднага злачынца, які за некалькі бутэлек гарэлкі ўдушвае апошніх сялянскіх кароў, намаляваны ў казцы па-мастацку пераканаўча.

Калдун-вядзьмак, або калдун-знахар, як ён называецца ў казцы, «завіткі вырываў, і ад усякіх хвароб вылечваў, і адрабляў, як каму што ліхое ўздзеяна, і ваўкоў насылаў, і малако ў кароў адбіраў. Усе яго баяліся й гадзілі яму, як ліхой скуле. Куды ні прыйдзе калдун-знахар, ці на вяселле, ці на радзіны,— усюды яго садзяць на покуць, частуюць, шапкуюць, як перад папом».

Раскрыццё антынароднай сутнасці знахарства намячаецца ў казцы ўжо ў паказе адносін чараўніка да людзей, якія яго частуюць. Яго частуюць, а «ён сядзіць, насунуўшы шапку, ды толькі вачыма бліскае, як воўк».

У казцы вельмі ўдала малюецца партрэт знахара, агіднае аблічча якога асабліва рэльефна паўстае ва ўяўленні слухачоў дзякуючы мноству эмацыянальна афарбаваных сімвалічных параўнанняў: з «ліхою скулою», з папом, з ваўком, з катом. Параўнанні адлюстроўваюць таксама адносіны да яго сялян. Ужо адно параўнанне знахара з папом, вобраз якога ў народнай творчасці ўвабраў у сябе ўсё самае заганнае і подлае, гаворыць аб тым, што народ яўна не сімпатызуе знахару. «Не такі чорт страшны, як яго малююць»,— гаворыцца ў народнай прыказцы. «Не такі страшны, як сам хоча здавацца, і калдун-вядзьмак», — апавядаецца ў казцы, дзе пераканаўча абвяргаецца ўяўленне аб яго звышнатуральнай сіле.

Звяртацца да знахароў часцей за ўсё штурхалі сялян няшчасці і беды. У селяніна Сцяпана, аднаго з герояў казкі, прапала апошняя карова. «Бядуе мужык — няма дзецям ні каплі малака, а каб купіць другую карову,— грошай багі іх мелі». Сустрэўся Сцяпан са знахаром, той паспачуваў яму і паабяцаў «адрабіць»: пакараць вінаватага ў гібелі Сцяпанавай каровы. Напіўся знахар Сцяпанавай гарэлкі, а ўночы пайшоў «глядзець на зоры», каб адгадаць, па чыёй віне прапала карова, і «адрабіць» яму. Назаўтра раніцай загаласілі суседзі: нечакана прапала самая лепшая і здаровая карова. Але гэта быў апошні раз, калі знахару яшчэ ўдалося «адрабіць». Пацярпеўшыя суседзі запрасілі яго, каб ён «адрабіў» і для іх. Апоўначы, калі ён пайшоў «гля-

[1] А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, стар. 61—62.

дзець на зоры», сакрэт «адраблення» раскрыўся. Гаспадары сваімі вачыма ўбачылі, як знахар душыў іх лепшага вала. Нарабілі яны крыку, збегліся людзі. «Насілу адратавалі вала, а Нічыпара, калдуна-знахара, так прыбілі, што думалі ён ужо больш не ўстане. Але жывуч гад, як кот,— паляжаў трохі без памяці, а потым і ачухаўся, дастаў з кішэні бутэлечку гарэлкі, ды як пацягнуў, дык і на ногі надняўся. Бачыць, што яго выцягнулі за плот... от ён ціхенька й папоўз у сувараты».

Ідэя казкі — выкрыццё сапраўднай сутнасці знахарства — раскрываецца ўжо зместам казкі. Але для таго каб больш ясна выявіць ідэйную накіраванасць казкі, каб абагульніць прыватнае, у канцы дабаўлены два сказы: «Дык от як Нічыпар, калдун-знахар, глядзеў на зоры ды прыробляў і адрабляў. А мо й усе яны гэтак адрабляюць, чарты іх ведаюць, не перад ноччу кажучы».

З фальклорных твораў, у якіх выкрываецца махлярская сутнасць знахарскага гадання, вельмі папулярнай была казка «Папаўся, жучку, у ручку» у разнастайных яе варыянтах» [1].

Усе гэтыя казкі — яркае сведчанне таго, што ў асяроддзі беларускіх сялян ужо ў дарэвалюцыйны час знаходзіліся сілы, якія выступалі супраць веры ў розныя забабоны. Распаўсюджанне сярод шырокіх народных мас вуснапаэтычных твораў, якія выкрывалі ашуканскую аснову розных знахарскіх «цудаў», адыгрывалі вялікую ролю ў справе вызвалення працоўных ад рэлігійнага дурману.

Вуснапаэтычныя творы, накіраваныя супраць чараўніцтва і знахарства, падрывалі асновы гэтай вельмі жывучай рэлігійнай веры, і таму значэнне іх было не меншым, чым іншых антырэлігійных твораў.

---

[1] П. В. Шейн. Материалы..., т. II, стар. 213—217 (№ 100); стар. 217—219 (№ 101); M. Federowski. Lud białoruski, т. III, ч. II, стар. 52—53 (№ 98), стар 53—54 (№ 99); В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. I, стар. 675 (№ 3).

*Раздзел III*

# ВЫКРЫЦЦЁ РЭАКЦЫЙНАЙ СУТНАСЦІ РЭЛІГІІ І КРЫТЫКА КОНТРРЭВАЛЮЦЫЙНАГА ДУХАВЕНСТВА Ў БЕЛАРУСКІМ САВЕЦКІМ ФАЛЬКЛОРЫ

## Бытаванне традыцыйных народных твораў у паслякастрычніцкі час

У выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі беларускі народ, як і ўсе працоўныя нашай многанацыяльнай краіны, пазбавіўся ад усякага прыгнёту — сацыяльнага, нацыянальнага і духоўнага. Савецкі ўрад аддзяліў царкву ад дзяржавы і школу ад царквы і забяспечыў поўную свабоду веравызнання. Рэвалюцыя вызваліла ад ланцугоў самадзяржаўя творчую фантазію і высакародныя імкненні шырокіх народных мас.

Дзякуючы паляпшэнню жыццёвых умоў працоўных, ліквідацыі непісьменнасці і павышэнню культуры нашага народа, дзякуючы вялікай выхаваўчай рабоце Камуністычнай партыі павысілася свядомасць савецкіх людзей. Духоўнае аблічча савецкага чалавека, яго ідэйны рост знайшлі адлюстраванне ў сучасным беларускім фальклоры і літаратуры. Атэістычныя народныя творы распаўсюджваюцца вусна і пісьмова. Многія з іх змешчаны ў зборніках, выдадзеных у савецкі час [1]. Нямала антырэлігійных народнапаэтычных твораў запісана ў час экспедыцый па збіранню фальклору, а таксама прыслана Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР у 1960 годзе ўдзельнікамі конкурсу на лепшы запіс мастацкіх народных твораў.

Аналіз антырэлігійных казак і анекдотаў, песень і ча-

---

[1] Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці. Мінск, 1938; Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі. Мінск, 1939; Жанчына ў беларускай народнай творчасці. Мінск, 1940; Антырэлігійныя казкі, частушкі, прыказкі. Мінск, 1961; Беларускія частушкі. Мінск, 1960 і інш.

стушак, прыказак і прымавак, запісаных савецкімі фалькларыстамі, дае магчымасць устанавіць, што адны з гэтых твораў прадстаўляюць сабой нязначна змененыя варыянты дарэвалюцыйных, другія складзены ў наш час. Разам з тым разгляд першых з іх дазваляе зрабіць вывад, што ў дакастрычніцкі час у народзе бытавала значна больш атэістычных твораў, чым запісана і надрукавана буржуазнымі фалькларыстамі і этнографамі, і што многія дарэвалюцыйныя казкі, анекдоты, песні, прыпеўкі, прыказкі, накіраваныя супраць царквы і рэлігіі, не толькі не забыты, а жывуць і садзейнічаюць вызваленню ад рэлігійных забабонаў тых людзей, якія ад іх яшчэ не пазбавіліся.

Якія ж антырэлігійныя традыцыйныя творы застаюцца яшчэ бытаваць у народзе і чым тлумачыцца іх жыццёвая ўстойлівасць?

Мы ўжо адзначалі, па якіх прычынах найбольш вострыя антырэлігійныя фальклорныя творы не траплялі ў друк у дакастрычніцкі час. У дзяржаўных архівах сустракаюцца запісы фальклорных тэкстаў, не ўключаныя ў зборнікі самімі складальнікамі, ці забароненыя цэнзурай. У архіве АН СССР (матэрыялы П. В. Шэйна) ёсць, напрыклад, наступны анекдот, які з-за наяўнасці ў ім «абразы святых» не ўвайшоў у зборнік беларускіх этнаграфічных і фальклорных матэрыялаў:

«Купіў адзін беларус свечку ў царкве, але з-за мноства молячыхся ніяк не мог праціснуцца да вобраза св. Мікалая, каб там паставіць свячу. Вось ён шле свячу праз другіх і просіць, каб паставілі «святому Міколе», а сам сочыць, куды перадаюць свячу. Заўважыў ён, што свячу яго ставяць перад вобразам якогасьці другога святога, толькі не Міколы, і на ўвесь голас крыкнуў:

— Якому ты лешаму ставіш, Мікалаю пастаў» [1].

Многія сатырычныя народныя творы не даходзілі нават да фалькларыста, якому, як чалавеку другога класа, працоўныя не маглі даверыць усіх сваіх думак. «Вельмі можа быць,— адзначаў У. І. Ленін, у гутарцы з Бонч-Бруевічам, — што самае важнае, затоенае, яму, як пану, і не сказалі» [2]. Уладзімір Ільіч ставіў перад фалькларыстамі вельмі важную задачу: «дакапацца да захаваных, тайных пе-

[1] Н. В. Новиков. П. В. Шейн как собиратель и издатель русских и белорусских народных песен. Дис. на соискание ученой степени кандидата филологических наук. Л., 1952, стар. 372.

[2] «Советская этнография», 1954, № 4.

сень, плачаў, казак, сатыр,— яны павінны быць, і ў іх мы знойдзем многа новага, і магчыма, асабліва каштоўнага» [1]. Задача, пастаўленая вялікім правадыром працоўных, савецкімі фальклarыстамі вырашана толькі часткова. Аднак і разгляд тых матэрыялаў, якія ёсць, дазваляе зрабіць вывад, што ў іх сатыра на духавенства яшчэ больш бязлітасная, а крытыка рэлігіі больш смелая, чым можна меркаваць па фальклорных творах у дарэвалюцыйных публікацыях.

З традыцыйнага антырэлігійнага фальклору асабліва вялікай папулярнасцю ў савецкага народа карыстаюцца тыя творы, ідэйны змест якіх аб'ектыўна накіраван на раскрыццё ілжывай сутнасці рэлігійнай маралі. Гэта творы, якія паказваюць, што рэлігія прасякнута хлуснёй, а яе запаведзі стаяць на абароне прыватнай уласнасці, што біблейскія запаведзі крывадушна выступаюць супраць насілля, а ў сапраўднасці абараняюць увесь эксплуататарскі лад, знішчыць які можна толькі шляхам рэвалюцыі.

Ідэолагі буржуазіі імкнуцца паказаць сябе людзьмі з высокай мараллю, а атэістаў — людзьмі амаральнымі. Вельмі пераканаўча абверг гэты паклёп М. С. Хрушчоў у дакладзе на XXI з'ездзе КПСС: «Калі ўжо капіталісты прытрымліваюцца рэлігійнай маралі, то чаму ж яны ператварылі грамадства, у якім пануюць, у рай для багатых і сапраўднае пекла для бедных? І гэта, нягледзячы на тое, што, паводле хрысціянскіх сказанняў, лягчэй вярблюду прайсці праз ігольнае вушка, чым багатаму ўвайсці ў рай» [2].

Ілжывую маску з заўзятых буржуазных прыхільнікаў хрысціянскай маралі дасціпна сарваў Хрушчоў і ў заключным слове на сесіі Вярхоўнага Савета СССР 7 мая 1960 года, калі гаварыў аб выказваннях замежных дыпламатычных дзеячаў і журналістаў з выпадку бандыцкага палёту амерыканскага самалёта над нашай савецкай зямлёй. Гэтыя дзеячы імкнуліся з дапамогай хлуслівых выдумак знайсці апраўданне агрэсіўнаму акту. М. С. Хрушчоў выкрыў сапраўдную сутнасць іх маралі:

«Яны ж, веруючыя людзі, абвінавачваюць нас у атэізме. Добрая ж мараль такіх людзей. Калі б такія людзі сапраўды верылі ў бога, то яны хоць бы баяліся пекла, у якое

---

[1] «Советская этнография», 1954, № 4.

[2] М. С. Хрушчоў. Аб кантрольных лічбах развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1959—1965 гады. Мінск, 1959, стар. 92—93.

яны немінуча трапяць, таму што згодна з хрысціянскім вучэннем за подлыя справы супраць міру і чалавецтва ім суджана вечна кіпець у смале ў пекле.

Не, не хрысціянскую мараль прапаведуюць гэтыя людзі. Яны спаведуюць мараль буржуазнага свету, для якой няма нічога святога»[1].

Довады абаронцаў рэлігійнай маралі, якія імкнуцца ўзвесці паклёп на мараль камуністычную і апраўдаць ілжывую і шкодную хрысціянскую мараль, абвяргаюцца таксама шматлікімі фактамі заганных учынкаў і паводзін саміх жа папоў і ксяндзоў.

Толькі рэлігійная мараль можа сумясціць прапаведаванне запаведзей: «не украдзь», «не пралюбадзействуй» і інш.— і супрацьлеглыя брудныя справы саміх прапаведнікаў. Архіепіскап Іоў, які ў час Вялікай Айчыннай вайны паклёпнічаў на Камуністычную партыю і Савецкую ўладу, выдумваў байкі аб зверствах бальшавікоў у Заходніх абласцях Украіны, прызвычаіўся, напрыклад, запускаць руку ў епархіяльную касу як у сваю асабістую кішэню[2]. У 1958—1959 гадах ён прысвоіў 840 тысяч рублёў. Яму мала было 55 тысяч рублёў, якія ён кожны месяц браў сабе як «зарплату»!

Усё часцей выкрываецца ў друку разбэшчанасць прапаведнікаў рэлігійнай маралі[3]. Падобныя факты, добра вядомыя народу, выклікаюць да жыцця традыцыйныя народныя творы, якія паказваюць сапраўдную сутнасць рэлігійнай маралі і зрываюць ілжывую маску з крывадушных прапаведнікаў яе. Так, казка «Тры святых»[4] бязлітасна б'е і па духавенству і па самой веры ў святых. Атэістычная ідэя казкі раскрываецца як праз непасрэдны паказ антырэлігійных настрояў станоўчых вобразаў казкі — мастака і яго жонкі, так і праз асмяянне распусных папоў, вобразы якіх малююцца ў сатырычным плане. Мастак, які голых папоў выдае за святых угоднікаў, смяецца і над духавенствам і над рэлігіяй.

Зняслаўленым у выніку выкрыцця яго распуснасці па-

---

[1] «Звязда» ад 8 мая 1960 года.

[2] «Наука и религия», 1960, № 7.

[3] «Зара» ад 19 жніўня 1960 года; «Магілёўская праўда» ад 7 верасня 1960 года; «Віцебскі рабочы» ад 29 студзеня 1961 года і інш.; А. І. Залескі. У чым шкоднасць каталіцызму. Мінск, 1960, стар. 54—60.

[4] АІМЭФ, ф. 13, воп. 11, спр. 59.

казваецца поп у анекдоце «Папоўскія дзеці рыжыя» [1]. Зміткоп, сябра папа, украў у яго цёлку і на споведзі прызнаўся ў гэтым. Бацюшка патрабаваў, каб Зміткоп сказаў аб сваім граху ў царкве пры людзях. «На заўтра сабраліся ў цэркаў людзі. Поп і гаворыць народу:

— Граждане-міране, што Зміткоп скажа, то ўсё будзе праўда.

Вот ён выходзіць, Зміткоп, значыцца, і кажа:

— Граждане-прыхажане, чые дзеці рыжыя, то ўсе паповы».

Для асмяяння «божых служак» і царкоўных богаслужэнняў з поспехам выкарыстоўваецца традыцыйны спосаб сатырычнага парадзіравання, як, напрыклад, у казцы «Амін кароўцы, амін» [2]. Дзяк ведаў, што поп украў у селяніна карову, і яму стала зайздросна, асабліва калі ўбачыў, што поп бярэ ад жанчыны грошы за малебен, які па яго парадзе заказала пацярпеўшая, думаючы, што тады карова знойдзецца. Дзяк запеў, выдаючы папа:

Маладзіца — маладая,
Твая кароўка палавая
У папа на прывязі стая-ла-а-а!

Вымушан быў поп падзяліць украдзенае. Ён запеў у адказ:

Дзякан ты, дзякан,
Не ўсё б ты вякаў —
Палавіну каравіны, фаску масла-а!

Аб папулярнасці гэтых казак сведчыць іх шырокая распаўсюджанасць: варыянты іх вядомы і ў нас, і на Украіне [3].

Рад казак і анекдотаў, запісаных у савецкі час, развівае тэму п о п і р а б о т н і к («Як поп парабкаў карміў», «Поп і работнік», «Добры поп»[4] і інш.).

Вобраз папа надзяляецца тыповымі для яго рысамі. Поп — бязлітасны эксплуататар і вымагальнік. Як расказваецца ў анекдоце «Як поп парабкаў карміў», багаты поп не шкадаваў хлеба для сваіх птушак і жывёлы, а работнікаў трымаў паўгалоднымі і запалохваў іх тым, што ад папа многа патрабаваць нельга, бо гэта вялікі грэх. З'едлівая іронія дапамагае выкрыць ханжаства папа, які выкарыстоў-

---

[1] АІМЭФ, ф. 13, воп. 11, спр. 59.

[2] Антырэлігійныя казкі, частушкі, прыказкі, стар. 99.

[3] Народ про релігію. Київ, 1958, стар. 124—128, 195.

[4] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 24, 26—29.

вае веру батракоў у бога ў сваіх карысных мэтах. Поп імкнецца ўпэўніць работнікаў, што пусты суп, які ім падалі за абедам, не павінен быць посны: «у ім матушка варыла дзесяць яец».

Такія ж матывы гучаць у «Казцы пра папа і парабка» [1], у анекдоце «Поп і батрак» [2] і іншых, запісаных у пасляваенны час у розных раёнах БССР. Поп паказваецца ў іх пражэрлівым крывасмокам, які бессаромна прысвойвае сабе плады працы «братоў у хрысце».

Падобныя творы з'яўляюцца не толькі водгаласам дарэвалюцыйнага мінулага, але і «гучным голасам сучаснага» (выраз Ю. Сакалова) нашай краіны: перыяда 20-х гадоў, да ліквідацыі кулацтва як класа, калі папы мелі магчымасць наймаць сабе батракоў, як і кулакі. Асновай устойлівасці гэтых матываў з'яўляецца і ідавочнасць паразітызму папоўскага жыцця ў сучаснасці.

Побач з казкамі і анекдотамі, у якіх амаль без змен перадаюцца дарэвалюцыйныя сюжэты («Чатыры папы» [3], «Новы поп» [4], «Смерць папоў» [5] і інш.), назіраецца з'ява кантамінацыі сюжэтаў. Напрыклад, казка «Як мужык папоў ашукаў» [6] з невялікімі зменамі паўтарае сюжэты вядомых дарэвалюцыйных казак «Як поп ашукаў Тараса аднойчы, а Тарас яго двойчы» і «Як мужык з салдатам папоў губілі» [7]. Некаторыя фалькларысты і літаратары з'яву кантамінацыі, побач са з'явамі выпадзення імён, матываў і персанажаў, уключаюць у апошнюю стадыю жыцця жанра — стадыю адмірання [8]. У адносінах некаторых відаў казак, напрыклад, чарадзейных, з гэтым можна згадзіцца. Матэрыялы экспедыцый па збору фальклорных твораў сведчаць аб паступовым змяншэнні колькасці гэтых казак у рэпертуары беларускага народа. Тое ж самае пацвярджаюць і вынікі конкурсаў на лепшы запіс фальклорных тэкстаў. Калі ў 1937 годзе на конкурс былі прысланы 844 традыцый-

---

[1] АІМЭФ, ф. 13, спр. 52, сш. 28, спр. 4—6.

[2] Там жа, ф. 8, в. 12, спр. 189 (уласныя запісы).

[3] Там жа, воп. 1, спр. 59, стар. 3—7.

[4] Там жа, стар. 8—9.

[5] Там жа, воп. 7, спр. 77, л. 6—8.

[6] АІМЭФ, ф. 8, воп. 12, спр. 189.

[7] В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. I, стар. 693—696; 690—691.

[8] А. Я. Позднеев. Исчезновение некоторых жанров в русском народно-поэтическом творчестве. «Специфика жанров русского фольклора». Горький, 1961, стар. 5.

ныя і 25 савецкіх казак [1] гэтага жанра, то ў 1960 годзе — усяго 24 традыцыйныя казкі і ніводнай савецкай.

Але ці можна лічыць кантамінацыю прыкметай адмірання ўсякага фальклорнага жанра? Не, нельга. Як паказаў С. Лазуцін, на аснове некаторых кантамініраваных лірычных песень, запісаных у першай палавіне XIX стагоддзя, узніклі частушкі [2]. І ў той жа час лірычныя песні, ад якіх утварыліся гэтыя частушкі, прадаўжаюць бытаваць. Таму аб кантамінацыі як прыкмеце адмірання можна гаварыць толькі ў адносінах да канкрэтнага жанра ці яго разнавіднасці, не адрываючы яе ад другіх прыкмет, характэрных для жанра, які знікае з бытавання.

Поўна, глыбока і рознабакова адлюстраваны антыклерыкальныя і антырэлігійныя настроі працоўных у дарэвалюцыйных прыказках і прымаўках, запісаных савецкімі фалькларыстамі. У іх адлюстраваны «патаемныя думкі», у якіх выказаны сапраўдныя адносіны беларускага народа да царквы і рэлігіі. Буржуазныя дарэвалюцыйныя фалькларысты, а тым больш цэнзура, не маглі прапусціць у друк такія прыказкі і прымаўкі: «Да таго богу сміраліся, пакуль кішкі парваліся»; «Калі ў хаце бяда, дык не паможа святая вада»; «З аднаго дрэва і крыж і лапата»; «У папа пуза таўсцее, а ў батрака спіна млее»; «Поп, цар і кат — адзін аднаму родны брат» (Белар.) і многія іншыя. Пераважная большасць падобных прыказак і прымавак змагла паявіцца ў друку толькі ў савецкі час.

У антыклерыкальных і антырэлігійных казках і анекдотах, прыказках і прымаўках, якія ўзніклі ў дакастрычніцкі час, неабходна адрозніваць дзве групы твораў. У адной з іх адлюстраваны адносіны чалавека дарэвалюцыйнага часу да царквы, духавенства і рэлігіі. Мінулае, якое гучыць у гэтых традыцыйных фальклорных творах, «азараецца свядомасцю сучаснасці» (выраз У. Чычарава). У творах гэтай групы выказаны ідэі, якія ў сувязі з вялікімі зменамі ў жыцці ўстарэлі, таму сустракаюцца такія творы рэдка.

Але ёсць і іншыя творы, ідэі якіх не згубілі сваёй надзённасці і цяпер, і таму яны імпануюць савецкім людзям, жывуць у іх памяці і актыўна бытуюць у народзе. «А ўсё, што ў той або іншай форме актыўна бытуе ў масах савец-

---

[1] М. Я. Гринблат. О фольклористической работе в Белоруссии. «Советский фольклор». М.—Л., 1941, стар. 257.

[2] С. Г. Лазутин. Русская частушка. Вопросы происхождения и формирования жанра. Воронеж, 1960, стар. 157—175.

кага народа,— адзначае В. Гусеў,— адпавядае яго ідэйна-эстэтычным запатрабаванням, тое ўжо не проста фальклорная спадчына, а элемент сучаснай народнай творчасці; сама ж прырода фальклору якраз і заключаецца ў тым, што на любым гістарычным этапе яго развіцця сучасным з'яўляецца не толькі тое, што створана ў даны час, але і тое, што будучы створаным на працягу стагоддзяў, актыўна засвойваецца новым пакаленнем»[1]. Іменна традыцыйныя фальклорныя творы, якія актыўна бытуюць сярод беларускага савецкага народа і адпавядаюць яго ідэйна-эстэтычным запатрабаванням, мы і адносім да другой групы.

З традыцыйных твораў, прысвечаных развянчанню рэлігійнага ўяўлення аб богу і святых, бытуюць тыя, у якіх сатыра на бога з'яўляецца найбольш вострай. Беларускі народ гаворыць: «І бог ашуканствам жыве: ад аднаго адбярэ, а другому дасць» (Федар.). Шырокае распаўсюджанне маюць казкі «Цімошка ў бога» і «Пра папа, дзяка і голуба», якія па сутнасці прадстаўляюць сабой варыянты «Несцеркі» і «Набожнага ксяндза», змешчаныя ў зборніках Раманава і Шэйна.

У гэтыя традыцыйныя творы ў наш час уносяцца змены ці дапаўненні, якія садзейнічаюць больш выразнаму адлюстраванню пэўных ідэй (уводзяцца такія сітуацыі, якія ўзмацняюць вострую антырэлігійную накіраванасць).

У многія казкі дабаўляюцца новыя канцоўкі. Так, казка «Пра папа, дзяка і голуба» заканчваецца словамі: «З таго часу людзі пакінулі верыць у папоўскія цуды». Падобная з'ява ўнясення змен і дабаўленняў у традыцыйныя творы вельмі распаўсюджана. Новы вывад-канцоўка паказвае, як ідэйны змест дарэвалюцыйных твораў праламляецца ў свядомасці савецкага чалавека. Традыцыйныя вобразы трансфарміруюцца, тэмы і матывы па-новаму пераасэнсоўваюцца савецкімі людзьмі.

Стрэлы традыцыйнай народнай сатыры ў наш час накіроўваюцца супраць рэштак таго, што ўжо аджыло свой век, але ўчэпіста трымаецца ў свядомасці некаторых людзей. Таму аб'ект гэтай сатыры яшчэ значны. А «рэзананс сатырычнага твора,— адзначаў К. Крапіва,— пры ўсіх аднолькавых умовах залежыць ад значнасці аб'екта, на які гэты твор накіраваны. Аб'ект сатыры падобны да звона:

[1] В. Е. Гусев. О современном народно-поэтическом творчестве. «Русская народная поэзия». Фольклористические записки. Горький, 1961, стар. 17.

калі па вялікім звоне ўдарыць нават маленькім малаточкам, дык гук будзе вялікі, а па маленькім звоне хоць бі молатам, гуку вялікага не будзе»[1]. Удары антырэлігійнай сатыры выклікаюць яшчэ моцны рэзананс, таму значэнне яе ў барацьбе супраць рэлігійнага дурману не ўтрачана.

Традыцыйныя мастацкія вобразы своеасабліва ажываюць у савецкіх фальклорных творах і адлюстроўваюць не толькі мінулае, але і сучаснае. Аднак не ўсё традыцыйнае выкарыстоўваецца для адлюстравання новага. У. Чычараў адзначаў, што «фальклор пры адлюстраванні савецкай рэчаіснасці захоўвае тыя традыцыйныя вобразы, якія ўсведамляюцца як вобразы, звязаныя з сучаснасцю. Праходзіць старанны крытычны адбор дасягненняў мастацкай спадчыны, пры якім адны каштоўнасці захоўваюцца як выдатныя творы мінулага, другія ж уключаюцца ў сучасную творчасць мас як яго важная састаўная частка»[2].

Некаторыя савецкія фалькларысты, калі гавораць аб традыцыях у народнай творчасці, разумеюць пад імі толькі паэтычныя формы. Традыцыйныя формы твораў часцей за ўсё і прыцягвалі ўвагу даследчыкаў. Вядомыя савецкія фалькларысты Ю. М. Сакалоў, М. К. Азадоўскі, М. П. Штокмар і іншыя лічылі гэтыя формы спецыфічнай рысай фальклору. М. П. Штокмар адзначаў, напрыклад, што прыналежнасць «да гэтай традыцыі вызначае спецыфіку фальклору, і яна... павінна служыць крытэрыем для размежавання літаратуры і фальклору»[3]. Аб'ектыўна атрымлівалася, што форма ў фальклоры з'яўляецца нязменнай.

Але многія вучоныя пры гэтым чамусьці не звярталі ўвагі на марксісцка-ленінскае вучэнне аб адзінстве формы і зместу ў мастацтве і пры разглядзе традыцый не звярталі дастатковай увагі на змест твораў. Усё гэта прывяло да такіх грубых памылак, як прызнанне фальклорнымі твораў з архаічнай формай і не адпавядаючым ёй новым зместам (напрыклад, стылізацыі пад быліны). У працэсе развіцця народнай творчасці змяняюцца і формы і змест твораў, узбагачаюцца старыя і складаюцца новыя традыцыі.

Разам з традыцыйнай паэтыкай у антырэлігійным савецкім фальклоры развіваюцца традыцыйныя тэмы, маты-

---

[1] К. Крапіва. Зб. тв. у трох тамах, т. II. Мінск, 1956, стар. 449.

[2] «Коммунист», 1955, № 14.

[3] М. П. Штокмар. Исследования в области русского народного стихосложения. М., 1952, стар. 40.

вы, ідэі, вобразы. Яркімі прыкладамі з'яўляюцца казкі «Ленінская праўда» [1] і «Як мужык-бядак і рабочы дабіліся сваёй праўды» [2], дзе мы знаходзім традыцыйныя вобразы шукальнікаў праўды. Але традыцыйны матыў тут набывае новае гучанне, адлюстроўвае светапогляд савецкага чалавека. Ці няма і тут разыходжання паміж формай і зместам? Не, няма. Форма казкі — не мёртвая форма. Казка жыве і ў савецкі час. Таму ў 30-я гады яе форма ўдала была выкарыстана для адлюстравання вялікай сілы ленінскіх ідэй, якія натхнялі і ўздымалі на барацьбу за перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі. Казкі адзначаюцца багатым ідэйным зместам і высокай мастацкасцю. У казцы «Ленінская праўда» браты-праўдашукальнікі нідзе не маглі знайсці праўды: ні ў папа, ні ў пана, ні ў купца, ні ў фабрыканта. Поп паабяцаў сказаць праўду, калі браты папрацуюць на яго. І сказаў сваю «папоўскую праўду»: «Працуйце вы добра і не гнявіце бога — вось і ваша праўда».

Праўду знайшоў адзін з братоў у Леніна, вобраз якога, па словах М. Горкага, узведзены ў нашы дні на вышыню міфічнага героя, роўнага Праметэю. Ленінская праўда «многа год хадзіла па фабрыках і вёсках. Узнімала яна рабочых і сялян на барацьбу. А ў Кастрычніку 1917 года абвясцілася гэта праўда зычным голасам, залпамі на ўвесь свет. Пайшлі рабочыя і сяляне бязлітаснай вайной на памешчыкаў і фабрыкантаў. А вёў іх тады сам Ленін...» [3]

Побач з крытыкай усяго капіталістычнага ладу казка раскрывае і рэакцыйную сутнасць рэлігіі і царквы.

У казцы «Святая кніжка» [4], у сказе «Свянцонае зелле» [5] і іншых творах крытыка рэлігіі і царквы атрымлівае далейшае развіццё. Асабліва па-майстэрску робіцца гэта ў казцы «Святая кніжка». Вастрыё сатыры ў ёй накіравана супраць гандлю адпушчэннем грахоў, што характэрна як для праваслаўнай, так і ў яшчэ большай ступені для каталіцкай царквы.

У далёкім мінулым існавалі нават спецыяльныя таксы спагнання платы за «адпушчэнне грахоў». Пасля любога злачынства за пэўную суму можна было застацца «бязгрэшным». Традыцыйны матыў казкі, накіраваны супраць

---

[1] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 75—78.
[2] Там жа, стар. 79—82.
[3] Там жа, стар. 78.
[4] Там жа, стар. 38.
[5] Там жа, стар. 84.

царквы і рэлігіі, якія за адпаведную плату ад імя бога апраўдваюць злачынствы, не губляе сваёй надзённасці. Герой казкі — просты сялянскі хлопец, удала выкрывае ашуканскую сутнасць царквы. Ён купляе ў папа самую дарагую «святую» кніжку, таму што бацюшка гаварыў: «Хто купіць кнігу за 25 капеек, таму меней грахоў адпусціцца, за 50 капеек — ужо грахоў палову будзе адпушчана, а хто купіць за адзін рубель — таму сто працэнтаў грахоў адпушчана будзе». Поп прадаў «святыя» кніжкі і ехаў дамоў. Хлопец спыніў яго і патрабаваў грошы. «Поп і кажа: «Што ж ты робіш? Гэта ж грэх!» А той хлопец дастае кніжку за адзін рубель і кажа:

— А во, бачыў,— кніжку маю за рубель,— па ёй усе грахі зямныя прошчаны.

Забраў грошы і ўсё».

Такім чынам, поп сам стаў ахвярай свайго ж ашуканства. Народныя творы дапамагаюць лепш зразумець, для чаго царкве патрэбна было гэта адурманьванне мас. «Праз рэлігійны дурман поп набіваў сабе карман» (Белар.),— гаворыць беларуская народная прыказка.

Традыцыйныя мастацкія прыёмы і сродкі, вобразы і матывы шырока выкарыстоўваюцца і ў антырэлігійных творах іншых жанраў.

У частушцы — самым папулярным жанры сучаснага фальклору — часта ўжываецца, напрыклад, прыём паралелізму.

Заспявалі птушкі ў лесе,
Заспяваў і салавей.
Перасталі богу верыць,
Жыць нам стала весялей [1].

Форма гэтай частушкі — станоўчы паралелізм. Пейзажны малюнак сімвалічна супастаўляецца з асноўнай з'явай, адлюстраванай у другой паралелі: паказам карэнных змен у светапоглядзе народа. Паралелізм ажыўляе і паэтызуе малюнак, садзейнічае больш выразнаму выказванню атэістычнай думкі. Першы радок паралелізму сустракаецца і ў іншых частушках, дзе ён часам выконвае ролю зачыну.

У сучасным антырэлігійным фальклоры вялікае развіццё атрымала форма частушкі (таксама традыцыйная) з «адначастковай» (назва Лазуціна) кампазіцыйнай струк-

[1] Антырэлігійныя казкі, частушкі, прыказкі, стар. 248.

турай, без паралелізму. Такая частушка прадстаўляе сабой скразное непадзельнае апавяданне, звязанае адзінай антырэлігійнай думкай.

Я з рэлігіяй парвала —
У царкву больш не хаджу.
Лепш у клубе з сваім мілым
Я за кніжкай пасяджу [1].

З такім жа поспехам у савецкіх антырэлігійных частушках выкарыстоўваюцца і іншыя традыцыйныя мастацкія прыёмы, сродкі, матывы і вобразы.

З усяго гэтага можна зрабіць вывад, што ў савецкім антырэлігійным фальклоры традыцыйныя творы з разнастайнымі матывамі займаюць яшчэ значнае месца, а лепшыя традыцыі творча выкарыстоўваюцца і развіваюцца.

## Адлюстраванне барацьбы савецкага народа супраць контррэвалюцыйнага духавенства

Шматлікія антырэлігійныя творы, складзеныя ў савецкі час, выкрываюць контррэвалюцыйную ролю царквы і асобных груп духавенства ў розныя перыяды жыцця нашай краіны. Вялікая ўвага, якая ўдзяляецца ў фальклоры крытыцы духавенства, абумоўліваецца тым, што ў час Лютаўскай і Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцый, у гады грамадзянскай вайны і пазней значная частка духавенства адкрыта выступала супраць рэвалюцыйнага народа, супраць яго барацьбы і затым — супраць сацыялістычнага будаўніцтва. Роля духавенства ў розныя гістарычныя перыяды жыцця нашай краіны ясна раскрыта ў пастанове ЦК КПСС «Аб памылках у правядзенні навукова-атэістычнай прапаганды сярод насельніцтва» ад 10 лістапада 1954 года, дзе падкрэсліваецца, што «адразу ж пасля перамогі Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, у гады грамадзянскай вайны і пазней многія рэлігійныя арганізацыі, групы духавенства трымалі сябе варожа ў адносінах да Савецкай улады. У сувязі з гэтым асобныя служкі культаў прыцягваліся дзяржавай да адказнасці не за рэлігійную, а за антыўрадавую дзейнасць, накіраваную супраць інтарэсаў савецкага народа, ва ўгоду ўнутранай контррэ-

[1] Антырэлігійныя казкі, частушкі, прыказкі, стар. 130.

валюцыі і міжнароднаму імперыялізму. Натуральна таму, што барацьба савецкага народа супраць ворагаў сацыялістычнай дзяржавы ўключала ў сябе і барацьбу супраць тых рэакцыйных прадстаўнікоў царквы, якія займаліся варожай савецкаму народу дзейнасцю» [1].

Жорсткая класавая барацьба, прабуджэнне рэвалюцыйнай свядомасці ў працоўных, усведамленне імі антынароднай сутнасці царквы і контррэвалюцыйнай ролі часткі духавенства былі жыццёвай асновай для ўзнікнення новых антыпапоўскіх казак, анекдотаў, сказаў, частушак, прыказак і прымавак.

Адчуваючы набліжэнне рэвалюцыі, духавенства прыкладвала ўсе сілы, каб перашкодзіць працоўным прыняць удзел у рэвалюцыйнай барацьбе. Маскоўскі мітрапаліт Макарый незадоўга да Лютаўскай рэвалюцыі пісаў у сваім пасланні народу:

«Бога бойцеся, цара шануйце. Паважайце цара як памазанніка божага. Падпарадкуйцеся ўладам, якія пастаўлены ім. Улада ўстаноўлена ад бога... Той, хто працівіцца ўладзе — божаму загаду працівіцца..., а з мяцежнікамі не еднайцеся,—такіх цяпер многа развялося на рускай зямлі»[2].

Аднак калі ўладу захапіў Часовы буржуазны ўрад, царкоўнікі доўга не раздумвалі і перайшлі на службу да новага гаспадара.

Пасля бязлітаснага расстрэлу мірнай дэманстрацыі ў ліпені 1917 года ў сваім звароце Сінод імкнуўся даказаць «здрадніцтва» бальшавікоў, патрабаваў ад папоў узмацніць контррэвалюцыйную агітацыю і заклікаў рабочых і салдат да пакорлівасці ўладзе буржуазіі.

Камуністычная партыя выкрывала антынародныя, контррэвалюцыйныя справы «божых служак». У адказ на сабораўскі «Зварот да арміі і флота», у якім контррэвалюцыянеры ў папоўскіх рызах паклёпнічалі на бальшавікоў, у газеце «Рабочий путь» 10 верасня 1917 года даваўся дастойны адпор цемрашалам і зрывалася маска з іх агіднага твару:

«Памешчыкі ў рызах, памешчыкі ў паддзёўках, капіталісты ў рызах і капіталісты ў фраках — з крыжам у руках,

---

[1] Коммунистическая партия и Советское правительство о религии и церкви. М., 1959, стар. 108.

[2] Цыт. па кн.: С. Тубанов. Церковь на службе врагов народа. Свердловск, 1940, стар. 22.

са злосным паклёпам на вуснах выступаюць супраць народных мас. У рэспубліканскай Расіі яны праводзяць такую ж чарнасоценную агітацыю, якую праводзілі ў Расіі царскай, таму што і тады і зараз яны абараняюць памешчыцкую зямлю ад сялянства» [1].

Як і напярэдадні Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, з першых яе дзён большасць царкоўнікаў у саюзе з памешчыкамі і капіталістамі выступіла супраць улады Саветаў. З дазволу і пры непасрэдным удзеле папоў на званіцах цэркваў і манастыроў Масквы і іншых гарадоў устанаўліваліся кулямёты, якімі абстрэльвалі рэвалюцыйных рабочых. Духавенства прымала непасрэдны ўдзел у расправе над чырвонагвардзейцамі [2].

Некаторыя рэлігійныя арганізацыі выпускалі адозвы і пасланні, у якіх яны пагражалі прыхаджанам анафемстваваннем і адлучэннем ад царквы за ўдзел у савецкім будаўніцтве.

Духавенства само прызнавала контррэвалюцыйную ролю царквы. У артыкуле «Чорная небяспека», надрукаваным у газеце «Новая жизнь», гаварылася, што царква асвяціла барацьбу супраць рэвалюцыі «як параджэння пякельнага» [3].

Многія рэлігійныя арганізацыі і групы духавенства сталі на шлях адкрытай барацьбы супраць улады рабочых і сялян і ў гады грамадзянскай вайны.

Антысавецкай дзейнасцю займаліся каталіцкія ксяндзы ў час вайны з белапалякамі. Па ўсёй Беларусі яны праводзілі контррэвалюцыйную агітацыю ў інтарэсах панскай Польшчы, намагаючыся «даказаць», што Беларусь — польская правінцыя.

Польскія ксяндзы асвячалі крывавыя расправы і пагромы жаўнераў над мірным насельніцтвам Беларусі, апраўдвалі здзекі над людзьмі некаталіцкай веры [4].

Многія ксяндзы ў час вайны з памешчыцка-буржуазнай Польшчай праводзілі шпіёнскую работу ў акупіраваных белапалякамі раёнах Беларусі і Украіны і ў польскай арміі.

---

[1] Цыт. па кн.: С. Тубанов. Церковь на службе врагов народа, стар. 28.

[2] Там жа, стар. 32.

[3] Б. Кандидов. Меньшевики и поповщина в борьбе против Октябрьской революции. М.—Л., 1931, стар. 52.

[4] «Революция и церковь», 1920, № 9—12, стар. 54; «Революция и церковь», 1919, № 6—8, стар. 102.

Некаторыя служкі каталіцкай царквы былі агентамі польскіх паноў і вялі антысавецкую работу ў нашым тыле. Яны апраўдвалі захопніцкую палітыку ўрада панскай Польшчы, выступалі супраць дэкрэтаў Савецкай улады. Антысавецкая дзейнасць рэакцыянераў-царкоўнікаў мела сваёй галоўнай мэтай аднаўленне эксплуататарскага ладу.

Перамога Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і поспехі савецкіх працоўных у барацьбе з контррэвалюцыяй і інтэрвенцыяй, а таксама іх поспехі ў сацыялістычным будаўніцтве выклікалі раз'юшаны лямант прыхільнікаў капіталістычнага ладу, рымскага папы і князёў Ватыкана. Сваёй лютай нянавісцю да СССР асабліва вылучыўся папа Пій XI. Як прадстаўнік Ватыкана (нунцый) у Польшчы ў 1919—1920 гадах мансіньёр Рацці (так яго звалі ў той час) быў адным з арганізатараў нападу польскай арміі на Савецкую краіну. Ён аб'язджаў белапольскія войскі, выступаў з пропаведзямі, у якіх заклікаў змагацца за «веру і цывілізацыю» [1]. Пазней папа Пій XI намагаўся арганізаваць «крыжовы паход» супраць Савецкага Саюза. Беларускі народ паказаў у сваёй частушцы, што ўсе намаганні папы правалілися:

Папа рымскі у царкве
Дзве начы маліўся.
Ды жывуць бальшавікі,
Папа памыліўся [2].

Контррэвалюцыйная барацьба многіх прадстаўнікоў духавенства ў першыя гады Савецкай улады непасрэдна звязана з дзейнасцю патрыярха Ціхана, які «задаваў тон» усім антысавецка настроеным царкоўнікам. Патрыярх Ціхан імкнуўся арганізаваць паўстанне веруючых супраць Савецкай улады ў сувязі з прыняццем у студзені 1918 года дэкрэта аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы, распаўсюджваў паклёп на камуністаў, называў іх «вылюдкамі роду чалавечага». Асабліва вялікае абурэнне выклікаў заклік патрыярха да супраціўлення Савецкай уладзе ў 1922 годзе, калі Савецкі ўрад прыняў пастанову аб выкарыстанні царкоўных каштоўнасцей для дапамогі галадаючым на Паволжы [3]. Злачынная дзейнасць Ціхана знайшла

---

[1] «Антирелигиозник», 1930, № 6.

[2] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 178.

[3] Ем. Ярославский. О религии. М., 1957, стар. 592.

аднадушнае асуджэнне ў народзе, што пацвярджае ўзнікшая і шырока бытаваўшая ў той час беларуская частушка:

На Паволжы людзі мерлі,
Голад там людзей касіў,
А поп Ціхан ўсё багацце,
Да сябе у склеп знасіў [1].

У беларускім фальклоры выражана ўсведамленне нашага народа, што перамогу над унутранай контррэвалюцыяй і знешнімі ворагамі, якія аб'ядналіся з мэтай задушыць уладу рабочых і сялян у краіне Саветаў, ён атрымаў дзякуючы мудраму кіраўніцтву Камуністычнай партыі і геніяльнага правадыра У. І. Леніна:

Мы разбілі ўсіх бандытаў,
Разграмілі на франтах,
Бо да гэтага нас клікаў
Смелы голас Ільіча [2].

Вострае сатырычнае слова народна-паэтычных твораў было важнай зброяй у выкрыцці тых прадстаўнікоў духавенства, якія прыкладалі ўсе намаганні, каб перашкодзіць правядзенню калектывізацыі.

На тэрыторыі Беларусі было нямала папоў, ксяндзоў і сектанцкіх прапаведнікаў, якія ў саюзе з кулацтвам праводзілі контррэвалюцыйную работу з мэтай сарваць калектывізацыю. Аб гэтым сведчаць шматлікія факты. Напрыклад, у мястэчку Холмічы Гомельскай вобласці на сакрэтным сходзе кулакоў поп зрабіў «інструктыўны даклад», як пераконваць сялян-беднякоў, каб не ўступалі ў калгас. «Прапануйце беднаце,— гаварыў ён,— чакаць калгасаў нябесных, а на зямлі задавальняцца жыццём адзіночкай, як гэта загадваў Хрыстос» [3].

Нярэдка папы выкарыстоўвалі для сваёй контррэвалюцыйнай работы царкоўны амбон. Так, у вёсцы Жодзіна Смалявіцкага раёна поп выступіў з пропаведдзю супраць уступлення ў калгасы: «Мужайцеся, браціе, не паддавайцеся спакусе антыхрыста. Не ідзіце ў калгас, дзе вашы дзеці будуць босыя, а жанчыны агульныя» [4].

---

[1] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 178.

[2] Чырвоная Армія і абарона Радзімы ў беларускай народнай творчасці. Мінск, 1938, стар. 45.

[3] «Антирелигиозник», 1930, № 6.

[4] Там жа.

На якія толькі выдумкі не ішлі папы, каб запалохаць паству калгасамі! Яны распаўсюджвалі плёткі, што ўсім калгаснікам антыхрыст будзе ставіць пячатку на лоб, таму што «калгаснік адмаўляецца ад бога» (у мястэчку Красавічы); што ў Бабруйскай акрузе разам са снегам з неба ўпаў божы крыж, які быццам бы забіў старшыню райвыканкома ў час яго даклада аб калектывізацыі; што «ў адной губерні паявіліся пяць святых з харугвамі і ніхто ім не мог пашкодзіць. Гэтыя святыя задаліся мэтаю абараняць усіх, хто не ідзе ў калгас» [1] і г. д.

Не адставалі ад праваслаўных папоў каталіцкія ксяндзы. У вёсцы Фашчаўка Шклоўскага раёна ксёндз некалькі разоў зрываў набатным звонам сходы і ўгаварваў сялян прадаваць жывёлу, пагражаў жадаючым уступіць у калгас падпаламі і «божай карай».

Такую ж контррэвалюцыйную работу праводзілі і многія сектанты. У вёсцы Гарохава Рэчыцкага раёна разам з кулакамі яны ноччу пабудавалі пад вакном старшыні калгаса (камуніста) вялікі крыж, а раніцай распусцілі чуткі, «што сам бог папярэджвае сялян не ісці ў калгасы, што ў нехрысцяў-камуністаў вырастаюць з зямлі крыжы» [2].

У мэтах контррэвалюцыйнай прапаганды сектанты-евангелісты выкарыстоўвалі «святое пісанне». У Ціманаўскім сельскім савеце яны прыдумалі новае «адкрыццё праз евангелле», дзе быццам бы сказана, што калгасы — «справа д'ябальская» [3].

Нярэдка сектанты ад угаворванняў і пераконванняў пераходзілі да прамых пагроз калгаснікам. Кіраўнік групы сектантаў вёскі Лісцвіна Хойніцкага раёна пагражаў калгаснікам: «Прыйдзе час, усіх вас перавешаем» [4].

Контррэвалюцыйная работа некаторых груп духавенства ў перыяд калектывізацыі не мела ніякай падтрымкі ў народзе. Беларускія сяляне заўважылі, што ў сваёй варожай дзейнасці супраць калгаснага ладу прадстаўнікі духавенства і кулацтва ішлі поруч, таму ставілі побач папа і кулака і ў творах: «Поп і дзяк адно думаюць, што і кулак».

Для больш яркага раскрыцця тыпу кулака і ўсёй ганебнасці саюза з ім духавенства казка «Як кулак зрабіў дзень

---

[1] «Антирелигиозник», 1930, № 6.
[2] «Шляхі калектывізацыі», 1929, № 4, стар. 20.
[3] «Антирелигиозник», 1930, № 6 .
[4] Там жа.

доўгім»[1], запісаная ў 1937 годзе, абапіралася на факты з жыцця сялян да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Казка малюе беднасць і галечу сялян пад прыгнётам папоў, паноў і кулакоў: «Адбылося гэта ў той час, калі кулак меў волю здымаць апошнюю кашулю з нас, калі багацеі смакталі нашу кроў, а беднякі не мелі ніякіх правоў; калі па спінах сялян гуляў панскі бізун, а за падаткі забіралі апошні зіпун; калі было добра жыць папам і манахам, а нас запугвалі божым жахам».

Сатырычна з'едліва малюецца ў казцы непрывабнае аблічча прагнага кулака: «Кулак, што воўк: і жрэ і з сабою бярэ, усё яму мала. З батрака стараецца сем скур злупіць і яшчэ глядзіць, ці няма восьмай»[2]. Сутнасць кулака яскрава характарызуе яго прозвішча: Жываедаў. І такі жывадзёр і крывасмок — сябра і саюзнік папа па класавай барацьбе. Як расказваецца далей у казцы, поп за траяк дазваляе кулаку эксплуатаваць батракоў на касьбе і ў свята.

Аб класавым саюзе кулака і папа ў барацьбе супраць правядзення калектывізацыі, аб іх шкоднай падрыўной рабоце асабліва многа ў беларускім фальклоры частушак. Частушкі адлюстроўваюць правал злачынных планаў папоў і кулакоў, выражаюць радасць перамогі працоўных:

Кулакі паджалі хвост,
А папы завылі,
Як у вёсцы мы калгас
Сёлета стварылі[3].

Беларускія частушкі адзначаюць, што спробы кулакоў і папоў пралезці ў калгасы, каб там праводзіць шкодніцкую антысавецкую работу, пацярпелі поўную няўдачу:

Прасею чысценька муку,
Замяшу я цеста.
Ні папу, ні кулаку
Няма ў калгасе месца[4].

Насуперак імкненням папоў і кулакоў калгасны лад перамог. Поспехі Савецкай улады перапаўнялі папоў нянавісцю і злосцю:

---

[1] Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці. Мінск, 1938, стар. 64.
[2] Там жа, стар. 64.
[3] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 151.
[4] Там жа.

Поп і дзень і ноч маліўся,
Каб калгас наш разваліўся,
А калгас наш ўсё красуе, —
Поп ад злосці аж лютуе [1].

З такой жа дасціпнасцю і трапнасцю выкрываецца шкодніцкая роля духавенства, яго саюз з кулаком у прыказках і прымаўках: «Поп маліўся, каб калгас разваліўся, ды лоб разбіў», «Папу і кулаку ад калгасных варот — круты паварот» (Белар.) і інш.

Беларускі селянін, які прайшоў выдатную школу рэвалюцыйнай барацьбы пад кіраўніцтвам такога геніяльнага настаўніка, як Камуністычная партыя, які загартаваўся ў змаганні супраць класавых ворагаў, стаў ужо больш свядомым, чым быў у дакастрычніцкі час: вера ў бога і д'ябла засталася толькі ў невялікай часткі сялян. Таму ўсе байкі папоў аб паяўленні на беларускай зямлі святых, аб божым пакаранні калгаснікаў успрымаліся сялянамі як злосная і злачынная выдумка. Нібы ў адказ на контррэвалюцыйныя байкі папоў і кулакоў з'явіўся высокамастацкі народны сказ «Як кулака выкрылі» [2] (у іншых зборніках называецца «Чорт»).

Спачатку ў сказе даецца своеасаблівая экспазіцыя: «Дык слухайце. Я вам не казку буду баяць, насамашнюю праўду скажу. А што гэта праўда, дык паверце ўжо на маю сівую бараду, лысую галаву, дзетак кашэль і панам набіты каршэнь. Дзе мне маніць, хоць бы праўду ўспомніць ды расказаць. А я ўжо стары. А кажуць — галава лысее, памяць радзее. Нядаўна тое было, але такі ўжо чалавек — ліха памятае, а дабро забывае». Далей расказваецца аб жыцці сялян пры аднаасобным ладзе. Тут казачнік наўмысна супрацьстаўляе жыццё бедных сялян і багатага кулака Проткі, каб слухачам лягчэй было зразумець ідэйны сэнс твора:

«Жылі мы тады, каб дык не вельмі што. З лыка на лапаць узбіваліся, ды больш босымі хадзілі. Мучыліся — гаравалі, а дабра не малі... З усіх двароў адзін толькі Протка панам жыў».

Затым даецца рэалістычны малюнак калектывізацыі: паказваецца, як нялёгка было сялянам развітацца з ад-

[1] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 154.

[2] Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці, стар. 202—204.

вечным ладам і як адзін з бальшавікоў «пачаў казаць, людзей павучаць ды ў калгас сабіраць».

Наступная частка твора ўдала раскрывае прабуджэнне атэізму ў свядомасці беларускага селяніна, набыццё (гэтым атэізмам) рысы ваяўнічасці, уразуменне калгаснікам сапраўднай сутнасці ідэі бога і д'ябла.

Ідзе селянін праз лес у час навальніцы, расказваецца ў сказе, і здаецца яму, што «ў лесе нібы чэрці спраўляюць фэст». Пачаў ён хрысціцца. А чорт кажа: «Не хрысціся, бог ад цябе адступіўся, ты цяпер у калгас падаўся і мне душою прадаўся».

Але часы ўжо не тыя, каб палохацца розных «чортаў», і селянін не той. Схапіў ён «патарчаку» і пачаў біць чорта: «Ён праз пень, а я яму ў каршэнь, ён праз сук, а я яму стук, ды пачаў яго тады пляжыць, ажно чорта смажыць. Узяў я чорта на пояс ды панёс у калгас». Аказалася, што чорт—гэта Протка Вінцэсь, вясковы багацей, вядомы ашуканец і драпежнік. Сказ пераканаўча паказвае, як эксплуататары, нават ужо ў час сваёй агоніі, выкарыстоўвалі рэлігію ў самых брудных мэтах, не грэбуючы нічым і не лічачы такія ўчынкі грахом.

У творы падкрэсліваецца, што правільнасць палітыкі нашай партыі, якая ў інтарэсах усяго народа, у інтарэсах сацыялістычнага будаўніцтва ўзначаліла справу ліквідацыі кулацтва як класа, пацверджана практыкай: «З таго часу, як не стала ў нас Вінцэся Проткі, дык ва ўсім у нас добрыя ўмалоткі».

Сказ вылучаецца не толькі выразнай ідэйнай накіраванасцю, але і высокай мастацкасцю мовы: амаль увесь рыфмаваны ў стылі райка (рыфма паралельная, стапа не захоўваецца: «Не было паміж нас згоды, не было і выгоды»), мае многа афарызмаў («галава лысее, памяць радзее», «чалавек — ліха памятае, а дабро забывае» і інш.) і мноства метафар, параўнанняў і іншых тропаў. Протка «ўсіх пад сябе падламаў — такую сілу чалавек маў»; «пачаў яго тады пляжыць, ажно чорта смажыць»; «хітры быў, як чорт».

Сказ «Як кулака выкрылі» раскрывае адметную рысу атэізму савецкага народа — ваяўнічасць. Ваяўнічы характар атэізму савецкіх людзей раскрываецца таксама ў сказе «Святы дух» [1], блізкім па сюжэту да разгледжанага.

---

[1] Жанчына ў беларускай народнай творчасці. Мінск, 1940, стар. 483.

Бадай няма такой з'явы або падзеі ў жыцці нашай краіны, якая не знайшла б мастацкага адлюстравання ў беларускім савецкім фальклоры.

З поспехам выкарыстоўваецца тут прыём паралелізму, самы пашыраны ў дарэвалюцыйных прыпеўках. Пейзажная замалёўка частушкі — вобразная паралель да адлюстраванай з'явы савецкай рэчаіснасці: адмаўлення ад выканання рэлігійных абрадаў.

Вельмі часта антырэлігійныя частушкі будуюцца па прынцыпу кантрасту, новае ў жыцці і светапоглядзе працоўных супрацьпастаўляецца былому, аджыўшаму.

Раней пойдзеш у царкву,
Б'еш падлогу сваім лбом,
А цяпер у нашым клубе
Пяе песні патэфон [1].

«Жыццё мінулае і жыццё сучаснае» — вельмі пашыраная тэма многіх антырэлігійных сучасных сказаў.

Сказы проціпастаўляюць жудасным малюнкам беспрасветнага цяжкага жыцця працоўных да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі велічныя карціны шчаслівага і заможнага жыцця пры Савецкай уладзе. Дзякуючы гэтаму проціпастаўленню становіцца яшчэ больш ясна, якую ганебную рэакцыйную ролю адыгрывалі царква і рэлігія, асвячаючы непарушнасць і вечнасць эксплуататарскага ладу.

Гэтыя сказы маюць вялікае выхаваўчае значэнне, асабліва для моладзі і людзей сярэдняга ўзросту, якія не бачылі цяжкасцей паднявольнага жыцця. Вось што гаворыць селянін аб сваім жыцці ў мінулым: «Палкай пан мяне біў, жонку да вечара на полі трымаў, паратунку ад пана я не знаў... Мы ў бога збавення шукалі, але нешта яго не дажжалі» (сказ «Было ды мінулася гора» [2]). У сказе «Жыццё без бога і святых» расказваецца: «Раней мы толькі і ведалі, што пакарацца кулаку і папу. Яны нас вучылі: «Маліцеся і атрымаеце збаўленне ад усіх грахоў. Рай вам будзе на тым свеце» [3].

У гэтых творах беларускі народ гаворыць і аб сваім сучасным жыцці «без бога і святых». Параўнанне змрочнага

---

[1] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 160.
[2] Там жа, стар. 99.
[3] Там жа, стар. 108.

мінулага і радаснага сучаснага дапамагае лепш зразумець веліч і прыгажосць новага, сацыялістычнага жыцця. «Але даволі нам стала прыгон цярпець, больш панам і папам на нашай шыі ўжо не сядзець. Адышло, мінулася гора, паноў з іх маёнткаў мы паскідалі, самі вольна жыць сталі. Стала весялей мая сям'я, дзеці ў школу ідуць, іх навукам там вучаць: падрастуць, іх да працы далучаць»,— гаворыцца ў сказе.

Многія беларускія савецкія антыцаркоўныя сказы і частушкі прысвечаны паказу сучаснага жыцця жанчыны. Нярэдка і тут выкарыстоўваецца параўнанне цяперашняга жыцця з мінулым, дарэвалюцыйным. Звяртаючыся да савецкіх жанчын, гераіня сказа «Якою жанчына ў нашу пару стала» [1] гнеўна выкрывае ганебную ролю духавенства ў заняволенні жанчыны:

«Пры цары крывавым адно рабства знала, паны і падпанкі здзекаваліся нямала. Папы і з ксяндзамі богам вас пужалі і вянцом царкоўным мужам прадавалі. Папы гаварылі:

— У грахах сваіх кайцесь, законнаму мужу заўжды падчыняйцесь».

Зусім змянілася цяпер жыццё жанчыны-працаўніцы — заключаецца ў сказе: «Шчаслівa жыве цяпер наша жанчына, жыццё яе — песня; у жыцці не бядуе,— жанчына ў Саветах краінай кіруе» [2].

Не богу, а калгаснаму ладу, уладзе Саветаў выражае сваю ўдзячнасць сялянка за заможнае жыццё:

Колькі богу ні малілась,
Усё бедная была,
У калгас як уступіла,
Дык заможна зажыла [3].

* * *

З гісторыі нашай Радзімы вядома, што іншаземныя захопнікі заўсёды выкарыстоўвалі царкву і рэлігію ў мэтах духоўнага, нацыянальнага і палітычнага заняволення народаў. Яшчэ ў перыяд татара-мангольскага нашэсця, калі народы нашай краіны стагналі пад жорсткім прыгнётам заваёўнікаў і змагаліся з імі, многія царкоўнікі карысталіся прывілеямі і бессаромна служылі ворагам Радзімы.

---

[1] Жанчына ў беларускай народнай творчасці, стар. 419.
[2] Там жа, стар. 420.
[3] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 152.

У час вайны 1812 года здрадзіў сваёй айчыне магілёўскі і віцебскі архіепіскап Варлаам. Нягледзячы на тое, што была поўная магчымасць выехаць з Магілёва да прыходу французскай арміі, ён застаўся, прысягнуў на вернасць Напалеону і прымусіў прысягнуць ворагу рускага народа манахаў Буйніцкага манастыра.

Здраднікі ў папоўскіх рызах знайшліся сярод царкоўнікаў і ў час Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гадоў. У верасні 1942 года ў акупіраваным нямецкімі фашыстамі Мінску была створана здрадніцкая праваслаўная «аўтакефалія». Гітлеру была паслана прывітальная тэлеграма [1].

Гітлераўцы імкнуліся выкарыстаць рэлігію для здзяйснення сваіх злачынных мэт. Здраднікі-папы былі іх актыўнымі памочнікамі. У час Айчыннай вайны фашысты насільна адправілі на нямецкую катаргу 380 тысяч беларусаў. І тут не абышлося без дапамогі здраднікаў-царкоўнікаў, якія звярталіся да моладзі з заклікам ехаць у нямеччыну [2].

Але беларускі народ не згадзіўся добраахвотна ісці ў нямецкае рабства. На спробы фашыстаў заняволіць наш народ і на правакацыйныя заклікі здраднікаў-папоў ён адгукнуўся дружнымі залпамі па ненавісных ворагах з соцень тысяч вінтовак, аўтаматаў і кулямётаў. «Лепей смерць на полі, чым мукі ў няволі» (Янк.),— гаварыў наш народ.

Беларускія працоўныя добра ўсведамлялі, што лёс народаў, вынікі вайны залежаць не ад бога, а ад саміх людзей. Гэта думка была адлюстравана ў народных творах перыяду Вялікай Айчыннай вайны. «Гітлер часта пытаў бога, чыя будзе перамога» [3],— гаворыцца ў народным выслоўі таго часу. І адказам на думку гучыць прыказка «Не ад бога залежыць перамога» [4].

Бяссілле фашыстаў, якіх благаслаўлялі духоўнікі, паказана ў сатырычнай частушцы:

Сядзіць Гітлер на асіне,
Богу моліцца, балван:
Памажыце, ўсе святыя,
Пакарыці партызан [5].

---

[1] «Наука и религия», 1960, № 7.
[2] «Наука и религия», 1961, № 3.
[3] АІМЭФ, ф. 13, воп. 6, спр. 33, сш. 14, л. 7.
[4] Там жа.
[5] Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны. Мінск, 1961, стар. 421.

Атэізм заваёўвае ўсё больш трывалыя пазіцыі ў свядомасці беларускага народа. Працэс барацьбы за перамогу атэізму ў свядомасці працоўнага чалавека адлюстроўваецца ў беларускім фальклоры — энцыклапедыі жыцця і побыту беларускага народа.

## Перамога навукова-атэістычнага светапогляду

Струхлеўшыя рэшткі рэлігійнай ідэалогіі дажываюць у нашым грамадстве апошнія гады свайго існавання. Але яны не сыходзяць са сцэны без барацьбы. Ідэалагічная барацьба з імі працягваецца і зараз.

Беларускі савецкі фальклор адлюстраваў не толькі перамогу атэізму ў свядомасці пераважнай большасці працоўных, але і сам працэс, барацьбу за вызваленне ад рэлігійнага дурману.

Шырокае распаўсюджанне, асабліва ў 20 і 30-я гады, атрымалі творы, у якіх з новых ідэйных пазіцый выкрываліся «царкоўныя цуды», «нятленныя» мошчы «святых». У аснову асобных песень, частушак, казак, сказаў народ паклаў добра вядомыя масам факты з жыцця, што робіць гэтыя творы больш пераканальнымі. У беларускім савецкім фальклоры знайшлі адлюстраванне, напрыклад, вынікі ўскрыцця так званых «нятленных мошчаў». Ускрыццё мошчаў праводзілася ў першыя гады пасля перамогі Вялікага Кастрычніка. Пры ўскрыцці царкоўных і манастырскіх ракаў [1] прысутнічалі ўрачы, прадстаўнікі Савецкай улады, царкоўныя служкі, працоўныя.

Падставай для ўскрыцця мошчаў паслужыў наступны выпадак. У час прыёму на ўлік маёмасці Аляксандра-Свірскага манастыра 22 кастрычніка 1918 года замест нятленных мошчаў Аляксандра Свірскага ў рацэ знайшлі ляльку з воску. Вестка аб гэтым ашуканстве царкоўнікаў стала вядома працоўным ва ўсіх кутках нашай краіны. Працоўныя патрабавалі ўскрыць мошчы і ў іншых царквах і манастырах. Ускрыццё мошчаў выявіла, што «сярэбраныя грабніцы, часта зіхацеўшыя каштоўнымі каменнямі, змяшчалі ў сабе ці косці, якія струхлелі і ператварыліся ў пыл, ці імітацыю цел з дапамогаю жалезных, абкручаных тканінай каркасаў, жаночых панчох, чаравікаў, пальчатак, ваты, кар-

---

[1] Рака — металічная скрынка, у якой захоўваюцца мошчы святога.

дону, афарбаванага пад колер цела і г. д.»[1] І гэтаму лахмоццю, лялькам і чучалам прапаведнікі славутай хрысціянскай рэлігіі прымушалі пакланяцца народ!

Выкрыццю шарлатанства царкоўнікаў прысвечан беларускі сказ «Мошчы нятленныя» [2], у аснову якога пакладзен сапраўдны факт раскрыцця 13 мая 1922 года мошчаў Ефрасінні Полацкай, якія захоўваліся ў Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры Полацка.

Сказ не фатаграфуе рэчаіснасці, а па-мастацку абагульняе факты жыцця. У гэтым можна лёгка пераканацца, калі параўнаць пэўныя месцы сказа з пратаколам раскрыцця мошчаў, дзе запісана: «Па вонкаваму выгляду ў труне ляжыць нешта маючае форму чалавека. Пасля зняцця засцежак і схімы, якая была зроблена ў 1910 годзе, адкрываецца другое адзенне — мантыя. Фігура ляжыць у блакітным шаўковым ватачніку, відаць складзеныя накрыж фігуры рукі, загорнутыя ў чырвоныя ватныя пальчаткі. Ногі абуты ў чырвоныя шаўковыя туфлі. Галава загорнута — спачатку ватны чахол ружова-паласатага шоўку, затым парчовы каўпак і чахол з чырвонага шоўку.

Пад знятым адзеннем знаходзіцца хітон шаўковы ліловага колеру. Уся фігура абкладзена, па заяве манахінь, каб пазбегнуць трасення пры перавозцы, парчовымі скуф'ямі і рознымі часткамі царкоўных адзенняў... З-пад сарочкі агаляецца касцяк, загорнуты ў шаўковыя шматкі. Чэрап без кос шчыльна прыкладзены да тулава, але з ім не звязан. Грудная клетка паламана, сям-там на рэштках рэбраў захаваліся заплесняvелыя і муміфіцыраваныя часткі мышачнай тканіны і скуры. Частка рэбраў правалілася ўнутр і падперта якімсьці матэрыялам, які аказаўся, калі разгарнулі, часткамі парчовых адзенняў»[3].

У пратаколе ёсць і заключэнне ўрачэбна-навуковай экспертызы, з якога вынікае, што чэрап трупа аддзелен ад тулава ў сувязі з разбурэннем звязачнага апарату ад тлення. Частка чэрапа замазана мастыкай. «На думку ўрачэбнай экспертызы, усе косці належаць да аднаго трупа» [4],— падкрэсліваецца далей у заключэнні.

Сказ «Мошчы нятленныя» кампазіцыйна распадаецца на дзве часткі, цесна звязаныя адзінай ідэяй развянчання

[1] «Революция и церковь», 1920, № 3—12, стар. 72.
[2] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 92—93.
[3] «Революция и церковь», 1924, № 1—2, стар. 94.
[4] Там жа.

веры ў цудатворнасць мошчаў святых. Першая частка рэалістычна адлюстроўвае характэрную для дарэвалюцыйнага часу фанатычную веру некаторых людзей у магчымасць ісцалення ад розных хвароб і калецтва з дапамогаю мошчаў. Да мошчаў Ефрасінні Полацкай, расказваецца ў сказе, ішлі і калекі, і хворыя — усе ісцалення чакалі. Наплыў людзей каля труны быў такі вялікі, што стражнікі разганялі іх. Сказ з відавочнай іроніяй асуджае рэлігійны фанатызм: «Пакуль ісцаленне, дык аднаго старога калеку прыціснулі так, што ён і не ачуняў». Праз шкло ў труне відаць была святая Ефрасіння, як жывая, хоць і памерла многа соцень гадоў таму назад. «Манахіні, што пры труне стаялі, расказвалі, што ўсё гэта ад святасці гэтай Ефрасінні».

Дэталёвае апісанне пакланення мошчам Ефрасінні Полацкай не выпадкова. Гэтым паказваецца значнасць аб'екта для мастацкай крытыкі, павышаецца цікавасць да таго, як абвяргаюцца выдумкі духавенства аб цудадзействе «святых» і іх мошчаў, якія быццам бы сам бог не дапускае да тлення. Дарэчы, не заўсёды самі працоўныя згаджаліся называць святымі ўсіх тых, каго кананізавала царква. У лік жа святых часта траплялі яўныя ворагі працоўных. Каталіцкай царквой былі кананізаваны, напрыклад, злейшыя ворагі беларускага народа, бязлітасны кат уніяцкі архіепіскап Іясафат Кунцэвіч і езуіт Андрэй Баболі.

Толькі пасля перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі паявілася магчымасць выкрыць шарлатанства царкоўнікаў. Таму ў другой частцы сказа дзеянне пераносіцца ў савецкую эпоху. «Дачуліся людзі, што многа дзе паадчынялі мошчы і нешта мала святога ў іх знаходзілі». Патрабавалі яны, каб адчынілі і мошчы Ефрасінні Полацкай. «Веруючыя і папы супярэчылі, але ўсё ж адчынілі,— апавядаецца ў сказе.—І тут народ пабачыў абман, бо касцей у труну гэтай Ефрасінні напіхалі і мужчынскіх і жаночых, увесь шкілет быў склеены глінай; нага, што людзі цалавалі, была напіхана ватай, а панчохі, дык зусім новыя з фабрыкі Марозаўскай, тры пары адзеты былі.

Размоў пра «святасць» мошчаў Ефрасінні тады было шмат, — папы ад сораму не паказваліся на людзей, а хто верыў у мошчы, дык таму паказана было, чаму ён пакланяўся» [1].

Пры параўнанні заключэння ўрачэбна-навуковай эк-

---

[1] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 93.

спертызы аб мошчах Ефрасінні Полацкай са сказам, няцяжка заўважыць, што ён не перадае дакладных вынікаў раскрыцця мошчаў. Але сказ — мастацкі твор. Ад яго і не патрабуецца капіраванне асобнага факту, таму што тады атрымаўся б не тыповы, а значыць, і не рэалістычны малюнак. Сказ жа «Мошчы нятленныя» дае іменна рэалістычнае адлюстраванне тагачасных падзей, звязаных з выкрыццём шарлатанства царкоўнікаў, паказваючы тое, што было найбольш характэрным пры раскрыцці мошчаў.

Як само раскрыццё мошчаў, так і бытаванне твораў аб выніках яго мелі вялікае значэнне для пераломy ў светапоглядзе працоўных. Канкрэтным сведчаннем гэтага з'яўляюцца адказы савецкіх людзей на пытанні анкет, якія былі распаўсюджаны сярод насельніцтва Беларусі ў 1930 годзе па ініцыятыве кафедры марксізма-ленінізма АН БССР. На пытанне: «Ці быў у вашым жыцці пералом ад веры ў бога да бязбожжа і наадварот — ад бязбожжа да веры ў бога і ў якім узросце?» — беларускі селянін вёскі Верхаменне з Полаччыны адказаў, што пералом да бязбожжа ў яго свядомасці адбыўся тады, калі ён прысутнічаў пры раскрыцці мошчаў Ефрасінні ў Полацку і пераканаўся ў ашуканстве царкоўнікаў. «Вера адразу знікла» [1]. Селянін з вёскі Чорнае, адказваючы на гэта ж пытанне, паведаміў, што ён наглядзеўся ў час паломніцтва ў Кіеўскую лаўру на мошчы і пераканаўся, што «гэта не целы неструхлелыя, але чурбакі» [2]. Гэта пахіснула яго веру.

Фабрыкацыя мошчаў заўсёды мела сваёй мэтай умацаванне цемрашальскай рэлігійнай ідэалогіі і была сродкам выцягвання з народа ахвяраванняў, якія пападалі ў бяздонныя кішэні царкоўных служак. Народная прыказка «Для папа цемната народа — крыніца дахода» правільна адлюстравала зацікаўленасць духавенства ў захаванні народнага невуцтва.

Такую ж сутнасць мелі і фабрыкацыі «цудатворных» абразоў і гандаль «святой» вадой. Усё гэта выкрываецца і з'едліва высмейваецца ў беларускім савецкім фальклоры.

У песні «Цуд» выкрываецца махлярства царкоўнікаў, якія на працягу многіх стагоддзяў дурманілі людзей і нажываліся на «цудах» — «крывавых слязах» «святых» абразоў. Песня паказвае, што мінуліся часы, калі папы бес-

---

[1] С. Ф. Вальфсон. Сучасная рэлігійнасць. Мінск, 1930, стар. 53.

[2] Там жа, стар. 53.

пакарана грабілі працоўных, адурманеных верай у цудатворнасць ікон. У савецкі час папоўскім пропаведзям процідзейнічае вялікая выхаваўчая работа:

Нашы ж хлопцы-камсамольцы
Расказалі старыкам,
Што плывуць вось тыя слёзы
На карысць адным папам.

Паказалі, раз'яснілі,
Адкуль слёзы тыя шлі, —
За кардон папы налілі
Падфарбаванай вады [1].

Беларускія калгаснікі ў сваёй паэтычнай творчасці сцвярджаюць, што без божай дапамогі, дружнай калектыўнай працай яны дабіваюцца вялікіх поспехаў:

Болей «цудам» мы не верым,
Яны толькі шкодзяць,
Бо ў нашым жа калгасе
Хлеб без бога родзіць [2].

У радзе савецкіх фальклорных твораў выкрыта недарэчнасць веры ў звышнатуральныя якасці так званай «святой» вады — вады, у якую поп тры разы апусціў крыж у суправаджэнні малітваў і адпаведных спеваў, чым быццам бы выклікаў божае благаславенне. Царкоўнікі не толькі падтрымлівалі, але і самі распаўсюджвалі выдумкі аб вылечванні з дапамогай «святой» вады людзей ад розных хвароб. Папы крапілі «святой» вадой будынкі, поле, жывёлу і інш. і рабілі гэта, зразумела, за пэўную плату. Вельмі ўдала адлюстравала сутнасць гэтага абраду народная прыказка «Поп і дзяк ад чыстай вады тлусцеюць» (АІМЭФ).

«Святыя» ашуканцы нярэдка добра грэлі рукі на махлярстве з «цудадзейнымі» крыніцамі. Зусім нядаўна непадалёку ад вёскі Кліны Магілёўскай вобласці царкоўнікі і святошы ператварылі чыстую Сінюю крыніцу з празрыстай вадой у брудную крыніцу сваіх даходаў. Не адна тысяча рублёў перайшла ў іх кішэні ад даверлівых людзей, «божыя служкі» спрытна выкарысталі сваю цемрашальскую зброю! [3].

Але ў нашым грамадстве людзей, «хворых» рэлігійным

---

[1] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 128.
[2] Там жа, стар. 159.
[3] «Чырвоная змена» ад 10 сакавіка 1961 года.

фанатызмам, засталося вельмі мала. У гушчы народных мас ужо сабралася дастаткова сіл, здольных выкрыць усякае замаскіраванае рэлігіяй махлярства, шарлатанства і ашуканства. У барацьбе супраць усяго гэтага і цяпер эфектыўна выкарыстоўваецца выпрабаваная зброя народнага мастацкага слова. «Надзея на бога ў хваробе не дапамога» (AIМЭФ),— вучыць, напрыклад, мудрая народная прыказка.

Выкрыццю тых, хто атрымлівае карысць ад махлярстваў з «святой» вадой і «цудадзейнымі» крыніцамі, прысвечаны сказ «Свянцонае зелле»[1] і анекдот «Свянцоная вада»[2]. У анекдоце падкрэсліваецца, што няма ніякай розніцы паміж звычайнай, нават балотнай вадой і «свянцонай». Карысць жа «свянцоная» вада прыносіць толькі папу. Ідэйны змест анекдота раскрываецца так. Хворая бабка паслала ўнука да папа, каб ён за курачку і яйкі даў святой вады. Унук жа набраў у бутэльку вады з раўчака і прамовіў:

Вадзіца, вадзіца —
Будзь памачніца,—

і прынёс бабульцы. «Поп сказаў памачыць вадой грудзі і трошкі з бутэлькі выпіць»,— схлусіў ён. «Памачыла бабка грудзі, напілася і ад радасці павесялела»,— расказваецца ў анекдоце. Балотная вада тое ж, што і «свянцоная», адна карысць,— такі вывад робіцца ў анекдоце.

Такая ж глыбокая пераконанасць у тым, што ні малітвы, ні «святая» вада не прыносяць ніякай карысці чалавеку, гучыць у частушках, складзеных калгаснікамі.

Няма карысці ад малітвы,
Ад «свянцонай» ад вады,
Хто паложыць угнаенне —
Апраўдае ў тры разы[3].

Выкрыццё махлярскай сутнасці царкоўных «цудаў» у савецкім фальклоры вызначаецца тым, што яно заснавана на навуковым атэізме. Калі раней папы выкарыстоўвалі вядомыя ім законы фізікі, хіміі і іншых навук для фабрыкацыі розных цудаў і лёгка ашуквалі непісьменны працоўны народ, то цяпер ім гэта не ўдаецца. Савецкія людзі, абапі-

---

[1] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 84.
[2] Там жа, стар. 38. Запісан у 1937 годзе ў Магілёўскім раёне.
[3] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 158.

раючыся на тыя ж навуковыя законы, выкрываюць махлярства «святых» шарлатанаў. Так, у апавяданні «Поп і барометр» [1] выкрываецца ашуканства папа, які па просьбе сялян згаджаўся правіць малебен толькі тады, калі бачыў, што стрэлка барометра паказвае змену на дождж. Моліцца поп, каб бог даў дождж, а людзі нясуць ахвяраванні, «хто што можа цягне: апошняе папу аддаюць, каб хаця дождж з неба пайшоў».

Моліцца поп, вочы ўгару ўставіўшы; аж, на табе, увечары сыпне дождж, як па заказу. «Гэтакая сіла бога,— людзі сабе думалі.— Добра маліся — усё ад яго будзе».

«Але ж яно ўсякая табе няпраўда наверх выходзіць»,— гаворыцца ў апавяданні. Ашуканства папа выкрывае парабак, які вынес з папоўскага пакоя барометр і паказаў людзям: «Вось глядзіце, кажа, заўтра дождж і без паповай малітвы будзе». Ажно праўда. Сыпануў дождж, як трэба».

У апавяданнях сцвярджаецца атэістычная думка, што з'явы прыроды адбываюцца не па волі бога, а заканамерна, і гэтыя заканамернасці чалавек здольны пазнаць.

«Без малення сеем і косім, у Іллі дажджу не просім», «Дзе моляцца Хрысту, там бур'яны растуць» (АІМЭФ),— заяўляюць беларускія калгаснікі.

Фальклорныя творы выкрываюць карыслівасць тых, хто займаецца варажбой і ашуквае людзей, і вучаць, што вера ў знахарства шкодна: «Хто любіць працай жыць, той не пойдзе варажыць» (АІМЭФ); «Варажба не малацьба — нічога не дасць» (АІМЭФ); «Не падай духам і не вер шаптухам» (Белар.).

Вялікую ролю для канчатковага разрыву з верай у знахарства адыграла пашырэнне ў нашай краіне сеткі бальніц, санаторыяў і падрыхтоўка медыцынскіх кадраў. Своечасовая і кваліфікаваная медыцынская дапамога — самая лепшая аснова для пераадолення веры ў знахарства: «Шаптухам не вер, у нас ёсць дактары цяпер» (Белар.).

Мастацкія народныя творы аказваюць вялікую дапамогу ў выкрыцці шкоднасці рэлігійных абрадаў. Яны расказваюць, напрыклад, што абрад хрышчэння часам калечыць людзей не толькі духоўна, але і фізічна [2]. Сказ «Як дзяцей хрысцілі» гнеўна выкрывае дзікасці хрысціянскага абраду хрышчэння і сур'ёзна папярэджвае тых, хто яшчэ выкон-

---

[1] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 71—72.
[2] «Наука и религия», 1959, № 3; В. М. Иванов. Таинство крещения. Минск, 1961, стар. 3—5.

вае яго. У час хрышчэння поп паклаў дзіця ў купель з ледзяной вадою. Цэлы год хварэў пасля гэтага хлопчык і застаўся калекам на ўсё жыццё. «Вось якая «карысць» ад гэтага хрышчэння. Дзеці нашы жывуць і без папоўскага хрышчэння» [1],— заключаецца ў сказе.

Беларускія народныя творы адлюстроўваюць таксама змяненні ў адносінах да вясельных абрадаў. Савецкая моладзь лічыць, што «крыжам любві не звяжаш» (Белар.), таму ў пераважнай большасці спраўляе вяселле па-новаму:

Вышываю я платочак:
На ражку чырвоны цвет.
Няхай поп не дажыдае,
Нас ажэніць сельсавет[2].

Народныя творы паказваюць, што для нашага часу характэрна адмаўленне пераважнай большасці працоўных ад хрышчэння, вянчання і іншых абрадаў.

Абыйдуся без крапіла,
Я не знаюся з папом.
Мяне й маці не хрысціла,
Не была я й пад вянцом[3].

Сама савецкая рэчаіснасць, у якой беларускі народ жыве вольна і шчасліва, садзейнічае адміранню ўсякіх рэлігійных абрадаў:

Рэлігійныя абрады
Забываюцца навек.
Без папоўскага абману
Жыве вольны чалавек[4].

Беларускі народ у сваёй творчасці выступае таксама супраць святкавання рэлігійных свят. «Калі ўсіх святых памінаць, то не будзе калі працаваць» (АІМЭФ),— гаворыцца ў сучаснай беларускай прыказцы. Асмяянню вялікоднага свята ў 20-я гады прысвячаліся некаторыя народныя тэатральныя прадстаўленні[5].

Адмоўна ставіцца савецкі народ толькі да рэлігійных свят. І зусім інакш сустракае і адзначае ён усенародныя рэвалюцыйныя святы:

---

[1] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 87.
[2] Там жа, стар. 165.
[3] Там жа, стар. 167.
[4] Беларускія частушкі. Мінск, 1960, стар. 91.
[5] АІМЭФ, ф. 1, воп. 1, спр. 5, стар. 17—18.

Не жадаем мы спраўляць
Цяпер дні «святыя».
Першы май наш і Кастрычнік
Святы дарагія [1].

Карэнныя змены ў сацыяльна-эканамічным жыцці краіны прывялі да вялікіх змен у быце і светапоглядзе працоўных, што ў сваю чаргу выклікала адпаведныя змены ў народных творах, якія глыбока адлюстравалі перамогу атэізму ў свядомасці савецкіх людзей. Вось як наглядна раскрываюцца змены ў светапоглядзе народа ў прыказках. Раней гаварылі: «Без бога — не да парога», цяпер гавораць: «Без бога — шырока дарога» (АІМЭФ). Ад той жа дарэвалюцыйнай прыказкі «Без бога — не да парога», створанай не без уплыву царквы, узнікла таксама прыказка «Зараз бога — дні да парога» (Белар.). Ад прыказкі «Божая ласка дасць хлеба і мяска» ўтварылася новая — «Божая ласка не дасць хлеба і мяска». Дарэвалюцыйная прыказка «Вянец-крапец» ператварылася ў прыказку «Вянец — не крапец» (Белар.) і адлюстравала гэтым новы погляд савецкіх людзей на царкоўны вясельны абрад.

Калі ў дарэвалюцыйных народных творах выказваліся толькі сумненні ў сапраўднасці «святога» пісання і высмейваліся паасобныя палажэнні яго, то ў сучасным беларускім фальклоры не толькі выкрываецца яго ілжывасць, але і паказваецца яго шкоднасць. «Святыя навукі — людзям на мукі»,— лаканічна сцвярджаецца ў народнай прыказцы.

Асаблівае значэнне ў ідэалагічнай рабоце мае крытыка сектанцкага вучэння. Як адзначалася на XXIV з'ездзе Камуністычнай партыі Беларусі, у апошні час у нашай рэспубліцы актывізавалі сваю рэакцыйную работу цемрашалы-сектанты. Яны імкнуцца ўцягнуць у секты новых людзей, аблытаць іх туманам веры ў бога. Аднак велізарная выхаваўчая работа нашай Камуністычнай партыі, выкрыццё самімі працоўнымі сапраўдных, далёка не высакародных мэт баптыстаў, евангелістаў, пяцідзесятнікаў і інш., асабліва іх прасвітараў, а таксама горкі вопыт людзей, якія папалі ў палон рэлігійнай цемры,— усё гэта паралізуе дзейнасць цемрашалаў. Сваё перакананне ў шкодзе «вучэння» сектантаў народ выказаў у прыказцы «Ад сектанцкага вучэння — гора ды мучэнне» (АІМЭФ).

Беларускія народна-паэтычныя творы адлюстравалі вя-

[1] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 167.

лікую ролю савецкай навукі ў справе павышэння свядомасці мас, у тым ліку ў росце атэізму. Атэізм нашага народа грунтуецца на навуковым адмаўленні існавання бога і іншых звышнатуральных сіл. «Не бог памагае, а навука»; «Малітва калечыць — навука лечыць»; «Не бог, а сам чалавек прыбаўляе сабе век»; «З богам ісці — шчасце не знайсці; з навукай пойдзеш—шчасце знойдзеш» (АІМЭФ),— з глыбокім перакананнем у праўдзівасці гэтых сцвярджэнняў гаворыць беларускі народ.

Рэлігія пераконвае працоўных ускладаць надзеі на бога і гэтым скоўвае ініцыятыву і энергію іх і перашкаджае актыўнаму ўдзелу ў творчай калектыўнай працы. Народныя творы адзначаюць, што савецкі чалавек спадзяецца не на бога, а на самога сябе, на сваю працу, заснаваную на вялікіх поспехах нашай навукі і тэхнікі. Напрыклад, папоўскім малебнам аб ураджаі беларускія калгаснікі проціпастаўляюць шырокае прымяненне ў сваёй практыцы агратэхнічных ведаў. «І без крапіла і без кадзіла зямля даброй нам урадзіла» (АІМЭФ); «Можам бога навучыць, як хлеб радзіць» (Белар.); «Мы і без бога устроілі, што ўраджай патроілі» (Белар.),—заяўляюць беларускія калгаснікі, якія пераканаліся ў вялікай карысці навуковых ведаў, а не малебнаў. Аб гэтым жа спяваецца ў частушках:

Спадзяецца хто на «неба»,
Той застанецца без хлеба.
Мы навуку паважаем,
Значыць, будзем з ураджаем[1].

Для многіх савецкіх антырэлігійных частушак на гэту і іншыя тэмы характэрна паўтарэнне аднаго з радкоў, у якім найбольш ясна выказана атэістычная думка:

Я вазьму платок у рукі,
Разганю ў полі туман:
Мы дазналіся з навукі,
Што рэлігія — дурман[2].

Разбіваць ілбы не будзем,
У сяле царквы няма.
Бо даведаліся людзі,
Што рэлігія — дурман[3].

Апошні радок «Што рэлігія — дурман», які, нібы рэф-

---

[1] Беларускія частушкі, стар. 96.
[2] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 175.
[3] АІМЭФ, з матэрыялаў, прысланых на конкурс 1960 года.

рэн, паўтараецца не толькі ў гэтых, але і ў многіх іншых частушках, выразна падкрэслівае асноўную думку частушкі.

Новыя велічныя поспехі нашай навукі і тэхнікі аказваюць вялікі агітацыйна-прапагандысцкі ўплыў на масы і садзейнічаюць хутчэйшаму вызваленню людзей, якія яшчэ вераць у бога, ад рэлігійных забабонаў. Асабліва вялікую ролю ў гэтай справе адыгралі дасягненні ў асваенні космасу. Рэлігійныя міфы аб небе і пабудове сусвету развеяліся, як дым. Ужо ў самім факце, што камуністы-бязбожнікі ўтрымліваюць прыарытэт у гэтай галіне, народы свету бачаць пацвярджэнне глыбокай праўдзівасці вучэння, якое адмаўляе рэлігію.

Здзяйсненне адвечных народных мар аб касмічных палётах паслужыла выдатным матэрыялам для складання шматлікіх народных частушак, што яшчэ раз пацвярджае думку аб частушцы як найбольш актыўным жанры, які адклікаецца на ўсе падзеі сучаснасці. Дасягнула савецкая ракета Месяца, даставіла на яго вымпел — і частушкі адлюстроўваюць радасць народа:

Песня коціцца над светам,
Твары ўсмешкай свецяцца,
То савецкая ракета
Дасягнула Месяца [1].

Атэістычныя ідэі, якія выражаюцца ў сувязі з адлюстраваннем гэтай падзеі, часам выказваюцца ў стылі частушак 20—30-х гадоў, для якіх асабліва характэрным быў ваяўнічы атэізм:

Не паклонімся мы богу,
Зубы выб'ем сатане.
І пракладі мы дарогу:
Серп і молат на Луне [2].

Вельмі важна, што паказ дасягненняў у заваяванні космасу спалучаецца ў многіх частушках з прамым выказваннем атэістычных поглядаў савецкага народа:

Поп і рабін нам не трэба,
Мы не веруем багам.
Мы асвоілі ўсё неба,
І яно належыць нам [3].

---

[1] Беларускія частушкі. Мінск, 1960, стар. 166.
[2] АІМЭФ, з матэрыялаў, прысланых на конкурс 1960 года.
[3] Там жа.

Ярка адлюстравана ў беларускім савецкім фальклоры перамога марксісцка-ленінскага вучэння над рэлігійнай ідэалогіяй. Савецкія людзі з вялікай цікавасцю і захапленнем вывучаюць усёперамагаючае вучэнне ленінізма, якое, як магутны пражэктар, асвятляе шлях нашаму народу да камунізма.

Богу я раней малілась,
Бабай цёмнаю была.
А цяпер паразумнела:
Кнігі Леніна ўзяла [1].

Па якой такой прычыне
У бога верыць перасталі?
А па той простай прычыне —
Кніжкі Леніна чыталі [2].

У беларускім савецкім фальклоры адлюстравана таксама вялікае значэнне школы ў атэістычным выхаванні народа:

Ад папоўскага дурману
Адвучыла школа нас.
Мы не верым больш у бога,
Шчасце нам прынёс калгас [3].

Сучасныя народна-паэтычныя творы паказваюць, што нават людзі старэйшага пакалення вызваляюцца ад рэлігійных забабонаў пад уплывам велізарнага навуковага і тэхнічнага прагрэсу ў нашай краіне і вялікай выхаваўчай работы Камуністычнай партыі і савецкага грамадства. У частушках расказваецца, як дзяды і бабулькі адмаўляюцца ад рэлігіі. Старэнькі дзед выкідае з сваёй хаты абразы і заяўляе, што не верыць у бога і пераканаўся, што

Не Хрыстос даў хлеб для нас,
А машына і калгас [4].

«Асмялела» і бабка. Словам «асмялела» вельмі добра падкрэсліваецца, што старым людзям нялёгка было парваць путы рэлігійнай ідэалогіі, якую ўкаранялі ў іх свядомасць з дзіцячых гадоў да глыбокай старасці. І толькі цяпер з вачэй бабкі ўпала заслона, і яна ў царкве здолела сказаць:

---

[1] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі, стар. 173.
[2] АІМЭФ, з матэрыялаў, прысланых на конкурс 1960 года.
[3] Антырэлігійныя казкі, частушкі, прыказкі, стар. 127.
[4] Беларускія частушкі, стар. 95.

Трачу час я задармо.
Лепш пайду глядзець кіно [1].

Вобраз бабкі-бязбожніцы раскрываецца на фоне новага жыцця, новага быту, якія адыгралі галоўную ролю ў вызваленні ад рэлігійнага дурману.

На васьмым дзесятку бабка
Адраклася ад ікон, —
Завяла сабе прыёмнік
І купіла патэфон [2].

Правільныя атэістычныя вывады, заснаваныя на перамозе марксісцкага навукова-матэрыялістычнага светапогляду, робяць беларускія людзі: «Абразы і малебны больш нам не патрэбны»; « У нас тут і без бога светлая дарога» (Белар.); «Вера ў бога забыта — да светлага шчасця дарога адкрыта» (АІМЭФ) і інш.

Савецкі антырэлігійны фальклор даходзіць у сваім бытаванні да самых шырокіх народных мас, у тым ліку і да веруючых, і дзейсна ўплывае на іх выхаванне ў атэістычным духу дзякуючы таму, што атэістычныя творы, як і мастацкія творы наогул, маюць «вялікую сілу мастацкага, эмацыянальнага ўздзеяння на пачуцці і свядомасць людзей» [3] (М. С. Хрушчоў).

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя «дала магчымасць выявіцца і ярка зазззяць талентам і народнай творчасці ўсіх нацыянальнасцей»[4]. Савецкі фальклор — гэта творчасць, якая ўвабрала ў сябе самае лепшае, што «народ пранёс праз стагоддзі», а «ў народзе не можа захавацца тое мастацтва, якое не ўяўляе каштоўнасці. Народ — гэта ўсё роўна, што золаташукальнік, ён выбірае, захоўвае і нясе, шліфуючы на працягу многіх дзесяцігоддзяў, толькі самае каштоўнае, самае геніяльнае» [5],— гаварыў М. І. Калінін.

---

[1] Беларускія частушкі, стар. 95.
[2] Там жа.
[3] «Коммунист», 1961, № 7.
[4] М. И. Калинин. Об искусстве и литературе. Статьи, речи, беседы. М., 1957, стар. 191.
[5] Там жа, стар. 155—156.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Цесна звязаная з жыццём працоўных мас беларуская народная творчасць глыбока і па мастацку ярка адлюстравала светапогляд, мары, спадзяванні і настроі беларускага народа ў розныя гістарычныя эпохі. Вывучэнне фальклорных матэрыялаў дае магчымасць прасачыць працэс развіцця антыклерыкальных і антырэлігійных ідэй у паэтычнай творчасці народных мас.

Важную ролю ў развіцці атэізму адыграла сатыра на духавенства. Асмяянне ў фальклоры прагных, карысталюбных, крывадушных і пажадлівых папоў сведчыць не толькі аб тым, што ў гушчы працоўных мас вельмі мала павагі да царкоўнікаў, але ў пэўнай ступені і аб пашыранасці антырэлігійных настрояў.

Антыпапоўская сатыра заснавана на рэчаіснасці. Яна адлюстравала пратэст працоўнага народа супраць невыноснага прыгнёту з боку папоў, паноў, цара і чыноўнікаў. супраць імкненняў царквы апраўдаць панаванне аднаго чалавека над другім, супраць рэлігіі, якая ўзаконьвае сацыяльную няроўнасць і заклікае да непраціўлення злу. Сатырычныя народныя творы былі магутнай зброяй у барацьбе народа за вызваленне, і гэта зброя найбольш інтэнсіўна выкарыстоўвалася з узмацненнем класавай барацьбы. Аб гэтым сведчыць і тое, што чарадзейныя казкі і легенды ўсё больш і больш выцясняліся з народнага рэпертуару сатырычнымі творамі, цікавасць да якіх павышалася з ростам класавай самасвядомасці.

Ідэі сатырычных твораў найбольш поўна адпавядалі ўзрослым духоўным запатрабаванням працоўных мас, для якіх класавая барацьба была добрай школай выхавання.

Сатырычныя тыпы папа і ксяндза, якія займаюць цэнтральнае месца ў антыклерыкальных творах, увасобілі найбольш характэрнае ў абліччы, паводзінах і ўчынках духавенства. У гэтых вобразах абагульняюцца, падкрэсліваюцца і завастраюцца самыя істотныя сацыяльныя якасці. Сатырычны гратэск, фантастычнае перавелічэнне і завастрэнне, вылучэнне паасобнай рысы характару і акцэнтацыя асноўнай увагі на ёй надаюць вялікую мастацкую сілу асмяянню таго саслоўя, якое выступала ў ролі духоўнага настаўніка ўсіх слаёў тагачаснага грамадства.

Аналіз народна-паэтычных твораў паказвае, які багаты матэрыял дае фальклор для вывучэння светапогляду беларускага народа. Народныя творы сведчаць аб тым, што яшчэ ў дакастрычніцкі час у фальклоры атрымала шырокае распаўсюджанне не толькі крытыка духавенства, але і самой рэлігіі. Беларускія працоўныя ў многіх сваіх казках і легендах, анекдотах і песнях, прыказках і прымаўках раскрылі эксплуататарскую сутнасць царквы, развянчалі царкоўныя ідэалы бога і святых, майстэрскі «знялі вопратку святасці» з свяшчэннага пісання і паказалі яго абсурднасць, выступілі супраць выканання рэлігійных абрадаў, выкрылі махлярства царкоўнікаў у стварэнні «цудаў», адлюстравалі свае адмоўныя адносіны да знахарства, чараўніцтва і г. д. Праўда, у многіх творах яшчэ застаецца месца для веры ў звышнатуральнае — асноўную прымету ўсякай рэлігіі, крытыка рэлігіі і царквы нярэдка адрываецца ў іх ад задач класавай барацьбы.

Але, нягледзячы на абмежаванасць сялянскага светапогляду, што абумоўліваецца гістарычнымі сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі, разгледжаныя вуснапаэтычныя творы сведчаць аб адсутнасці ў беларускага народа «рэлігійнага піэтызму» і схільнасці да «містычнай экзальтацыі», аб перавазе ў іх «разумнага сэнсу, яснасці і станоўчасці» (выразы В. Р. Бялінскага). Усю складанасць светапогляду сялян, іх класавую абмежаванасць, з аднаго боку, і ўдзел у змаганні за вызваленне ад усякага прыгнёту, з другога боку, а таксама іх адносіны да прапаведнікаў рэлігіі глыбока раскрыў У. І. Ленін: «Калі было прыгоннае права,— уся маса сялян змагалася са сваімі прыгнятальнікамі, з класам памешчыкаў, якіх ахоўваў, абараняў і падтрымліваў царскі ўрад. Сяляне не маглі аб'яднацца, сяляне былі тады зусім задушаны цемрай, у сялян не было памочнікаў і братоў сярод гарадскіх рабочых, але сяляне ўсё ж змагаліся, як уме-

лі і як маглі. Сяляне не баяліся зверскіх праследаванняў урада, не баяліся экзекуцый і куль, сяляне не верылі папам, якія са скуры лезлі, даказваючы, што прыгоннае права ўхвалена свяшчэнным пісаннем і ўзаконена богам (прама так і гаварыў тады мітрапаліт Філарэт!), сяляне ўзнімаліся то тут, то там, і ўрад нарэшце ўступіў, баючыся агульнага паўстання ўсіх сялян»[1]. Гэтыя супярэчнасці ў светапоглядзе беларускіх сялян адбіліся і на ідэйным змесце фальклорных твораў.

Вуснапаэтычныя творы, у якіх выражаны атэістычныя настроі нашага народа, пацвярджаюць думку М. А. Дабралюбава пра беларускага селяніна таго часу, якога рэакцыянеры лічылі канчаткова забітым і разумова адсталым. «Адносна беларускага селяніна,— пісаў М. А. Дабралюбаў,— справа даўно вырашаная: забіты канчаткова, так што нават пазбавіўся ўжывання чалавечых здольнасцей. Не ведаем, у якой меры ілжыва гэта думка, таму што не вывучалі спецыяльна беларускага краю; але паверыць ёй, зразумела, не можам. Цэлы край так вось узялі дый забілі,— як бы не так!» [2].

І сапраўды, вывучэнне вуснапаэтычнай творчасці нашага народа сведчыць аб тым, што так званы «забіты» беларускі селянін нярэдка вырываўся з палону рэлігійнага дурману і тым самым падымаўся вышэй многіх яго суддзяў.

Адлюстраванне антырэлігійных настрояў працоўных мас у разглядаемых творах мае сваю ідэйна-мастацкую спецыфіку. Атэістычныя ідэі ў казках і легендах, дзе галоўнымі персанажамі выступаюць бог і святыя, выражаюцца галоўным чынам праз своеасаблівае пераўвасабленне біблейскіх герояў, якіх народ апускае з нябеснай вышыні на зямлю. Яны дзейнічаюць у рэальных абставінах і паўстаюць у вобразах звычайных людзей з рознымі заганамі.

Адным з самых распаўсюджаных спосабаў увасаблення атэістычных ідэй пры асмяянні свяшчэннага пісання, царкоўных набажэнстваў, пропаведзей служак культу і малітваў было сатырычнае парадзіраванне.

Значнае месца займалі антырэлігійныя матывы ў народнай тэатральнай творчасці, развіцця якой вельмі баяліся царкоўнікі. Яшчэ П. Марозаў, дарэвалюцыйны буржуазны гісторык рускага тэатра, адзначаў: «Царква, у асобе сваіх

---

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 6, стар. 388.
[2] Н. А. Добролюбов. Избранные философские сочинения, т. II. М., 1948, стар. 311.

пастыраў і прапаведнікаў, нястомна змагаючыся супраць усякіх праяўленняў народнай весялосці, супраць усяго, што ішло ўразрэз з яе аскетычным ідэалам, асабліва праследавала гэтых прафесіянальных пацешнікаў [скамарохаў] і пагражала вечнымі мукамі не толькі ім самім, але і ўсякаму, хто стане іх слухаць; але пагрозы нікольні не перашкаджалі ім пладзіцца і множыцца ва ўсіх краях рускай зямлі»[1].

Народнае вуснапаэтычнае мастацтва не толькі само развівалася насуперак жаданням царквы і ў барацьбе з яе перашкодамі, але і аказвала вялікі ўплыў на мастакоў-прафесіяналаў, на пісьменнікаў і паэтаў. Ідэі, матывы, сюжэты фальклорных твораў, у тым ліку і разгледжаных тут, жывілі літаратуру са старажытных часоў. Плённы ўплыў антырэлігійных фальклорных ідэй зведалі на сабе аўтары ананімных твораў, а таксама Ф. Багушэвіч («Быў у чыстцы», «Бог не роўна дзеле»), Я. Купала («Слугам алтарным», «Мая вера»), Я. Колас («Трывога», «Чорт», «Святы Ян», «Як Янка забагацеў», «Як поп зрабіўся авіятарам») і іншыя беларускія пісьменнікі і паэты.

Народна-паэтычныя і літаратурныя творы, накіраваныя супраць царквы і рэлігіі, адпавядалі настроям і духоўным запатрабаванням значнай часткі працоўных, даходзілі да самых глыбокіх слаёў насельніцтва і таму адыгралі вялікую ролю ў росце свядомасці народа.

Велізарнае ідэйна-мастацкае багацце беларускага фальклору, якое раскрываецца пры аналізе твораў па адной з вельмі важных сацыяльна-палітычных тэм, — сведчанне шматграннасці інтарэсаў і велічы духоўных запатрабаванняў беларускага народа. «Істотныя якасці народнай паэзіі, дастойнай сваёй назвы,— адзначаў М. Г. Чарнышэўскі,— відавочны з якасцей народа, якому яна належыць, з акалічнасцей яе паходжання і ролі, якую яна адыгрывае ў творчым жыцці»[2]. У народнай паэзіі на працягу стагоддзяў заставаліся жыць толькі самыя каштоўныя творы, увасобіўшыя народную мудрасць і багаты практычны вопыт, і таму фальклор па праву можна назваць своеасаблівым падручнікам жыцця, які не толькі не меў нічога агульнага з рэлігійным вучэннем, але і накіроўваў думку працоўных у супрацьлеглым напрамку.

---

[1] П. О. Морозов. История русского театра до половины XVIII столетия. СПб., 1889, стар. 15.

[2] Н. Г. Чернышевский. Полн. собр. соч., т. II. М., 1949, стар. 297.

Антырэлігійныя матывы ў беларускім фальклоры яшчэ з большай сілай і выразнасцю загучалі з перамогай Вялікага Кастрычніка. Не страціла сваёй вастрыні і антыпапоўская сатыра, асабліва ў першыя дзесяцігоддзі існавання савецкай дзяржавы. Пераважная большасць працоўных бачыла, што «намеснікі Хрыста на зямлі — князі царквы, епіскапы, рэлігійныя філосафы — і ў нашы дні застаюцца такімі ж «гасіцелямі розуму» і чалавеканенавіснікамі, якімі яны былі заўсёды, а асабліва з таго часу, калі хрысціянства было прызнана дзяржаўнай рэлігіяй» [1],— пісаў у пачатку 30-х гадоў М. Горкі.

Традыцыйныя антыпапоўскія народныя творы ўспрымаюцца ў савецкі час па-новаму праз ясны аб'ектыў высокай класавай самасвядомасці.

Побач з традыцыйнымі ўзнікла нямала новых твораў, у якіх поп паказваўся як класавы вораг: удзельнік контррэвалюцыйнай барацьбы супраць улады рабочых і сялян, агент белагвардзейцаў і інтэрвентаў, вораг калгаснага ладу. У сваіх творах беларускія працоўныя гнеўна заклеймавалі контррэвалюцыйную дзейнасць часткі духавенства, рэалістычна, у канкрэтна-гістарычных абставінах, паказалі іх ганебную ролю.

У савецкі час паступова страчваюць сваю папулярнасць антыпапоўскія казкі. Затое вельмі шырокае распаўсюджанне атрымліваюць частушкі, актыўна бытуюць антыпапоўскія анекдоты, прыказкі і прымаўкі. Антыклерыкальныя і антырэлігійныя ідэі з мастацкай дасканаласцю ўвасабляюцца таксама ў вусных сказах, якія былі найбольш распаўсюджаны ў 20—40-х гадах.

Савецкія антырэлігійныя сказы і анекдоты, песні і частушкі, прыказкі і прымаўкі — гэта якасна новыя творы, якія адлюстравалі перамогу матэрыялізму ў свядомасці шырокіх народных мас. Новыя сацыяльна-эканамічныя ўмовы жыцця народаў нашай краіны абумовілі перамогу атэістычнага светапогляду, што выклікала ідэйна-мастацкія змены ў антырэлігійных творах.

Антырэлігійныя творы, складзеныя ў савецкі час, характарызуюцца ваяўнічым і паслядоўным атэізмам, высокай ідэйнасцю і мэтанакіраванасцю.

Савецкі антырэлігійны фальклор бязлітасна выкрывае

---

[1] М. Горький. О религии. М., 1940, стар. 47.

рэакцыйную сутнасць рэлігіі з новых, навукова-матэрыялістычных пазіцый.

У беларускім фальклоры глыбока адлюстравана барацьба перадавых савецкіх людзей супраць рэлігіі, паказана вялікая выхаваўчая і арганізуючая роля Камуністычнай партыі ў змаганні за высокую свядомасць савецкага народа.

Можна з упэўненасцю аднесці і да беларускага фальклору мудрыя словы М. Горкага, які гаварыў, што «нам трэба цвёрда прызнаць і помніць, што мастацкая творчасць працоўных мас не знікла, не забіта стагоддзямі паднявольнай, катаржнай працы на ўсеўладную адзінку..., нам трэба прызнаць, што здольнасць працоўных мас да вобразнай творчасці слова ўзнікае і павінна ўзнікнуць, таму што рэвалюцыя вызваляе чалавека не толькі сацыяльна, фізічна, але і эмацыянальна, інтэлектуальна» [1].

Антырэлігійны фальклор і цяпер адыгрывае станоўчую ролю ў барацьбе супраць рэштkaў рэлігійнай ідэалогіі за канчатковую перамогу навукова-матэрыялістычнага светапогляду ва ўсіх савецкіх людзей.

У. І. Ленін пісаў, што «масам неабходна даць самы разнастайны матэрыял па атэістычнай прапагандзе, знаёміць іх з фактамі з самых розных галін жыцця, падысці да іх і так і гэтак для таго, каб іх зацікавіць, прабудзіць іх ад рэлігійнага сну, узварухнуць іх з самых розных бакоў, самымі рознымі спосабамі і т. п.» [2] Фальклор якраз і з'яўляецца адным з такіх матэрыялаў, што з поспехам можа быць выкарыстан у камуністычным выхаванні, якому наша партыя надае асабліва вялікае значэнне цяпер, у перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма. «Партыя,— адзначаецца ў Праграме КПСС,— разглядае барацьбу з праяўленнямі буржуазнай ідэалогіі і маралі, з рэшткамі прыватнаўласніцкай псіхалогіі, забабонаў і прадрассудкаў як састаўную частку работы па камуністычнаму выхаванню» [3].

---

[1] М. Горький. Собр. соч., т. 20, стар. 53.
[2] У. І. Ленін. Творы, т. 33, стар. 204.
[3] «Праграма Камуністычнай партыі Савецкага Саюза». Мінск, 1961, стар. 123.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

АІМЭФ — Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

Антырэліг. — Антырэлігійныя казкі, частушкі, прыказкі. Мінск, 1961.

Дабр. — В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. III, СПб, 1894.

Белар. — Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі. Мінск, 1939.

Ляцкі — Е. А. Ляцкий. Материалы для изучения творчества и быта белорусов. 1 — пословицы, поговорки, загадки. М., 1898.

Насовіч — И. И. Носович. Сборник белорусских пословиц, СПб. 1874.

Рапан. — Я. Рапановіч. Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі. Мінск, 1958.

Сержп. — А. К. Сержпутоўскі. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мінск, 1930. А. К. Сержпутоўскі. Беларускія народныя прыказкі. Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (рукапіс).

Федар. — M. Federowski. Lud bialoruski, t. IV. Warszawa, 1935.

Шэйн — П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. II, СПб, 1893.

Янк. — Ф. Янкоўскі. Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі. Мінск, 1957.

## ЗМЕСТ

